ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

12 снежня 1997 г. № 50/3926 Кошт 3 000 руб.





*За вакном Еўропа і зіма,*
*Вецер за вакном, нібы сурма .*
*Праз стагоддзі*
*ў нашым дні гучыць.*

*Ціха свечка на вакне гарыць.*
*Трэба жыць і бачыць далягляд.*
*Засталося мала да Каляд.*

*Фота Паўла Зубрыцкага*

## КОЛА ДЗЁН

***У Расіі — новы крызіс улады. На гэты раз звязаны ён з некалькімі трагедыямі, што адна за адной адбыліся ў краіне. На шахце ў Новакузнецку і пры падзенні самалёта на жылы дом у Іркуцку загінула па 67 чалавек. Яшчэ адной трагедыі, пасля захопу тэрарыстам самалёта Магадан—Масква, удалося пазбегнуць... Расійская апазіцыя абвінавачвае ўлады, і найперш прэзідэнта, у развале эканомікі краіны, у карупцыі і іншых грахах, якія і прывялі да няшчасцяў. Але ў адной з перадач расійская тэлебачання прагучала і іншая думка на гэты конт: ва ўсім гэтым вінаваты... СМІ. Дакладней, тое, што ў гарбачоўскія часы называлася словам "галоснасць", а цяпер у Расіі стала звычайнай з'явай. Маўляў, буйныя аварыі здараліся і раней, але мы пра іх тады нічога не ведалі: партыя замоўчвала. І як прыклад — Чарнобыль... Што ж, апазіцыйная праўда ў гэтым сцвярджэнні ёсць. Асабліва, калі глядзець на расійскія падзеі адсюль, з Беларусі. Мяркуючы па нашай прэсе і тэлебачанні, у нас цяпер усё не так як у Расіі, стабільнасць пануе і спакой. Толькі дзе-ніндзе прамільгне кароткая інфармацыя пра тое, што бастуюць рабочыя "Гомсельмаша", бо з верасня не атрымліваюць заробак, што галадаюць рабочыя мінскага метрапалітэна, што нейкі беларус-апазіцыянер у Швецыі падпаліў на тэрыторыі расійскага пасольства аўтамашыну, каб прыцягнуць увагу Б. Ельцына да сітуацыі з правамі чалавека на Беларусі... А ў астатнім "усё добра, цудоўная маркіза", усё проста выдатна... Яшчэ зусім нядаўна была газета "Свабода", дзе можна было знайсці нейкую малавядомую інфармацыю і нечаканы погляд на вядомую. А сёння, мяркуючы па СМІ, адбываецца нешта толькі ў самых вярхах: сустрэчы, нарады, сходы і г.д. Краіна ўпарта працуе над выкананнем новых распараджэнняў і ўказаў. І гэта штодзень — галоўная навіна дня.***

### НАДЗЕЯ ТЫДНЯ

На 17 снежня прызначана чарговае пасяджэнне Вышэйшай рады Саюза Беларусі і Расіі. На ім мяркуецца разгледзець пытанні па далейшай інтэграцыі і збліжэнні нашых краін. Словы гэтыя — агульныя, але больш падрабязна пра парадак дня пасяджэння пакуль не гаворыцца. Хоць і ходзяць чуткі, што размова на ім можа пайсці пра хуткае аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі, звязанае з дэнамінацыяй у Расіі і ростам колькасці нулёў у нас... Планавалася і сустрэча прэзідэнтаў дзвюх дзяржаў. Праўда, цяпер, у сувязі з чарговай хваробай Б. Ельцына, яна пад пагрозай зрыву, як, дарэчы, і само пасяджэнне.

### СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

У наступным годзе спаўняецца 50 гадоў з дня прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Беларусь ужо сёлета пачала рыхтавацца да гэтага вялікага свята: А. Лукашэнка падпісаў распараджэнне, якое абавязвае дзяржаўныя органы "забяспечыць правядзенне мерапрыемстваў, прысвечаных гэтаму юбілею". Да 15 снежня Адміністрацыя прэзідэнта павінна ўнесці прэзідэнту прапановы аб складзе Нацыянальнага камітэта па святкаванні 50-годдзя Дэкларацыі... А сёлета 10 снежня дата была не круглая і таму адзначалася яна толькі апазіцыяй. На плошчы Якуба Коласа ў вечаровай цемры адбыўся мітынг, праведзены аргкамітэтам "Хартыі-97".

### ПРАЖЭКТ ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі С. Лінг падпісаў графік прыватызацыі ў нашай краіне, які быў распрацаваны ў развіццё Мемарандума аб узаемаразуменні паміж урадам Беларусі і Сусветным банкам... Паводле гэтага графіка да 1 ліпеня 1999 года прыватнымі павінны стаць усе беларускія прадпрыемствы, на якіх працуе ад 25 да 200 чалавек. Гэта тычыцца найперш будаўнічых арганізацый, прамысловых прадпрыемстваў, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання... Гандлёвыя прадпрыемствы павінны стаць прыватнымі ўсе, незалежна ад колькасці працуючых. Верыцца ў рэальнасць гэтых планаў з цяжкасцю. На нядаўнім аўкцыёне ў Лідзе з чатырох выстаўленых на продаж прадпрыемстваў куплена толькі адно — былая сталовая. Падобная карціна назіраецца і ў іншых гарадах, далёкіх ад сталіцы. У тых, хто мог бы купіць, няма грошай, а тыя, у каго ёсць грошы, даўно ўжо ўкладваюць іх у нерухомасць і бізнес за межамі Беларусі.

### УКАЗ ТЫДНЯ

5 снежня прэзідэнт Беларусі падпісаў указ "Аб рэагаванні службовых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі". Указ гэты, скажуць адны, вяртае нас у "добрыя" старыя, савецкія часы. Другія скажуць, што дзякуючы яму прэса і сапраўды нарэшце можа стаць рэальнай чацвёртай уладай. Можа, і сапраўды, прэстыж і рэйтынг дзяржаўных СМІ у пэўных колах (чыноўных, "вертыкальных") павысіцца, але ці стануць яны ад гэтага... (не, не больш цікавымі, разнастайнымі і чытэльнымі...) больш смелымі?..

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Безумоўна, галоўным прыхільнікам інтэграцыі Беларусі і Расіі на расійскім баку з'яўляецца мэр Масквы Ю. Лужкоў. Гэта пацвердзіў ён і падчас свайго апошняга прыезду на Беларусь. Зразумела, у ходзе двухгадзіннай сустрэчы Ю. Лужкова з прэзідэнтам Беларусі размова ішла выключна пра эканамічныя аспекты супрацоўніцтва. Розным прыдумкам гэтак званай незалежнай прэсы пра палітычны альянс Ю. Лужкова і А. Лукашэнкі, скіраваны супраць Б. Ельцына і "маладых рэфарматараў", верыць не будзем. А тым больш — абмяркоўваць...

### НАМЕР ТЫДНЯ

Мажліва, у наступным годзе пачнецца рэстаўрацыя Нясвіжскага палацапаркавага ансамбля. Прынамсі, інстытут "Мінскграмадзянпраект" атрымаў распараджэнне прэзідэнта Беларусі аб падрыхтоўцы дакументацыі дзеля гэтага. Па чутках, былая рэзідэнцыя Радзівілаў можа стаць рэзідэнцыяй першага прэзідэнта Беларусі... Гэта добра, што пасля рэканструкцыі стадыёна "Дынама" ў нашых улад дайшлі рукі да аб'ектаў культуры. Аднак, дзякуючы таму, што ў ім быў санаторый, Нясвіжскі палаца-паркавы ансамбль захаваўся ў нядрэнным стане. А сапраўднай рэстаўрацыі па-ранейшаму чакаюць не дачакаюцца замкі ў Наваградку, Міры, Гальшанах, Косаве...

### КОНКУРС ТЫДНЯ

Не хочацца падаць ханжой, пурытанінам ці проста старамодным чалавекам... І тым не менш, конкурс, аб'яўлены газетай "Знамя юности", чамусьці выклікае старамоднае пачуццё няіякаватасці ад відавочнай бязгустоўнасці. Конкурс называецца "Секс-сімвал-97". Па дзесяцібальнай сістэме чытачы "ЗЮ" павінны ацаніць, паводле прапанаванага спіса (у алфавітным парадку) 50 самых вядомых беларускіх мужчын. Ад А. Лукашэнкі да У. Янчэўскага. ( Ёсць там, дарэчы, і Кебіч, і Ціцянкоў, і два Пазнякі, Замяталін, Ганчар, Шушкевіч, Пашкевіч, Фядута, Зімоўскі, Шарамет...) "Кто он — секс-символ уходящего года?" — пытаецца ў чытачоў "ЗЮ" і радуецца, што людзей "понятливых" сярод яе чытачоў — большасць. А што рабіць нам, не зусім непаняткліваым, тым, каго тая ж "ЗЮ" загадзя называе "ідыётамі"? Вядома, маўчаць і не здзіўляцца, каб не падаць несучаснымі... І ўсё-такі, хлопцы, нешта вы тут ці перамудрылі, ці недадумалі, ці сексапільна пажартавалі...

# Тыдзень рускай літаратуры



Гэткія прадстаўнічыя літаратурныя дэлегацыі не наведваліся раней да нас ніколі. Шаснаццаць рускіх літаратараў, сярод якіх найзнакамітыя празаікі В. Распуцін, П. Праскурын, У. Крупін, У. Карпаў, паэты Ю. Кузняцоў, У. Кастроў, І. Ляпін, В. Сарокін на чале з першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Расіі В. Ганічавым прыехалі ў панядзелак у Мінск, каб правесці Тыдзень рускай літаратуры на Беларусі. У гэты ж дзень наладзілася прэс-канферэнцыя з рускімі пісьменнікамі ў Доме прэсы, адбыліся літаратурныя вечарыны з іх удзелам у БДУ і Універсітэце культуры.

На прэс-канферэнцыі і на сустрэчах са студэнтамі госці катэгарычна выказваліся супраць таго, што іх прыезд мае палітычны аспект і ўпісваецца ў кантэкст іншых палітычных акцый, скіраваных у перспектыве на аб'яднанне Беларусі і Расіі. Тым не менш як для тых, хто задаваў пра гэта пытанні, так і для тых, хто на іх адказваў, менавіта палітычны падтэкст літаратурнага тыдня быў відавочны па-за словамі.

З раніцы ў аўторак дэлегацыя рускіх літаратараў групамі раз'ехалася ў абласныя цэнтры, па вяртанні адкуль дэлегацыю, прымае сёння прэзідэнт Беларусі.

*На здымку: у час прэс-канферэнцыі ў Доме прэсы.*

*Фота К. Дробава.*

ЧЫТАННІ

# Свята Купалы ў Гародні

Для кожнага чалавека павінен існаваць покліч, які зрушыць сэрца і душу, прымусіць да дзеяння і яднання. Для беларусаў — гэта імя народнага песняра Янкі Купалы. Менавіта яно злучыла ўдзельнікаў Міжнародных купалаўскіх чытанняў, што адбываліся 25—26 лістапада ў Гародні. Мерапрыемства было арганізавана і праведзена сумеснымі намаганнямі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Пра тое, што гэта была не звычайная дзяжурная акцыя, сведчыць і склад удзельнікаў, і ўзровень дакладаў, і надзвычайная атмасфера чытанняў.

Цёплымі словамі адкрыў чытанні рэктар ГрДУ імя Я. Купалы прафесар С. Маскевіч. Непарыўную повязь творчасці беларускага генія і нацыянальнай паэзіі асэнсаваў у сваім дакладзе прафесар У. Гніламёдаў. Падзяліўся ідэямі, напрацоўкамі і праблемамі выдання Першага поўнага збору твораў Я. Купалы член-карэспандэнт НАН М. Мушынскі. Выступілі прафесар М. Мішчанчук (Брэст) і пісьменнік Сакрат Яновіч (Польшча).

Глыбінёй і шчырасцю былі пазначаны словы кожнага ўдзельніка. Спадчына "бацькі нацыі" была прадстаўлена ў розных асэнсаваннях і разрэзах. Літаратуразнаўчы аспект значна ўзмацняўся філасофскай і культуралагічнай падсветкай. Распрацоўкі пытанняў тэксталогіі і перакладу арганічна злучаліся з мовазнаўчымі даследаваннямі. Навейшыя архіўныя знаходкі і краязнаўчыя адкрыцці гучалі арыгінальным дапаўненнем. І, безумоўна, надзвычай важнымі аказаліся метадалагічныя распрацоўкі выкладчыкаў ВНУ і настаўнікаў сярэдніх школ. Такім чынам, амаль усе сферы культурнага жыцця і праявы нацыянальнай свядомасці былі прадстаўлены і асэнсаваны на гэтым сапраўдным свяце купалазнаўства.

Нацыянальны літаратурны музей Янкі Купалы перадаў Гродзенскаму універсітэту бюст народнага песняра (аўтар — А. Бембель).

Спонсарская падтрымка чытанням была аказана Упраўленнем культуры Гродзенскага аблвыканкама і многімі прадпрыемствамі горада, а таксама Саюзам палякаў Беларусі. А ўсе творчыя і дабрачынныя намаганні злучылі ў адно цэлае супрацоўнікі кафедры беларускай літаратуры ГрДУ на чале з загадчыкам дацэнтам М. Мікулічам.

Чытанні яшчэ раз сцвердзілі жыватворную моц ідэй беларушчыны, якія ўслаўляў і прарочыў Янка Купала.

**Анатоль РАМАНЧУК**

ВЫСТАВЫ

# Брама ў мінулае

"У кожнага горада ёсць свой монстр", — вычытаў я неяк у часопісе для архітэктараў. Гаворка ішла пра пабудовы, якія сваім аблічам ствараюць дысананс з гарадскім асяроддзем, што склалася гістарычна. У дадзеным выпадку слова "монстр" не абраза, а толькі эмацыянальная характарыстыка. У адных выпадках да "монстра" прызвычайваюцца, як прызвычаіліся парыжане да Эйфелевай вежы і рымляне да манумента каралю Віктару-Эмануілу II, у другіх — гарадское асяроддзе не прымае занадта агрэсіўны аб'ект. Сёння ў аб'яднанай Германіі паўстала пытанне, што рабіць з манументальнай спадчынай ГДРаўскага сацыялізму. Няк адаптаваць да новай культурнай і палітычнай сітуацыі "монстраў" ГДРаўскай "манументальнай прапаганды" альбо зрабіць з імі тое ж, што пасля вайны зрабілі з манументамі Трэцяга рэйха?

У святле гэтай праблемы я ўспрымаў выставу твораў нямецкага фотамастака Франка Ціля, што экспанавалася з 13 лістапада па 7 снежня ў бібліятэцы імя Янкі Купалы. Гэта выстава з серыі "Аспекты сучаснай нямецкай фатаграфіі". Арганізавана яна, як і папярэднія выставы серыі, Інстытутам імя Гётэ і Нямецкім інстытутам міжнародных сувязяў.

Франк Ціль нарадзіўся ў 1966 годзе. Час ягонага сталення выпаў на гады, калі дзяржаўная мяжа ГДР і ФРГ ужо не ўспрымалася як франтавая паласа, калі аб'яднанне Германіі лічылася справаю непазбежнаю, і пытанне было аб часе, які можна было прыспешыць альбо зацягнуць.

Фатаграфуючы манументальныя аб'екты Усходняга Берліна, Берлінскі мур — гэты сімвал раз'яднанай Еўропы, Франк Ціль нібыта фіксаваў для гісторыі адыходзячую эпоху. Дарэчы, з 1985 года Ф. Ціль жыў у ФРГ, куды ён трапіў у рамках абмену палітзняволенымі. А ў ГДРаўскую турму ён трапіў незадоўга да заканчэння сярэдняй школы за палітычную актыўнасць. Можа, менавіта гэты спецыфічны вопыт і натхніў фотамайстра на рэалізацыю праекта "Турэмныя брамы". Некалькі твораў гэтага цыкла таксама былі прадстаўлены на выставе. У адрозненне ад Берлінскага мура і шэрагу манументаў ГДРаўскіх часоў, якія зніклі разам з ГДР, турма — рэч універсальная і ўсім уладам прыдатная. Пакуль што ніводная краіна не можа абысціся без такіх устаноў. На фотаздымках Ф. Ціля брамы месцаў зняволення ўражваюць сваёй, так бы мовіць, пазачасавасцю. Можа, і непрыемна гэта канстатаваць, але ў гэтых аб'ектах ёсць нешта ад вечнасці. Тое, што і ў адкрытым грамадстве ёсць патрэба ўтрымліваць закрытыя зоны, мабыць, трэба аднесці да хранічных хібаў чалавечай натуры.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ДРУК

# "Веды" дзеля... ведаў

Выйшаў першы нумар інфармацыйна-аналітычнай газеты Беларусі "Веды". Яна будзе выдавацца замест добра вядомых многім чытачам "Навін Акадэміі навук Беларусі". Праўда, пераемніцай яе не з'яўляецца, бо, па-першае, пашырылася кола заснавальнікаў — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі РБ, Беларускі дзяржаўны універсітэт, а па-другое, што галоўнае, "Веды" павінны садзейнічаць "важнай справе ўмацавання ўзаемасувязей паміж вучонымі і грамадствам, інфармавання шырокіх колаў чытачоў у Беларусі і за яе межамі аб праблемах, жыцці і дасягненнях вучоных, іх практычным укладзе ў развіццё народнай гаспадаркі рэспублікі, пашырэння вучонымі сваёй адукацыйнай і асветніцкай дзейнасці". Прынамсі, такія пажаданні гучаць у лісце прэзідэнта НАН Беларусі акадэміка А. Вайтовіча, факсіміле якога прапануецца на першай старонцы газеты.

"Веды" будуць выходзіць раз на тыдзень лімаўскім фарматам, аб'ём — восем палос.

НОВАЕ

# Усё лепшае — у "Залатой серыі"

***Напрыканцы XX стагоддзя выдавецтва "Мастацкая літаратура" вырашыла зафіксаваць для нашчадкаў лепшыя набыткі нацыянальнай літаратуры, створаныя менавіта ў гэтым стагоддзі. Распачата праца над бібліятэкай, якая атрымала назву "Залатая серыя". Будуць у ёй і падраздзелы: "Паэзія XX стагоддзя" і "Проза XX стагоддзя". Падрабязней расказаць пра гэтую задуму наш карэспандэнт папрасіў загадчыка рэдакцыі Збору твораў, выбраных твораў, крытыкі і драматургіі Леаніда ЛЕВАНОВІЧА.***

**— Леанід Кірэевіч, выпуск такой бібліятэкі — справа не толькі важная і адказная. Але, будзем справядлівымі: калі з'яўляецца чарговая выдавецкая серыя, адразу ж знаходзіцца нямала ахвотнікаў трапіць у яе. Асобныя настырныя літаратары праўдамі і няпраўдамі паспрабуюць дамагчыся свайго... Ці не атрымаецца нешта падобнае і з "Залатой серыяй" і ў ёй з'явіцца і тое, што ў лепшым выпадку толькі крыху "пазалочана"?**

— У "Залатую серыю" будуць уключаны толькі лепшыя творы выдатных беларускіх паэтаў і празаікаў, якія складаюць залаты фонд нашай нацыянальнай літаратуры. А патрабаванні пры адборы твора будуць самыя строгія. Рабіць гэта будзе рэдакцыйная калегія, што створана пры выдавецтве. У яе ўвайшлі Серафім Андраюк, Уладзімір Гніламёдаў, Алесь Пісьмянкоў, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Рагойша, Люба Тарасюк, а таксама ваш суразмоўнік.

**— А калі серыя "залатая", дык, мабыць, кожная кніга стане не такога і вялікага аб'ёму?**

— Памер кніг такі: паэзія — ад 8 да 12 улікова-выдавецкіх аркушаў, проза — ад 18 да 25 аркушаў.

**— Выданні такога кшталту мусяць быць бездакорнымі ва ўсіх адносінах...**

— Кнігі серыі будуць вылучацца адмысловым афармленнем. На вокладцы з'явяцца рэпрадукцыі карцін беларускіх мастакоў. Рэпрадукцыю падбярэ сам аўтар або мастацкі рэдактар, у канцы выдання будзе кароткае пасляслоўе, біяграфічныя звесткі пра паэта ці празаіка.

**— І каму выпадзе гонар адкрыць "Залатую серыю"?**

— Гэта адбудзецца ў наступным, 1998 годзе, а першай у "Залатой серыі" — выйдзе кніга выбраных твораў Еўдакіі Лось, паэткі, творы якой рэдка выдаваліся апошнім часам. Падрыхтаваны да друку кнігі Раісы Баравіковай, Леаніда Дранько-Майсюка і Алеся Разанава. А "Залатую серыю. Проза XX стагоддзя" адкрые выдатны раман Уладзіміра Караткевіча *"Каласы пад сярпом тваім"*. Мяркуем выдаць таксама кнігі Віктара Казько і Анатоля Кудраўца.

**— Але ж выдавецтва жыве не толькі сённяшнім днём?**

— Мы зрабілі прыкідку на апошнія два гады стагоддзя. Сярод паэтаў, чые кнігі мяркуем выдаць у новай серыі, — Якуб Колас, Уладзімір Дубоўка, Ларыса Геніюш, Васіль Вітка, Аляксей Пысін, Ніна Мацяш, Уладзімір Някляеў, Ян Чыквін і іншыя. На пачатку 1999 года мяркуем выдаць у "Залатой серыі" *кнігу народнага пісьменніка* Беларусі Васіля Быкава. Васіль Уладзіміравіч паабяцаў нам некалькі сваіх аповесцяў. У далейшых планах — выпуск кніг такіх знакамітых празаікаў, як Кузьма Чорны, Аляксей Кулакоўскі, народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў. Плануем і кнігі Алеся Жука, Андрэя Федарэнкі...

**— "Залатая серыя", Леанід Кірэевіч, безумоўна добра, але ж ёсць...**

— Разумею, хочаце сказаць пра "Беларускі кнігазбор". Разам з Кастусём Цвіркам мы пераглядзелі нашы планы, каб не атрымаўся "збег зычных".

**— Кнігу мала выдаць, кнігу трэба і распаўсюдзіць, а сёння з гэтым нялёгка...**

— Прыемна адзначыць, што "Залатая серыя" зацікавіла кнігагандляроў, бібліятэкараў, увогуле шматлікіх чытачоў. Пра гэта сведчаць заказы на гэтыя кнігі. І ўсё ж, хацелася б, каб заказаў было болей, тады і кошт выданняў не так бы палохаў пакупнікоў. Дарэчы, зрабіць заказ можна і зараз, і на пачатку будучага года.

**Гутарыў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

АНОНС

# Невядомая Украіна

Сёння, 12 снежня, у канферэнцзале Дома літаратара ў рамках міжнароднай канферэнцыі "Беларусь і Украіна: вынікі стагоддзя" адбудзецца вечарына-сустрэча з украінскімі літаратарамі. У Мінск прыедуць Юрый Андруховіч (удзельнік суполкі "Бу-Ба-Бу", паэт, аўтар раманаў "Маскавіяда. Раман жахаў" і "Перверзії"), Аксана Забужко ("Палявыя даследаванні ўкраінскага сексу"), Уладзімір Цыбулько ("Анёлы і тэксты"), Іздрык ("Воцэк"), Мікола Рабчук, Наталка Белацарківец, а таксама шматлікія іншыя інтэлектуалы. Пачатак а 19 гадзіне.

А Ў НАС?

# У тым ліку і ў арміі

— Дзяржаўная мова ў нас, натуральна, украінская. Усё справаводства даўно пераведзена на ўкраінскую, у тым ліку, вядома, і ў арміі. А што да зносін, дык, як не можаш, калі ласка, скарыстоўвай рускую мову. У войсках большасць ужо між сабою зносіцца на ўкраінскай. Ніякіх ганенняў на моўнай глебе няма. "Мяккая" праграма ў войсках дала магчымасць вайскоўцам асвоіць украінскую мову. У сістэме баявой падрыхтоўкі і зараз ёсць заняткі па вывучэнні украінскай мовы. Сярод афіцэраў нямала служыць рускіх, беларусаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, але, не дзеля прыгожага слоўца, аніякага абвастрэння нацыянальнага пытання ў нас няма. У вышэйшым кіраўніцтве ёсць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей — у званні генералаў...

*(З інтэрв'ю ваеннага і ваеннапаветранага аташэ пры пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь палкоўніка Андрэя Дзеравянкі "Народнай газеце", 5 снежня 1997 г.)*

# Развітальны вечар

Скончыўся тэрмін знаходжання ў нашай краіне пасла Федэратыўнай Рэспублікі Германія спадара Готфрыда Альбрэхта. З гэтай нагоды 9 снежня ў Доме дружбы адбыўся развітальны вечар.

Арганізатары вечара — германскае пасольства і нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ. Гасцямі былі афіцыйныя асобы і людзі мастацтва і культуры — літаратары, мастакі, акцёры. Большасць з якіх у той ці іншай форме супрацоўнічае з Мінскім інстытутам Гётэ. Яно і не дзіўна, бо пасля таго, як у Беларусі была спынена дзейнасць Фонду Сораса, інстытут Гётэ застаўся ці не адзіным спонсарам многіх культурных праектаў.

На вечары ў афіцыйных прамовах і неафіцыйных размовах адзначаліся заслугі сп. Альбрэхта ў развіцці кантактаў паміж нашымі краінамі і ва ўсталяванні клімату даверу паміж беларусамі і немцамі. Дзейнасць пасла Альбрэхта паспрыяла разбурэнню стэрэатыпаў, успрыманню Германіі і Захаду ўвогуле, якія стварыліся камуністычнай прапагандай на працягу дзесяцігоддзяў.

Дзякуючы за добрыя словы ў свой адрас, сп. Альбрэхт выказаў упэўненасць, што сённяшнія праблемы Беларусі маюць часовы характар, што народ Беларусі здолее зрабіць сваю краіну квітнеючай і заможнай.

Развітальны вечар прайшоў у нязмушанай, цёплай атмасферы.

**П. В.**

ІМПРЭЗЫ

# Госць, калега, суайчыннік...

Так прадставіў прысутным паэта з Беласточчыны вядучы вечарыны А. Вярцінскі. Аматары творчасці Яна Чыквіна і яго сябры сабраліся ў Доме дружбы на прэзентацыю кнігі "Далёкія і блізкія" — 16-ай па ліку ў літаратурным аб'яднанні "Белавежа". "На сёння кніга крытыкі ў "метраполіі" беларускага пісьменства — вялікая раскоша", — з сумам канстатавала вядомая даследчыца літаратуры Ала Сямёнава. Выданне падтрымалі фінансава польскія ўлады, а яго героямі з'яўляюцца беларускія пісьменнікі далёкага і блізкага замежжа. Сярод іх М. Сяднёў, Н. Арсеннева, К. Акула, "замадэрны", як ён сам казаў, Я. Юхнавец, а таксама Л. Геніюш, С. Яновіч, Н. Артымовіч. Кнігу завяршаюць нататкі У. Конана пра паэзію самога Яна Чыквіна, а рэдактарам яе стала Галіна Тварановіч.

Як заўважыў Адам Мальдзіс, па сутнасці гэта творчы юбілей, бо ў 57-ым годзе пад псеўданімам Янка Дубіцкі ў беластоцкай "Ніве" былі змешчаны *першыя вершы* Я. Чыквіна. Адзначаліся такія рысы паэта і прафесара філалогіі, як працалюбства, творчая актыўнасць, шматграннасць дзейнасці, еўрапейская ментальнасць. Аб прагматызме як складніку гэтай ментальнасці, здаецца, не гаварылі.



**НАШ КАР.**

*Фота К. ДРОБАВА*

# Замест публікацыі

**Рэдакцыя часопіса "Першацвет" перадала для публікацыі ў "ЛіМе" шэраг матэрыялаў, што тычацца праблемы фінансавання часопіса, спыненага на наступны год. Мы папрасілі даць тлумачэнні па гэтым пытанні новага старшыню Дзяржкамдруку М. Падгайнага, які запэўніў нас, што мае самы рашучы намер сітуацыю выправіць. Так што пачакаем шумець, першацветаўцы.**

# Гонар маем...

Міжнародная грамадская арганізацыя пісьменнікаў "Літаратурны фонд" штогод прысуджае свае прэміі "За гонар і годнасць таленту". Гэтай узнагароды ўдастойваюцца тыя, хто не толькі піша выдатныя творы, а і прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, абуджаючы сумленне народа, узнімаючы голас у абарону свабоды і правоў чалавека. Сёлета лаўрэатам прэміі стаў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, якога мы і віншуем з яшчэ адной высокай адзнакай яго пісьменніцкага і грамадзянскага таленту. На жаль, другога лаўрэата павіншаваць нельга — Алесь Адамовіч, як вядома, заўчасна пайшоў з жыцця. Але тое добра, што рабіў Алесь Міхайлавіч у літаратуры і жыцці, не забываецца. І гэтая ўзнагарода — яшчэ адно пацвярджэнне таму.

ПОШТА

# Нізкапаклонства

Не толькі нам, а і ўсяму свету вядома, што кіраўніцтва нашай краіны, не ў прыклад кіраўніцтву іншых посткамуністычных краін, у тым ліку і суседкі-сястры Украіны, катэгарычна супраць пашырэння НАТА на Усход. І гэта трэба вітаць. Бо хаця натаўцы і заяўляюць, што іх саюз дзеля таго і існуе, каб забяспечваць мір і спакой у свеце, тут можа здарыцца, як у той прымаўцы: косю, косю — пакуль у агloблі... А там адзін бог ведае, што будзе.

І ўсё было б ладна. Ды вось што турбуе. Наша цвёрдая пазіцыя, здаецца, нагадвае ў многім змаганне з ветракамі. Яго, НАТА, не пускаючы у дзверы, а НАТА, як той крот, знаходзіць іншыя ўваходы і праходы. І распаўзаецца па ўсіх накірунках. Прычым у такіх бяскрыўдных формах і відах, што і сказаць супраць няма чаго.

Напрыклад, прайдзіцеся па вуліцах нашай сталіцы. Што перш за ўсё ўя е азадбленні кінецца ў вочы? Мноства рэкламы, вітрын, назваў розных лавак, крамак і г.д. На якой мове, у якім стылі ўся гэта гама фарбаў і колераў выканана і аформлена? Мо на нашых дзвюх так званых дзяржаўных — беларускай і рускай? Нічога падобнага. У моры чужых незразумелых слоў і літар днём з агнём не ўбачыш роднае слова. А калі дзе ў закутку і наткнешся на яго, то на агульным стракатым фоне яно выглядае занадта сціпла, убога, а то і неахайна. Як, між іншым, легкавікі колішняй айчыннай вытворчасці ў вулічным руху.

Затое колькі арыгінальнасці, выдумкі, фантазіі ў тых рэкламах, вывесках, вітрынах, назвах, якія выкананы і аформлены па-англійску! І гэта не толькі на вуліцах, плошчах, рынках, але і ў іншых людных месцах. Не абыдзены і наша любімае метро, культурна-асветныя ўстановы, іншыя збудаванні і аб'екты. Прычым, уся гэтая творчасць так і ў такіх месцах размешчана, што не прамінеш, каб не сутыкнуцца вачамі.

А паглядзіце на нашы трамваі, тралейбусы, аўтобусы. Дзіву даешся, як маляўніча яны распісаны! Толькі што ў тым мудрагельстве тоіцца — можна толькі здагадвацца.

Асабліва стараюцца прадставіць сябе ў замежным абліччы розныя буйныя камерцыйныя структуры, банкі. Ну не Мінск, а чыста замежны горад, адным словам — натаўскі.

Далей. Вы, шаноўны чытач, напэўна, заўважылі, як дзякуючы камерцыйным структурам запушчаныя пад'езды і паўпадвалы, якія нікім не выкарыстоўваліся, прагалы паміж забудовамі ператвараюцца ў розныя гандлёвыя кропкі, мінібары, іншыя бытавыя аб'екты. (Недарэмна гавораць, што прыватнікі, апрача іншага, яшчэ і своеасаблівыя санітары.) У гэтым нічога кепскага няма. Чаму ж тое, што валяецца пад нагамі, замінае, не паставіць на службу справе? Але зноў-такі знешняе і рэкламнае афармленне стараюцца выканаць у тым жа замежным стылі, на чужой мове. Быццам на роднай мове, блізкай і зразумелай, нельга дасягнуць той мэты. Вось такое нізкапаклонства.

А вазьміце вулічны гандаль. Усюды на скрыжаваннях, іншых людных месцах ідзе гандаль заморскімі таварамі. А варта нашай вясковай бабулі, якая на ўласным агародзе вырасціла морквачку, бурачок, цыбульку, з'явіцца тут, як яе праганяюць, цягнуць у аддзяленне міліцыі, штрафуюць: тут гандляваць не палажана.

Навошта такое рабалепства, прыніжэнне ўсяго роднага, свайго? Навошта губляць нацыянальны твар?

**Я. ІВАНОВІЧ**

*г. Мінск*

# Калі памірае дрэнная літаратура, то гэта добра...

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН ГАВОРЫЦЬ З СЯБРАМІ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ "ЛІТАРАТАР"

***Свой першы — пяцігадовы — юбілей часопіс "Першацвет" адзначыў не толькі нашумелай імпрэзай у Доме літаратара ды іншымі выступленнямі сваіх выхаванцаў, але і яшчэ адной цікавай падзеяй. У адзін з восеньскіх панядзелкаў маладыя творцы сустрэліся з вядомым паэтам і грамадскім дзеячам Генадзем Бураўкіным і ў гутарцы з ім уведалі шмат цікавага як з жыцця й творчасці самога Генадзя Мікалаевіча, так і з жыцця й палітычнай творчасці нашай і не толькі нашай краіны. Завочным слухачом той гаворкі сёння мае магчымасць стаць лімаўскі чытач.***

**— Генадзь Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, пра пачатак вашай творчасці: першы покліч паэзіі, першы надрукаваны верш, першая радасць аўтара...**

— Гэта былі гады пасля вайны, цяжкія гады, якіх, я спадзяюся, вы не зведаеце ніколі, — гады, калі, напрыклад, на ўсю нашу вёску меўся толькі адзін буквар, і буквар той ішоў ад крайняй да крайняй хаты.

Вучыцца было вельмі няпроста і кніжак было вельмі мала. Ды я па сваёй страсці — да кніг! — перачытаў усё, што было ў акрузе. І мне падабаліся вершы. Відаць, адтуль і пайшло жаданне самому паспрабаваць нешта сказаць у рыфму, ва ўсякім разе сказаць так, каб было сугучча.

А першы верш? Які гэта быў верш?!. Я тады недзе ў класе пятым вучыўся. Настаўнікі, ведаючы, што я нешта крэмзаў, папрасілі мяне напісаць верш "вожыкаўскага" напрамку пра аднаго майго аднакласніка, які не вельмі добра сябе паводзіў... І я напісаў. І вось, калі вяртаўся я са школы дамоў (кіламетры чатыры трэба было ісці), мяне аднакласнікі пабілі. Гэта быў першы мой "ганарар". Білі, праўда, шкадуючы, бо ахвоты пісаць у мяне ўсё-такі не адбілі...

Першая мая публікацыя з'явілася ў полацкай абласной газеце "Бальшавіцкі сцяг". Туды я пасылаў розныя нататкі — пра вываз гною на палі, нарыхтоўку шышак, торфапрагнойныя гаршочкі — усё гэта друкавалася без праблем. З вершамі ж было цяжэй, але адзін мой верш усё-такі надрукавалі. Цяпер яго трошачкі смешна ўспамінаць, бо гэта быў верш свайго часу. Я помню чатыры радкі з яго: "На наш калгас таварыш Сталін глядзіць, напэўна, у гэты час і бачыць, кім мы сёння сталі, які багаты наш калгас". Калгас наш быў, канешне, "вельмі багаты": каровак на вяроўках трымалі, коней практычна не было, але ж пісаў я так, як трэба было пісаць...

Потым быў яшчэ адзін вясёлы выпадак. Ён дапамог мне пры паступленні ва універсітэт. Я ўжо хадзіў тады ў полацкую школу, у трэцюю змену, сем кіламетраў туды і назад. І вось напісаў я верш і паслаў у "Полымя". Ён называўся "Брат" і пачынаўся так: "У мяне сёння свята — ранкам брат нарадзіўся і на ўсю нашу хату звонкім крыкам заліўся". Ну, а Аляксей Зарыцкі (ён працаваў тады загадчыкам аддзела паэзіі ў "Полымі") чамусьці палічыў мяне больш-менш сталым чалавекам і перарабіў мой верш на "Сына". Канешне ж, надрукавацца ў "Полымі" для школьніка — гэта была настолькі вялікая радасць, што я не мог у тое доўга паверыць!.. А чым мне мой верш дапамог? Пры паступленні ва універсітэт мы пісалі беларускі дыктант, з таго ж самага нумара "Полымя", у якім выйшаў і мой верш, — "На ростанях" Якуба Коласа. І вось, калі я ўжо вучыўся, да мяне падышоў адзін чалавек (выкладчык, яго няма ўжо ў жывых) і кажа: "Генадзь! Я хачу пазнаёміцца, бо я правяраў твой дыктант, у цябе былі дзве памылкі. Там, дзе трэба было паставіць працяжнік, у цябе стаяла двукроп'е, і яшчэ нешта такое... І хоць памылкі варыянтныя, але калі б я іх адзначыў, атрымаў бы ты чацвёрку і не паступіў бы..." Я кажу яму: "Дзякуй, дзякуй". А ён: "А чаго ты дзякуеш? Там жа быў твой верш і я пагалядзеў — дык гэта ж той хлопец, чый верш друкаваўся! Ну як жа яго не пусціць ва універсітэт?" Вось такія прыгоды з вершам... Да чаго я гэта ўсё кажу? Вершы пішыце, яны шкоды не робяць, а часам могуць і дапамагчы...

Калі ж гаварыць пра сур'ёзны пачатак творчасці, то разбірацца ў тым, што я пішу, я стаў толькі ва універсітэце, бо там было асяроддзе вельмі цікавае. На адным курсе мы вучыліся з Рыгорам Барадуліным, Міхасём Стральцовым, Сымонам Блатуном, Міколам Гілём, Васілём Зуёнкам. З апошнім мы жылі пяць гадоў у адным пакоі інтэрната, а паўгода нават і спалі на адным ложку — на Нямізе, цяпер гэтага дома няма. Дваццаць чалавек жыло ў пакоі — такое казацтва было студэнцкае. Трошкі старэй за нас вучыўся Анатоль Вярцінскі, аспірантам быў Ніл Гілевіч. Уладзіслаў Нядзведскі, хоць працаваў настаўнікам, часта прыязджаў, начаваў у нас. Словам, літаратурнае асяроддзе было вельмі актыўнае і вельмі шматлікае. А яшчэ тады дужа часта наладжваліся сустрэчы з класікамі, якіх мы вучылі ў школе. У мяне, напрыклад, і цяпер ёсць кніжкі з подпісамі Аркадзя Куляшова. І калі аднойчы, як мы ўжо сябравалі, я яму сказаў пра ягоны аўтограф, ён нават не паверыў. Тады я прынёс, паказаў яму... Адкуль, зрэшты, яму было помніць? — колькі нас было такіх хлапчукоў, што прасілі аўтографы ў класіка...

Дык вось тады да нас часта прыходзілі паэты, якія для мяне і цяпер вельмі многа значаць — у сэнсе літаратурнага ўзроўню, высокага паэтычнага ўзору. Гэта і той жа Аркадзь Куляшоў, і Пімен Панчанка, і некаторыя маладзейшыя — напрыклад, я і да гэтага часу лічу самым выдатным, Богам адораным паэтам таго пакалення Сцяпана Гаўрусёва. Іншая справа, што ён не раскрыўся цалкам, не стаў тым, кім бы мог стаць, але гэта выдатнейшы паэт. Мы з ім сябравалі, хадзілі разам на літаб'яднанні ў "Чырвоную змену"... Адтуль недзе, з тых універсітэцкіх часоў, я думаю, і можна пачынаць адлік майго друкавання сур'ёзнага, свядомага, усвядомленага...



**— Генадзь Мікалаевіч, адносна нядаўна выйшла ваша кніжка "Узмах крыла" і прынесла нямала радасці прыхільнікам вашай паэзіі. Але ж да гэтага вы цэлых дзесяць гадоў не цешылі чытачоў сваімі зборнікамі... Актыўная дзяржаўна-грамадская дзейнасць і ў той жа час працяглае літаратурнае маўчанне — гэта як два бакі аднаго медаля?**

— У мяне атрымалася менавіта так. Хоць, ведаеце, ёсць людзі, якія ўмеюць сумяшчаць адно і другое, я маю на ўвазе творчасць і службу, і я заўсёды такім людзям зайздросціў. Раскажу толькі адзін выпадак. Аднойчы сядзеў я з Максімам Танкам на нейкім урачыстым сходзе. А Яўген Іванавіч, будучы выдатнай фігурай літаратуры, гісторыі і дзяржавы нашай, быў чалавекам вельмі сціплым. Калі яго не выпіхалі наперад, ён ніколі не садзіўся ў першым радзе. Дык вось Яўген Іванавіч, садзіўся на задні рад, і я так любіў. Дык вось, уселіся мы, паранаміліся, а потым кожны засяродзіўся, як кажуць, у сабе. І раптам чую: "Бу-бу-бу, бу-бу-бу..." Думаю, хто ж гэта, а потым гляджу: гэта Яўген Іванавіч сядзіць і мармыча. "Што?" — кажу, а Танк мне: "Ай, Генадзь, верш пішу..." Дык вось ён умеў, і гэта выдатна. Я не ведаю, можа, ён і не лепшы свой верш пісаў, але ўсё-такі... Я ж так не ўмею. А работа адымала практычна ўвесь мой час. І тое, што паміж маёй апошняй па часе кніжкай "Узмах крыла" і папярэдняй мінула дзесяць гадоў, — гэта ненармальна, няправільна, непрафесійна. Зрэшты, мы ўсе працуем непрафесійна — як аматары. А паэзія ў развітым грамадстве павінна быць менавіта прафесіяй тых людзей, у каго ёсць для гэтага Божыя падставы. Бо трэба быць увесь час у сваёй справе, трэба жыць ёй. Мы ж пакуль што да гэтага не дайшлі...

Цяпер, азіраючыся назад, я разумею, што і журналісцкая, і бюракратычная праца забрала ў мяне як мінімум трэць маёй творчасці. Прычым трэць не горшую, бо ўсё гэта прыпала ўжо на тыя гады, калі я тое-сёе стаў, як кажуць, магчы... Але тут жа і іншае: ніхто ж мяне пад аўтаматам не гнаў на дзяржаўную працу. Працуючы на радыё і тэлебачанні, я лічыў, што я патрэбны там для нашай Бацькаўшчыны, культуры, мовы. І ўсяму гэтаму аддаваў імпэт, здароўе, веды. Зрэшты, і работа мая мне давала шмат. Я ўсё-такі сутыкаўся з многімі людзьмі мастацтва, культуры, у мяне многа сяброў — мастакоў, кампазітараў, спевакоў, артыстаў, рэжысёраў.. Я ўжо не кажу пра маю працу ў Злучаных Штатах: іншы свет, іншыя людзі. Некалькі разоў мы там абедалі, скажам, з Дэвідам Ракфелерам. Сышоўся я там з Эрнстам Неізвесным, Артурам Мілерам. І з дыпламатамі. Напрыклад, даволі блізка я пазнаёміўся з дыпламатам нумар адзін у Расіі, цяперашнім паслом Расіі ў ЗША Юрыем Воранцовым. Людзей бы гэтых ніколі не сустрэў бы, калі б не мая праца.

**— Нам дужа хацелася б падрабязней даведацца пра амерыканскую старонку вашай біяграфіі...**

— За мяжой я апынуўся выпадкова. Гэта быў абсалютна нечаканы паварот у маім жыцці і ў службовым лёсе. Прыйшла так званая перабудова, пачаліся ўсім вядомыя працэсы. У мяне тады была пазіцыя, якой я і цяпер прытрымліваюся: безумоўна, дзяржаўныя тэлебачанне і радыё павінны абараняць інтарэсы дзяржавы, але — дзяржавы, а не дзяржаўных чыноўнікаў. І больш за тое, чыноўнікам яны павінны даваць аб'ектыўную карціну таго, што адбываецца ў грамадстве, бо і ТБ, і радыё — гэта не нейкае там функцыянальнае падраздзяленне ўрада ці яшчэ чаго, а грамадская з'ява... Таму ў тыя нялёгкія часы я і даваў слова, хаця не так, канешне, шырока, як таго хацелася, але даваў — і БНФ, і самому Зянону Станіслававічу. І, можа быць, не заўсёды было проста і лёгка, але ўсё ж яны мелі магчымасць выхаду ў эфір. Тады ж мы зрабілі перадачу пра Курапаты (Вольга Іпатава яе рабіла), далі рэпартаж са з'езда БНФ у Вільні... Зразумела, усё гэта не падабалася партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі. Са мной праводзілі такія-сякія гутаркі, папярэджвалі — час быў такі, што па-берыеўску кулаком стукаць па стале ўжо не маглі. А, не хвалячыся, скажу, што ў дыскусіях яны мяне не маглі "пераіграць". Больш за тое, я заўсёды гаварыў ідэолагам: "Вы не згодны з Зянонам Станіслававічам? Калі ласка, я даў яму дзесяць хвілін, а вам дам сорак: садзіцеся і пераконвайце людзей..." Яны ж гаварыць і пераконваць не ўмелі, не любілі, а з іншага боку, не маглі і проста так мяне выкінуць (у мяне ўсё ж быў ужо нейкі ў рэспубліцы аўтарытэт)... І тады мне было сказана прама: "Калі хочаш без скандалу, мы гатовы цябе адправіць у Нью-Йорк прадстаўніком пры ААН". І я паехаў...

**— Выходзіць, як нейкая палітычная ссылка?**

— Я не хацеў бы так называць, але ў нейкім сэнсе так. Аднак цяпер я вельмі ўдзячны Яфрэму Яўсеевічу Сакалову, які мяне адправіў з Беларусі, за тое, што ён падарыў мне чатыры гады жыцця ў Нью-Йорку. Калі б я там не пажыў, я быў бы іншым чалавекам. Уся рэч у тым, што я пажыў у сапраўды свабодным свеце, нармальнай цывілізаванай дзяржаве, дзе ёсць законы, парадак. Вось я, не пажыўшы там, не разумеў: ну, Божа мой, чаму на ўвесь свет узнімаюць яны тарарам пра правы чалавека? Хіба няма больш важных праблем? Але і сапраўды, мне майго народа да слёз шкада. У большасці сваёй ён і не бачыў тых правоў, і таму яму здаецца: вось няма вайны, ёсць кавалак хлеба, шклянка віна і — выдатнае жыццё! Навошта тыя правы чалавека, навошта журналісты, навошта апазіцыя?.. Справа ў тым, што ў Злучаных Штатах і ва ўсім цывілізаваным свеце жыццё такое, што чалавек пра кавалак хлеба ўжо і не думае — ён у яго ёсць, і чалавек, калі ён працуе, за сваю нармальную зарплату можа мець і жытло , і машыну, можа забяспечыць навучанне дзецям і больш-менш прыстойную медыцынскую страхоўку на старасць. Пытанне кавалка хлеба для яго па сутнасці не стаіць, а вось пытанне чалавечай годнасці!? Ды там апошні наркаман, які начуе на падшыўках газет пад мостам, усё сцерпіць — і калі яго будуць ганяць, і калі ў яго адбяруць нешта, — але паспрабуй зняважыць яго як чалавека! Ён тут жа, нягледзячы на сваё становішча, пойдзе ў суд і, што самае галоўнае, — суд яго можа падтрымаць! Вось гэта тое, што ў нас проста НЕЗРАЗУМЕЛА!

Я пагледзеў там, што такое апазіцыя, што такое сродкі масавай інфармацыі... Цярпімасць да сваіх праціўнікаў — іх само сабой зразумела: слухай, што табе гаворыць апанент, каб ты паспеў нешта выправіць і тым самым выйграць для сябе, для сваёй улады. Там ёсць законы — пісаныя і няпісаныя. Законы пісаныя — як і паўсюль у свеце: іх можна, як дышла, пры адпаведных людзях паварочваць куды захочаш. Але ёсць яшчэ няпісаныя законы, законы маралі — калі грамадства і партыя не будуць таго-сяго цярпець. Вы паглядзіце: варта было Ніксану падслухаць сваіх праціўнікаў, якія рыхтаваліся да выбараў, як ён сам пайшоў у адстаўку — сам! — каб выратаваць аўтарытэт партыі. Каб не казалі, што гэта партыя тых, хто парушае законы. А ў нас мала таго, што падслухоўвалі тэлефонныя размовы журналістаў ГРТ, дык яшчэ пасля — трасучыся ад радасці! — чыталі тыя падслуханыя размовы па БТ!

Даруйце, што я крышку пайшоў убок. Але да чаго я ўсё гэта кажу? Чатыры гады я жыў і працаваў разам з лепшымі інтэлектуаламі свету. Пры ўсім пры тым і ў нас дыпламатычны корпус — гэта эліта. І, безумоўна, працуючы ў ААН, ты і сам у нечым мяняешся, расцеш, вучышся. І пасля гэтага разумееш, у якой глухой правінцыйнасці жыве нашая краіна...

**— Па тым адчаі і болю, з якімі вы кажаце пра Беларусь, можна здагадвацца, чым Радзіма была для вас там, за тысячы кіламетраў ад яе...**

— Тады ў мяне ўвесь час адна струна ў душы звінела — Беларусь. І ўжо гаварыў не ў адным інтэрв'ю: у ЗША я не напісаў ніводнага верша. Я там пісаў строфы, некалькі строф, а цалкам каб ад першага да апошняга радка — я не напісаў ніводнага верша. І яшчэ адно дзіва дзіўнае: знаходзячыся там і цяпер (ужо тры гады, як я вярнуўся адтуль) — я ніводнага амерыканскага сна не бачыў. Чаму? — не ведаю. Я не скажу, што там мне было нецікава, дрэнна. Не... Але мяне ўсё роўна цягнула на Беларусь...

**— Як шмат амерыканцы ведаюць пра Беларусь, беларускую культуру, гісторыю, спадчыну? Ці кажа ім што-небудзь імя Касцюшкі?..**

— Пра Касцюшку ведаюць, але як пра свайго нацыянальнага героя. Пра тое, што ён з Беларусі, я ім казаў, калі мы ездзілі да яго помніка, — для іх гэта было адкрыццём.

Наогул жа пра Беларусь на ўзроўні абывацеля практычна нічога не ведаюць. На ўзроўні палітыкаў і інтэлігенцыі — працэнтаў восемдзесят нічога не знаюць. Працэнтаў дзесяць — нешта чулі ці ведаюць...

Многія пачынаюць шукаць, хто вінаваты ў гэткім няведанні пра нас у свеце: якія палітыкі, якія дыпламаты... Але я б так пытанне не ставіў. Усё намнога складаней. Вось вам дэталь наконт таго, ведаюць ці не ведаюць. Ішлі мы ў Савет Бяспекі ААН, прэтэндавалі на месца ў ім разам з Чэхіяй, і ўрэшце прайгралі чэхам. Але ж тая трэць галасоў, якую мы набралі, — пагадзіцеся, тады гэта было ўсё ж такі неблагое дасягненне. І гэта пры тым, што і Чэхію як краіну, і яе прэзідэнта Гавела цывілізаванаму свету прадстаўляць зусім не трэба...

Каб ведалі нас у свеце, мы павінны прайсці вялікі шлях — той, які мы яшчэ не прайшлі і з якога, сабе ж на бяду, сёння імкнёмся збочыць. Веданне пра якія краіны ёсць? Пра вялікія. Пра краіны з багатым гістарычным мінулым. Пра стабільныя, квітнеючыя краіны. Пра тыя, дзе вельмі шумныя падзеі адбыліся. Пра краіны, што могуць пахваляцца сваімі выдатнымі палітычнымі дзеячамі... Скажам, тая ж Чэхія — не такая ўжо вялікая, але вельмі аўтарытэтная ў свеце. А ёсць, з другога боку, і вялікія, якіх не ведаюць.

Але па чым жа ўсё-такі нас ведаюць, калі браць тых, хто ведае? Па-першае, па вайне. Усе дыпламаты знаюць, што Беларусь і Украіна, хаця фармальна й не мелі права быць заснавальнікамі ААН, але ўвайшлі ў гэтую структуру, бо заслужылі гэтае права, унёсшы вялікі ўклад у перамогу над фашызмам. Другое, што ведаюць, — Чарнобыль...

*(Працяг на стар. 14—15)*

## ЛіМ ЧАСАПІС

# "Мне Загібелька лепш Парыжа..."

*Мой родны кут!*
*Як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы! —*

**гэтыя славутыя радкі з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" можна з поўным правам аднесці не толькі да роднага Наднямоння, у якім нарадзіўся пясняр, але і да тых мясцін, дзе ён назаўсёды пакінуў частку свайго сэрца. Такімі мясцінамі з'явілася Пухаўшчына. Тут, на чароўных берагах Свіслачы, якія нагадвалі Нёман, здымаючы пакойчыкі ў мясцовых жыхароў вёсак Блонь, Вусце, Беразянка, Балачанка, Загібелька і іншых, пачынаючы з 30-х гадоў і амаль да самай смерці, Якуб Колас адпачываў з сям'ёй. Тут жа пісаліся і новыя творы. Дастаткова сказаць, што на Пухаўшчыне створаны паэтам такія дзве адметныя паэмы, як "Рыбакова хата" і "Міхасёвы прыгоды".**

**Аб гэтым і ішла гаворка на вечарыне, прымеркаванай да 115-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа ў Мар'інагорскім Палацы культуры. Але перад гэтым дэлегацыя з Мінска наведала Пухавіцкі краязнаўчы музей у вёсцы Блонь. У былым будынку Бонч-Асмалоўскага госці агледзелі выдатную экспазіцыю з гісторыі раёна. Дасціпным экскурсаводам быў дырэктар музея, мясцовы краязнаўца А. Прановіч.**

**Вечарыну ў Палацы культуры ў Мар'інай Горцы вёў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі паэт Анатоль Вярцінскі. Першым выступіў сын Я. Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. Ён успомніў сваё маленства, якое прайшло тут, на Пухаўшчыне, расказаў пра творы, напісаныя бацькам у гэтых мясцінах, і асабліва пра паэму "Міхасёвы прыгоды", якая мае непасрэднае дачыненне да яго, паказаў фотаздымкі.**

**Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа празаік Генрых Далідовіч гаварыў пра складанае жыццё паэта, пра яго значэнне сёння для нас.**

**Землякі песняра, паэты Казімір Камейша і Яўген Хвалей прачыталі вершы, прысвечаныя Я. Коласу.**

**Пісьменнік Аляксей Слесарэнка падзяліўся ўражаннямі аб сваіх сустрэчах з Я. Коласам, пра тое, як паэт падтрымаў яго імкненне да мастацкага чытання твораў.**

**На вечарыне таксама прысутнічалі, выступілі землякі пухавічан, акадэмічныя вучоныя, дактары навук С. Астапчык, А. Лухвіч, Г. Рымскі, удава пісьменніка Івана Чыгрынава Л. Чыгрынава, унучка Я. Коласа М. Міцкевіч.**

**Гучалі музыка, песні І. Лучанка і іншых кампазітараў у выкананні ансамбля Мар'інагорскай музычнай школы. Працавала выстаўка "Другая радзіма Я. Коласа".**

**У канцы горача дзякаваў гасцям, выступоўцам старшыня Пухавіцкага райвыканкама Ф. Супрун.**

**Гэтай вечарынай па сутнасці завяршыліся разнастайныя мерапрыемствы, звязаныя са 115-годдзем з дня нараджэння Я. Коласа.**

**Некалі паэт пісаў: пабываўшы на кангрэсе ў сталіцы Францыі:**

*Калі агледзіш хвайнякі*
*І гэты кут пазнаеш бліжай,*
*Збіраючы баравікі, —*
*То вывад я раблю такі:*
*Мне Загібелька лепш Парыжа.*

**І гэта сапраўды было так.**

**Яўген КМЕН**

## Наш гонар



**Мсціслаў. Помнік першадрукару Пятру Мсціслаўцу.**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

---

ЗА ГАРБАТАЙ

# Квазітэатральны час для недаверлівага Хомкі

***Якая яна, сённяшняя беларуская драматургія? Якое яе месца ў кантэксце ўсяе беларускай літаратуры? І як суадносяцца тэатр і літаратура, якія перспектывы іх супрацоўніцтва?***
***Над гэтымі пытаннямі разважалі госці, што ў чарговы раз сабраліся за гарбатай у "лімаўскім" "літсалоне". На гэты раз у гаворцы бралі ўдзел галоўны рэжысёр Тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі "Вольная сцэна", заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Валерый МАЗЫНСКІ, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Раіса БАРАВІКОВА, доктар філасофіі, прафесар Уладзімір КОНАН, літаратуразнаўца, драматург Пятро ВАСЮЧЭНКА і гаспадыня "салона", рэдактар аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.***

**Людміла Рублеўская.** Традыцыйна нашы "гарбаты" чамусьці пачынаюцца з высвятлення пытання, "што такое літаратура". І сённяшнюю гаворку можна было б пачаць з высвятлення, што ж такое драматургія? Гэта паўнавартасная літаратура, ці — як усё часцей падаецца — вербальны фон тэатральнага дзейства, нешта другаснае? Неміровіч-Данчанка піша ў сваіх мемуарах пра тэатр канца XIX стагоддзя: "..."драматург" і "пісьменнік" былі не зусім адно і тое ж, нейкія далёкія сваякі. Драматург мог быць найжаданым у Малым тэатры, а сярод сапраўдных пісьменнікаў адчуваў сябе неяк непамысна. І п'есы яго, якія рабілі поўныя зборы, нікольні не цікавілі рэдакцыі часопісаў. І наадварот, аўтар аповесцяў, якія чыталіся нарасхват, быў у тэатры толькі госць... "Веданне сцэны" было пудзілам для пісьменнікаў". Зразумела, аўтар цытаты казаў не пра Астроўскага, Чэхава ды іншых вялікіх драматургаў. Але пытанне застаецца. З аднаго боку, п'есы пішуць вельмі многія. З другога боку, свет тэатра сапраўды мае свае законы і ацэньвае тыя п'есы зусім не так, як "звычайны" літаратар... І трапляюць на сцэну, як на дылетанцкае вока, нейкія "абранцы".

**Валерый Мазынскі.** Розніца між літаратурай і драматургіяй у тым, што ў тэатры энергетыка твора павінна ўздзейнічаць не на аднаго чытача, а на ўсю залу. Але на тэатры слова "літаратура" мае адмоўную афарбоўку. Мы кажам: "Гэта п'еса — літаратура", значыць, для тэатра не падыходзіць. Значыць, там **расказваецца** ўсё, нават тое, што трэба **паказваць**. Значыць, там шмат маналогаў і мала дзеяння. Значыць, аўтар не ўяўляў, як персанажы будуць дзейнічаць на сцэне, калі глядач бачыць не толькі таго актора, каму дадзены тэкст, але і ўсіх астатніх, уключаючы статыстаў. Для мяне драматургія — найскладанейшы жанр. Прозу, на мой погляд, пісаць прасцей.

**Л. Рублеўская.** А вось Сомерсэт Моэм сцвярджае, што пачаў пісаць п'есы, як і ўсе маладыя пісьменнікі, таму што пісаць дыялогі яму падалося прасцей, чым суцэльны тэкст.

**Раіса Баравікова.** Гаворачы пра драматургію, мы не можам не згадаць пра сённяшні агульны крызіс літаратуры і мастацтва. У Яўгенія Еўтушэнкі, чые кнігі яшчэ нядаўна выходзілі мільённымі тыражамі, выйшлі дзве кніжкі: адна накладам 700, другая — 1100 асобнікаў, і гэта на ўсю Расію! Я ўпэўнена, што захаваць нашу мову і нацыянальную культуру можа толькі тэатр і дзіцячая літаратура. Каб прачытаць кніжку, трэба прыкласці намаганні і патраціць час. А ў тэатр глядач ідзе, як на адпачынак. Якім бы сур'ёзным спектакль ні быў, для яго гэта перш за ўсё — відовішча.

**Уладзімір Конан.** Наш час такі, што глядач ідзе "глядзець палітыку", бо палітыка стала тэатрам. Рэаліі жыцця зрабіліся гульнёй. Гэты квазітэатр выцясняе аўтэнтычны тэатр, што некалі нараджаўся як храм, а прадстаўленні былі рэлігійнымі абрадамі. Мне здаецца, у страце чытача і гледача вінаватая не літаратура і не тэатр, а квазітэатральны час. А што да эстэтычнай праблематыкі, то выдатныя драматургі былі нярэдка артыстамі — той жа самы Шэкспір. Як правіла, удаюцца п'есы тым драматургам, якія ведаюць тэатр знутры, як наш Аляксей Дудараў. Або трэба мець прыродны артыстызм, як Андрэй Макаёнак. Мяркуючы па апошніх нумарах часопіса "Тэатральная творчасць", большасць сённяшніх п'ес — паўтарэнні на ніжэйшым узроўні ранейшых сюжэтаў: п'еса Генадзя Аўласенкі паўтарае "Хлопчыка ў лесе" Гаруна, Уладзімір Бутрамееў, аўтар славутай п'есы "Крык на хутары", прапануе другасныя "Новыя прыгоды Несцеркі"... З другога боку, ці ёсць у літаратара ўмовы сесці за п'есу і працаваць над ёй хаця б год? Літаратары, як вядома, небагатая публіка.

**Л. Рублеўская.** Ведаеце, нягледзячы на запалохванне "няведаннем сцэны", практычна няма такога літаратара, які б ні разу не паспрабаваў напісаць п'есу. Супрацоўніцтва з тэатрам для пісьменніка вельмі прыцягальнае. Будзем гаварыць шчыра. Часам пісьменнікі пішуць п'есы па той самай прычыне, чаму паэты пішуць тэксты для эстрадных песень. Гэта, па-першае, шлях да хуткай вядомасці, папулярызацыі свайго імя. Вялікая спакуса — убачыць яго на афішах. І па-другое, не ведаю, як цяпер, а раней п'еса, асабліва "ідэйна вытрыманая", някепска аплачвалася, нават не трапіўшы на "цэнтральныя" сцэны.

**Р. Баравікова**. Навукоўцы лічаць, што набліжаецца эпоха прафесіяналізму. Думаю, што драматургія якраз вымагае найвышэйшага прафесіяналізму. Сутыкнулася з гэтым сама. Успомнім Караткевіча. Ці драматург ён у прафесійным сэнсе? Вось і Валерый Яўгенавіч ставіў яго п'есы, атрымліваліся цудоўныя спектаклі. Але для нас Караткевіч найперш — выдатны празаік і паэт.

**У. Конан.** Караткевіч пісаў п'есы не для папулярнасці і рэкламы свайго імя.

**Л. Рублеўская.** Згадваючы словы Валерыя Яўгенавіча, сцвердзім: Караткевіч ствараў **літаратуру**, яго п'есы найперш не драматургія, а літаратура.

**В. Мазынскі.** Драматургія не была для яго нечым галоўным. Напрыклад, папрасілі, угаварылі яго напісаць п'есу да юбілею Віцебска — ён і напісаў "Званы Віцебска".

**Р. Баравікова.** А рэжысёр "выцягнуў" спектакль.

**У. Конан.** Я не згодзен з такой ацэнкай драматургіі Уладзіміра Караткевіча. Яго п'есы якраз маюць тую энергію, пра якую казаў Валерый Яўгенавіч.

**Л. Рублеўская.** Якая выяўляецца, калі іх *чытаеш*.

**У. Конан.** Думаю, запас драматургічнага матэрыялу — не загана. Рэжысёр заўсёды можа яго скараціць.

**В. Мазынскі.** Я і скарачаў — са 120 старонак зрабіў 54.

**У. Конан.** І пасля скарачэння застануцца тыя страсці, той выбух, той канфлікт, якога патрабуе рэжысёр.

**В. Мазынскі.** Найперш Караткевіч быў кінасцэнарыст і любіў кіно.

**Л. Рублеўская.** Тады гэта было аднабаковае каханне.

**У. Конан.** Калі я чытаю п'есу "Маці ўрагану", я амаль што гляджу яе на сцэне.

**Л. Рублеўская.** Напэўна, такая самадастатковасць і ёсць адзнака "літаратуры" ў разуменні рэжысёра, а п'еса прафесійнага драматурга на сцэне заўсёды павінна глядзецца лепей і багацей, чым на старонках.

**У. Конан.** Я размаўляў з вядомым тэатразнаўцам Анатолем Сабалеўскім, ён казаў, што ў многіх заходнееўрапейскіх краінах тэатры апускаюцца да ўзроўню самадзейнасці. Так што я не думаю, што Беларусь у гэтым сэнсе нейкае выключэнне.

**В. Мазынскі.** Беларусь стаіць убаку ад еўрапейскага тэатральнага працэсу тым, што ў нас няма інтэлектуальнай п'есы. Наша драматургія толькі пачала выходзіць з этнаграфічнага ўхілу. Што дзіўнага, калі ў нас абсалютная большасць — гараджане толькі ў другім калене.

**У. Конан.** А ці можа гараджанін увогуле ствараць высокае мастацтва? Па-мойму, толькі вёска стварае класічнае мастацтва.

**В. Мазынскі.** А хто быў Камю па паходжанні?

**У. Конан.** Я маю на ўвазе вёску тыпалагічную. Масква Льва Талстога — гэта вялікая вёска... Вы гаворыце пра традыцыю Ібсена, Метэрлінка... А ў нашым тэатры недастаткова разумелі і сваю класіку, таго ж Янку Купалу, "Раскіданае гняздо". Там жа ёсць універсальная міфалагема *Выгнання з Раю*. А ў п'есе падкрэслівалася толькі класавая барацьба, і згубіўся архетып. "Паўлінка" — гэта не толькі вадэвіль, там ёсць тэма і крызісу дваранства ў цэлым, і, у прыватнасці, беларускай шляхты, якая на працягу XIX ст. стварала беларускую культуру. Да шляхты належаў, дарэчы, і сам Купала.

**В. Мазынскі.** А калі ў нас зноў пачало ўжывацца слова "шляхта"? Я сам пачуў яго толькі дзесяць гадоў таму. Лічылася, што ў беларусаў не было ні паноў, ні князёў, адны мужыкі.

**У. Конан.** Паводле перапісу 1896 года, 52% насельнікаў фальваркаў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую.

**В. Мазынскі.** Але для мяне навязліва гучыць купалаўскае: "Я — мужык і гонар маю".

**У. Конан**. Гэта — артыстызм Купалы, які іграў ролю мужыка.

**Л. Рублеўская.** Не артыстызм, а агульная ўстаноўка на "народніцтва", на якое "хварэлі" і шляхетныя, і не шляхетныя беларускія адраджэнцы.

**Р. Баравікова.** Мы толькі цяпер пачалі задумвацца, што "паны" — гэта і Радзівілы, Сапегі, інтэлектуальнае ядро нацыі. Устаноўка "мужык — разумны, пан — дурны" для нашых дзяцей і ўнукаў ужо не спрацоўвае.

**П. Васючэнка**. У якасці рэчавага доказу, што такое беларуская сучасная драматургія, магу прадэманстраваць кнігу "Сучасная беларуская п'еса", якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Я быў яе складальнікам. Па магчымасці ўключаныя п'есы самых розных аўтараў — і тых, каго рэжысёры любяць і ставяць, і тых, каго не ставяць, і традыцыйныя, і эксперыментальныя. І гэта — паўнавартасная літаратура. Назаву некаторыя творы: Аляксей Дудараў, "Злом"; Андрэй Федарэнка, "Жаніх па перапісцы"; Галіна Каржанеўская, п'еса для жанчын "Вірус" (лёгка адгадаць, што гэты вірус — мужчына). Двое маладых аўтараў (гараджане, дарэчы), Міраслаў Адамчык і Максім Клімковіч, прадстаўлены п'есай "Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія", п'еса Сяргея Кавалёва "Звар'яцелы Альберт" — тое, што называецца літаратурнай перапрацоўкай, або інсцэнізацыяй. Неардынарны твор Алеся Асташонка "Драматургічныя тэксты", п'еса

## Ці ёсць гарбата?

**Чакалі, чакалі мы, даражэнькія-родненькія, калі ж вы зноў зберацеся за гарбатаю ды "паталкуеце" ў чарговы раз аб жыцці, аб літаратуры ды мала яшчэ аб чым, але дачакацца не здолелі. Вымушаны напомніць пра сябе: чакаем! Няўжо так хутка скончылася ў вас гарбата? Не можа быць! Як казаў спадар Станіслаўскі: не веру! Бо якая цудоўная, сапраўды прасякнутая "духам эпохі" атрымалася ў вас гутарка з М. Лужаніным, як жыва вы пра маладую нашу літаратуру разважалі, якія "непрычасаныя думкі" выказвалі! Не проста чытаем, — чуем, чуем вас! Во як. А цяпер нешта змоўклі... Мо Дом літаратара адбіраюць, дык вам і мову заняло ад страху? Дарма. Ведаеце, якая розніца паміж домам і літаратурай? Дом сам па сабе, а літаратура... так, сама па сабе. Купала на бровары вунь якія вершы пісаў! Між іншым, нават па сумяшчальніцтве працаваў там — чорнарабочым і паэтам. Так што — не хвалюйцеся... І дом, і адміністрацыя, і нават вышэй — усё гэта вельмі часовае, а літаратура — вечнае. Успомніце, як пра тое яшчэ рымляне казалі. Такім чынам, збірайцеся, сябры, налівайце (гарбаты, канечне) і пачынайце займацца справай. Ёсць яшчэ гарбата ў імбрыках?**

**У. ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

Ігара Сідарука "Галава", п'еса Міколы Арахоўскага "Ку-ку". Напрыканцы і мая п'еса — прыпавесць "Страшнік Гам". Ці бачыў Валерый Яўгенавіч гэтую кніжку?

**В. Мазынскі.** Не, яшчэ не бачыў.

**П. Васючэнка.** І невядома, ці ўдасца набыць яе. Бачыце, падзагаловак: "Для старэйшага школьнага ўзросту". Вымушаны прыём, каб узняць наклад, ён цалкам разышоўся па школьных бібліятэках. Дзесяткі два асобнікаў паступіла ў "Кнігарню пісьменніка" — і ўсё. Як трапіць гэтая кніжка да рэжысёраў?

**В. Мазынскі.** Ну, у мяне амаль усе гэтыя п'есы ёсць у рукапісах, так што не страшна.

**Л. Рублеўская.** Дарэчы, наша тэатразнаўца Жана Лашкевіч заўважыла, што адзіны тэатр, дзе чытаюць беларускія п'есы, куды магчыма прыйсці маладому аўтару — гэта тэатр "Вольная сцэна".

**В. Мазынскі.** З сённяшняга дня яго назва — Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі.

**П. Васючэнка.** Для нас усё роўна застанецца Вольнай сцэнай. Вернемся да пытання, што такое драматургія. Гэта неабавязкова тэкст для сцэны. Тэатр можа быць унутры чалавека. Галоўнае — нешта павінна адбывацца. Нават калі, здавалася б, нічога не адбываецца, як у некаторых п'есах Ёнэскі ці Бекета. Драматургія — гэта канфлікт. Ужо з таго, што драматург напісаў п'есу, пачынаецца канфлікт — між ім і тэатральным асяроддзем. Апошняе можа быць да аўтара спрыяльным, можа быць варожым, але найчасцей робіцца нейтральна-абыякавым. Як жа вырашыць гэты вечны канфлікт між Трыгорыным і Трэплевым? Як увайсці маладому аўтару ў кола тых, каго ставяць?

**Л. Рублеўская.** Гаворка не толькі пра маладых і непрызнаных. Кожны Чэхаў чакае свайго Станіслаўскага.

**В. Мазынскі.** Бываюць часы, калі цікавасць да тэатра ўзрастае, пасля знікае. У часе ўздыму ўзнікае шмат тэатраў, і яны не любяць паўтараць адзін аднаго, і вышукваюць нешта сваё. Тады ёсць попыт на розных аўтараў. А калі ў краіне 15—20 тэатраў, ды амаль усе рускамоўныя, які можа быць попыт на беларускую драматургію? Рускамоўныя тэатры нашай правінцыі — гэта сапраўды правінцыйныя, "губернскія" тэатры. Гэта не літоўскі тэатр Мільцініса, дзе акцёры хадзілі на рэпетыцыі ў кацялках і фраках... Але на маім вяку першы раз ідзе гаворка пра драматургію, як літаратуру. Бо заўсёды гаварылі пра драматургію, як пра спектакль.

**П. Васючэнка.** Альбо тэкст.

**В. Мазынскі.** Крытыкаў драматургіі, як літаратурных твораў, нібыта ў нас і няма. Бывалі выпадкі, калі я браў недасканалы драматычны матэрыял, мучыўся над ім, "даводзіў", а тэатральныя крытыкі "вешалі на мяне ўсіх жаб", нібыта я сапсаваў добрую п'есу. Каб аўтар сядзеў побач са мной на рэпетыцыях, дык ведаў бы, што мне ад яго трэба і чаго вымагае сцэна. На апошнім тэатральным фестывалі ў Брэсце традыцыйнейшую п'есу — "Іванаў" Чэхава — малады літоўскі тэатр "Вайдзілас" сыграў як сучасную любоўную драму, абрынуўшы ўсе каноны. Самаму старэйшаму з артыстаў было 27 год. Героям п'есы — па сорак... Ігралі на літоўскай мове. І — якія былі авацыі ў фінале! Гледачы зразумелі ўсё! Спектакль атрымаў Гран-пры. Там былі сінтэзаваны і псіхадрама, і фарс, і вадэвіль, і трагедыя...

**Л. Рублеўская.** Значыць, усё-ткі сам тэкст — другасны для тэатра.

**В. Мазынскі.** Выходзіць, так. Галоўнае — як яго ўвасобіць на сцэне.

**П. Васючэнка.** Але каб гэта не быў Чэхаў, з іншым аўтарам тэатра б не атрымалася.

**В. Мазынскі.** Па-за тэкстам у Чэхава больш, чым у тэксце. Гэта сапраўдны тэатральны тэкст.

**Р. Баравікова.** Трэба сыходзіць з таго, што п'еса, можа, яна і літаратура, але пішацца не для чытання. Я не ведаю выпадку, каб пісьменнік пісаў п'есу, як літаратурны твор.

**П. Васючэнка.** Мы ж гаварылі, што можа быць і ўнутраны тэатр, калі чытач "разыгрывае" п'есу ў сабе.

**Л. Рублеўская.** Няўжо, Раіса Андрэеўна, вы пісалі сваю драматычную паэму "Барбара Радзівіл" адразу для сцэны?

**Р. Баравікова.** Канешне, не... Форму драматычнай паэмы вызначыў гістарычны матэрыял. І калі напісалася невялікая драматычная паэма, я з радасцю паказала яе Валерыю Яўгенавічу, і ён сказаў: "Гэта цікава. А цяпер трэба напісаць п'есу". Я шмат пакутавала, зрабіла тры-чатыры варыянты, сядзела на рэпетыцыях. Наша сумесная праца заняла два гады.

**Л. Рублеўская.** Але, на мой погляд, драматычныя паэмы могуць быць і чыста літаратурай, не прэтэндаваць на сцэнічнае ўвасабленне.

**В. Мазынскі.** Літаратура для тэатра — тое, што можа даць тэатру штуршок. Дзеянне можа быць пабудаванае рэжысёрам так, што за дзесяць хвілін не прагаворыцца ніводнага слова.

**Л. Рублеўская.** Але яшчэ Арыстоцель сказаў, што ў свеце існуе тры ці чатыры магістральныя сюжэты-канфлікты, а ўсё астатняе — варыяцыі ад іх. Дык які ж тып канфлікту распаўсюджаны ў сучаснай беларускай п'есе?

**В. Мазынскі.** У сучаснай беларускай п'есе канфлікт вельмі павярхоўны. Псіхалагічная глыбіня ўвогуле адсутнічае, таму што на сённяшні дзень драматургаў-філосафаў у нас няма. Найбольш распаўсюджаныя, як я іх называю, "бытавікі" і "рымейкеры". Надзея ў мяне — на маладых аўтараў-гараджан. Яны ўжо не ведаюць, як садзіць проса, як вырошчваць агуркі, і для мяне гэта добры знак. Таму што наш народ, пачынаючы ад артыста і канчаючы прафесарам-гінеколагам, на практыцы ведае, як вырасціць бульбу, як яе захаваць — і гэта жахліва!

**Л. Рублеўская.** Вы казалі, што малады літоўскі тэатр "Вайдзілас" паставіў "Іванава" як любоўную трагедыю, а ў Маскве нядаўна адбылася прэм'ера таго ж "Іванава" ў пастаноўцы, здаецца, Губенкі, як палітычнай драмы, дзе Іванаў — "исконно русский", супрацьстаіць "новай буржуазіі", капіталістам, якія прадаюць Расію, і падступным габрэям (у асобе першай жонкі Іванава).

**В. Мазынскі.** А я недзе чытаў, што падчас ІІ сусветнай вайны ў Германіі ішла савецкая п'еса пра Леніна, у якой ніводнага слова не памянялі, але ролю "правадыра сусветнага пралетарыяту" іграў артыст з адмоўнай абаяльнасцю. І сэнс п'есы дыяметральна змяніўся.

**Р. Баравікова.** П'еса можа быць кепскай, але артысты могуць сыграць яе бліскуча.

**В. Мазынскі.** Гэта залежыць ад таго, ці пазбавіліся артысты піетэту перад тэкстам, ці насмельваюцца яго выпраўляць. Бо на тэатры лепей не дагаварыць, чым перагаварыць. Зараз у нас ідзе вадэвіль па п'есах Родзевіча і Галубка "Паваліўся нехта". Здавалася б, матэрыял "прымітыўны", але ёсць на тэатры такое паняцце, як даць акцёрам магчымасць разняволення, імправізацыі.

**Л. Рублеўская.** Але, напэўна, самыя "ўдарныя" зараз п'есы — гэта якія маюць публіцыстычную афарбоўку, допускаюць актуальныя палітычныя асацыяцыі?

**В. Мазынскі.** Для мяне самы вышэйшы канфлікт — які адбываецца ўнутры чалавека, "схаваны". Каханне — здрада, магу — не магу, маладое жыццё — старое; здавалася б, банальныя канфлікты, але галоўнае — хто пастаўлены ў іх. Чаму Чэхава цяжка чытаць? Таму што канфлікт у яго схаваны.

**П. Васючэнка.** Для большасці гледачоў, вядома, слова "канфлікт" нічога не значыць. М. Гарэцкі ў артыкуле "Наш тэатр", кажа: "Беларус — гэта Хомка "недаверлівы", які хоча не толькі, каб яму паказалі, а хоча сам памацаць, любіць, каб яму "прыстаўлялі". Гледачу на сцэне "прыстаўляюць" нешта, да чаго ён сам падсвядома дайшоў, і калі тое, што ён бачыць і чуе, яму сугучна, яму цікава. І сучаснаму гледачу цікавыя грунтоўныя, глабальныя рэчы — усё адно, нянавісць, каханне ці што іншае.

**В. Мазынскі.** Тэатр на ўзроўні фабулы — зразумелы для ўсіх. Але больш свядомы глядач убачыць і глыбейшыя пласты ў тым жа спектаклі. Калі аўтар наўпрост "упіхвае" ўсім са сцэны сваю філасофію — гэта не драматургія. Адзін драматург крыўдзіўся на мяне, чаму я не стаўлю яго п'есы. Кажу яму: "Мне не баліць тое, пра што ў іх". Ён мне: "Ну скажы, што ў цябе баліць і я напішу пра гэта". Дык каб я мог пісаць, тады сам напісаў бы. Я, на жаль, рэжысёр непішучы.

**П. Васючэнка.** Але існуюць яшчэ і "законы кулісаў", асабістыя сувязі аўтара са светам тэатра.

**В. Мазынскі.** Пісаць для тэатра — вельмі жорсткая прафесія. П'есу цяжка надрукаваць, калі яе не паставілі. Дый навошта яе друкаваць, калі гэта нявыгадна.

**Л. Рублеўская.** Першыя спектаклі па п'есах Чэхава праваліліся. Але пасля на Чэхава "знайшоўся" Станіслаўскі, які літаральна гвалтам прымусіў яго даць п'есы для пастаноўкі ў Мастацкім тэатры. Адсюль два пытанні: ускосна-суб'ектыўнае — нешта не бывае ў нас надта гучных тэатральных "правалаў", тым больш на драматургіі вядомых аўтараў. Крытыка заўсёды знаходзіць магчымасць вяла пахваліць любую прэм'еру. А правал і поспех — гэта ж два бакі аднаго медаля. Калі няма выразнай градацыі, няма і выразных вяршынь? Што такое "правал п'есы" ў сучасным беларускім тэатры? І другое пытанне: ці ёсць у беларускага рэжысёра свой Чэхаў?

**В. Мазынскі.** Правал сёння — гэта калі гледачы не прыйшлі.

**Р. Баравікова.** Думаецца, што прасіць п'ес могуць у Аляксея Дударава, Алены Паповай.

**В. Мазынскі.** А ад Раісы Баравіковай мне б хацелася новых п'ес рамантычнага тэатра. Ёсць у мяне маладыя аўтары Міраслаў Адамчык і Уладзімір Клімковіч. Мне здаецца, яны — драматургі ад Бога, і тое, што яны вымушаны зарабляць грошы, займаючыся напісаннем бульварных раманаў і кінасцэнарыяў, выклікае крыўду за іх. Яны валодаюць саркастычным смехам, які вельмі патрэбны зараз. Вось з іх я хацеў бы проста ўзяць распіску, што напішуць для мяне п'есу.

**П. Васючэнка.** Думаю, што імя новага драматурга, з тых, што "заблукалі між кулісамі", можа "вынырнуць" нечакана. Напрыклад, з конкурсу драматычных твораў, які зараз адбываецца.

**В. Мазынскі.** Так, калі мінулы год на такі конкурс падалі 46 п'ес, то ў гэтым — 96. Прыемна, што маладыя аўтары, няхай пішуць яшчэ нязграбна, але не "пра лапці", ідуць ад кнігі, ад драматургіі. І гэта гаворыць аб аздараўленні нацыі. Бо калі ў дзяржаве ёсць жывая драматургія — значыць, нацыя здаровая.

**Р. Баравікова.** Я лічу, што бліжэйшае дзесяцігоддзе будзе дзесяцігоддзем тэатра.

**В. Мазынскі.** Казалі, што ў Савецкім Саюзе было многа тэатраў. Няпраўда. Яны ўсе былі аднолькавыя. Захад нам зайздросціў, нашым стабільным дзяржаўным субсідыям. Там — ліхаманка: сёння тэатр "жывы", заўтра — збанкруціўся. А для тэатральнага працэсу гэты стан — цудоўны. Хаця лепш мець стабільнае становішча. У той жа Германіі ёсць акадэмічныя тэатры "нафталінавага" тыпу, але там ва ўсім вытрымліваецца эталон — і ў культуры мовы, і ў эстэтыцы касцюма і г.д. Такім месцам, на маю думку, павінен быць купалаўскі тэатр. Нацыянальны акадэмічны тэатр павінен мець не менш пяці-шасці філіялаў у розных раёнах горада. Бо, як кажа мой сваяк, "Я ў Мінск не паеду табе з Серабранкі". Зразумела, тэатр у "спальным" раёне не выжыве, туды трэба выязджаць.

**П. Васючэнка.** Апошнім часам вельмі нечакана састыкоўваюцца літаратура і тэатр. Відавочна, што літаратуры не хапае свайго тэатра. Паказальнікам гэтага з'яўляюцца славутыя "пэрфомэнсы" бум-бам-літаўцаў. Літаратуры не хапае відовішча, не хапае эпатажнасці. І бум-бам-літаўцы на сваім узроўні гэты правал спрабуюць запоўніць. Прыдумалі, напрыклад, відовішча з бутэлечкамі: закаркоўваць вершы ў пустыя бутэлькі і пускаць па Свіслачы. У гэтым ёсць нейкі творчы момант. А ў тым, што літаратары выйшлі ў сквер Янкі Купалы і пачалі там ля помніка паэту чытаць вершы — таксама ёсць момант тэатральнасці. Літаратура не можа схавацца за фаліянтамі.

**Р. Баравікова.** У старажытнасці найпершым уменнем было аратарскае мастацтва.

**В. Мазынскі.** Па-мойму, мы вярнуліся да пытання, ці выжыве літаратура ў кніжках.

**П. Васючэнка.** Дык яна жыве, куды яна падзенецца.

**В. Мазынскі.** Смешна думаць, што ў век "Інтэрнета" будуць чытаць кніжкі. Выйсце для літаратуры — "жывы тэатр".

**Л. Рублеўская.** Жывы то ён жывы, але вось п'еса прайшла, і дзе яна, калі яе не надрукавалі ў кнізе ці хаця б часопісе? Вы ж самі казалі, што п'еса ёсць толькі пакуль не скончыўся спектакль.

**В. Мазынскі.** Тэатр — гэта спроба прыцягнуць чалавека да кніжкі ў той час, калі ён на яе забывае.

**П. Васючэнка.** Што і адчула маладая літаратура...

**Р. Баравікова.** Народ, моладзь адчувае патрэбу ў тэатры. Недзе ў 1992-м годзе ў вёску да маіх сваякоў на Брэстчыне прыехаў адзін з наваствораных сталічных тэатраў. Зразумела, для вёскі гэта — падзея, усе збегліся на спектакль. Пасля сваячка дзялілася ўражаннямі: "Не спадабалася. Усе вельмі расчараваныя. Мы ж прыйшлі як на свята, а там — мацюкі са сцэны. Мы гэта штодня чуем тут, ад сваіх мужчын у вёсцы. Нам хацелася прыгожага..."

**В. Мазынскі.** Нейкая ваша радня дужа ж разумная...

**Р. Баравікова.** Звычайныя, простыя людзі, сваячка працуе цялятніцай.

**В. Мазынскі.** Звычайныя людзі вельмі любяць, калі ўсё пазнавальна.

**Л. Рублеўская.** Абсалютна заканамерная рэакцыя. Няўжо вы думаеце, што "простым" людзям падабаецца, калі настаўнік, святар, іншы паважаны чалавек будзе праяўляць тую самую "простасць"? Яшчэ Ластоўскі падняў пытанне пра важнасць для простага чалавека "чыстай красы", пра тое, што мастацтва мусіць не прыніжацца "да народа", а ўзвышаць яго, тлумачыць яму прыгажосць.

**П. Васючэнка.** Ад тэатра чакаюць ілюзіі.

**Р. Баравікова.** Тэатр павінен быць падзеяй, нечым вельмі прыгожым. Я на ўсё жыццё запомніла, як у чатырохгадовым узросце мяне вадзілі бацькі ў тэатр у Барысаве, якія там прыгожыя касцюмы былі на сцэне.

**В. Мазынскі.** Менавіта таму нашы людзі "шалеюць" ад усякіх "Марыяннаў", бо бачаць там "прыгожае жыццё". У тэатрах павінна працаваць больш літаратараў.

**Р. Баравікова.** Добра было б, каб Міністэрства культуры ўстанавіла стыпендыі для маладых драматургаў, каб яны маглі ствараць п'есы.

**В. Мазынскі.** Уладзімір Міхайлавіч назваў імя Генадзя Аўласенкі, аўтара нібыта другаснай п'есы. Гэта настаўнік з Чэрвеня. Ён не можа вырвацца да нас на рэпетыцыі — у яго ўрокі. Каб далі яму стыпендыю на год, дык можна было б сапраўды працаваць з ім.

**Р. Баравікова.** Яшчэ вельмі кепска, што мы не маем інфармацыі аб творчым жыцці іншых краін, жывём, як у мяшку.

**В. Мазынскі.** Так, нашы літаратары вельмі закамплексаваны ў гэтым плане. Таму я і кажу пра нашу правінцыйнасць. Украіна ўжо намацала шляхі выхаду з такога становішча, і гэта адразу адбілася на ўзроўні маладой рэжысуры.

**Л. Рублеўская.** Ну а "на драматурга" можна вывучыцца? Тут гаварылася пра прыродны артыстызм, веданне законаў сцэны... А вось калі адзін малады літаратар папытаўся ў Бернарда Шоу, у чым сакрэт поспеху яго п'ес, знакаміты драматург моўчкі адчыніў шафу і прадэманстраваў папкі з рукапісамі сваіх не пастаўленых ранніх п'ес. У Літінстытуце ўвесь час працавала аддзяленне драматургіі. І я не скажу, што туды траплялі спрэс Шэкспіры.

**П. Васючэнка.** Прыроджанага драматурга можна адукаваць, у сэнсе ўдасканальваць.

**В. Мазынскі.** Можна даць нейкія "азы" тэатральных законаў, але ў чалавеку павінна быць пэўная аснова.

**Р. Баравікова.** Мы з Аленай Паповай вучыліся ў Літінстытуце ў адзін час. Я адразу паступала на паэзію — мне і ў галаву не прыйшло выбіраць іншае аддзяленне. А Алена гэтак жа безварыянтна выбрала драматургію.

**В. Мазынскі.** Драматургам трэба нарадзіцца. Перад драматургамі цяпер адказнейшая задача. Настаў час спасціжэння гісторыі. Яго нельга прапусціць. Іначай мы нічога не даб'ёмся. Паглядзіце, з якой цікавасцю ўспрыняты спектакль купалаўцаў "Князь Вітаўт", наша "Барбара Радзівіл". Ведаю шмат твораў пісьменнікаў на гістарычныя тэмы, але сам не магу зрабіць іх інсцэніроўку — гэта справа драматурга. Трэба прыцягваць да супрацоўніцтва пісьменнікаў, якія пакуль і не ведаюць аб сваіх драматычных здольнасцях. І вярнуць народу памяць пра яго князёў, духоўную эліту.

**Л. Рублеўская.** Тэатр павінен быць нацыянальным. На пачатку XIX стагоддзя нямецкі тэатральны дзеяч Шродэр не саромеўся перарабляць п'есы Шэкспіра і Шэрыдана на нямецкі манер, замяняючы Джона на Ганса, пераносіць месца дзеяння ў Германію з яе рэаліямі. Знайшоў тэатр Шродэра і магчымасць аб'явіць конкурс сучасных нямецкіх п'ес з добрымі ганарарамі, хоць тэатр быў прыватным і не надта багатым. Немцам, як нацыі, не пагражала асіміляцыя, але яны разумелі неабходнасць стварэння менавіта нацыянальнага тэатра. Хаця касавасць была для таго тэатра жыццёвай неабходнасцю.

**В. Мазынскі.** Адно другога не выключае. Сёння гістарычная п'еса — гэта п'еса касавая, нават калі яна зроблена пасрэдна. Мабыць, таму, што падсвядома нашаму чалавеку, беларусу, усё-ткі карціць "вылезці" з "лапцей".

**П. Васючэнка.** Мне здаецца, зараз настае эпоха не драматургаў, а рымэйкераў. Возьме, скажам, які-небудзь аўтар "Самсона Самасуя" Мрыя і зробіць таленавіцейшую камедыю. Сяргей Кавалёў таксама нядрэнна гэта робіць — сама ідэя "беларускага Трыстана" цікавая. Вунь як Сянкевіч умеў белетрызаваць польскую гісторыю, змясціў, скажам, палякаў у Рым, у часы першых хрысціянаў... І прыйдуць зацікаўленыя маладыя аўтары, якія будуць рабіць гэта ж з беларускай гісторыяй, няхай Шэкспіра з іх і не атрымаецца.

**В. Мазынскі.** Калі б усталяваўся на Беларусі сапраўдны рынак, не трэба было б тэатру выпрошваць грошы ў дзяржавы. Мы былі на фестывалі ў Гданьску дзякуючы таму, што беларускі консул Анатоль Бутэвіч знайшоў нам спонсара — багатага бізнесмена. Там выдалі буклет, палова якога расказвае пра фундатараў фестывалю. Кожны польскі спектакль фундаваўся дваццаццю асобамі. Дзяржава ўхваляе гэта, і фірмы адна перад адной стараюцца. Бізнесмен мае грошы, але яму не хапае славы. А культура можа даць яму той славы, колькі ён захоча.

**П. Васючэнка.** Але як нам не згубіць маладога драматурга, які "заблукаў між кулісаў", прасцей кажучы, не можа знайсці свайго рэжысёра?

**В. Мазынскі.** Думаю, паралельна з конкурсам п'ес трэба праводзіць конкурсы і між рэжысёраў: калі рэжысёр будзе ведаць, што за пастаноўку п'есы атрымае не сімвалічную, а сапраўдную плату, ён прачытае ўсе 96 п'ес, і выбера сабе п'есу па душы і ўлюбіцца ў яе, і зробіць спектакль — бо ні адзін рэжысёр не настройваецца рабіць папярэдне кепскі спектакль. Але не трэба чакаць ад кожнай пастаноўкі "запуску касмічнага карабля". Мы павінны ставіць п'есу лёгка і лёгка з ёю развітвацца. Дзесяць спектакляў адыграла — і дзякуй Богу! У нас "саўковая" псіхалогія: "Не дай Бог праваліцца, калі патрачана на пастаноўку столькі сродкаў". Але не мной сказана: тэатр — гэта дыванок і два акторы.

**Л. Рублеўская.** Але някепска было б яшчэ мець да гэтага добрую сучасную беларускую п'есу. На чым і спынім сённяшнюю гаворку.

## На бацькоўскай зямлі

Як самага дарагога і жаданага госця сустракалі ў лагойскай сярэдняй школе N 1 Івана Пташнікава. Сустрэча была прымеркавана да яго 65-годдзя, з чым школьнікі павіншавалі юбіляра яшчэ раней тэлеграмай.

Напачатку шаноўнаму госцю было прапанавана агледзець школьны музей "Літаратурная Лагойшчына", дзе пра жыццё і творчасць І. Пташнікава расказвае асобны стэнд. Івану Мікалаевічу быў паднесены традыцыйны каравай.

Сустрэча пачалася з таго, што вучні падзяліліся ўражаннямі аб прачытаных творах пісьменніка. Група старшакласнікаў, пераўвасобіўшыся ў герояў рамана "Алімпіяда", паказалі інсцэніраваную сцэнку з гэтага твора. Своеасаблівым падарункам госцю стала віхурная "Лявоніха", якую выканалі ўдзельнікі школьнага танцавальнага ансамбля "Лагайчанка".

Узрушаны, расчулены аказаным яму цёплым прыёмам і выступленнямі юных чытачоў, выступіў госць. А пасля адказваў на шматлікія пытанні. Былі сярод іх і даволі сур'ёзныя, што сведчыць пра неабыякавасць школьнікаў да стану і лёсу беларускай літаратуры. І. Пташнікаў падкрэсліў, што такога зацікаўленага чытача, як тут, на радзіме, ён даўно не сустракаў.

На памяць пра сустрэчу Іван Мікалаевіч перадаў у дар школьнай бібліятэцы і музею свае кнігі з аўтографамі, у ліку якіх і чатырохтомны збор твораў, а таксама перыядычныя выданні з першымі публікацыямі. Кнігі з дароўчымі надпісамі атрымалі на памяць настаўніцы І. Бялкоўская і В. Саўрыцкая, якія праявілі ініцыятыву па арганізацыі сустрэчы.

В. НЕСЦЯРОВІЧ

## Прыватны музей



Многія гады Мікалай Сцяпанавіч Шаўцоў калекцыяніраваў прадметы народнага побыту. І сабраў іх нямала. Не толькі збіраў: а і рэстаўрыраваў, вывучаў гісторыю ўзнікнення таго ці іншага экспаната сваёй калекцыі. Больш за дваццаць гадоў калекцыя экспанавалася ў розных выставачных залах Беларусі, збіраючы мноства цікаўных гледачоў.

Дамагчыся выдзялення пад прыватны музей спецыяльнага памяшкання было няпроста. Спатрэбілася нават садзейнне дэпутатаў парламента, каб справа зрушылася з месца. І вось музей адкрыты. Экскурсіі праводзіць сам Мікалай Сцяпанавіч і яго жонка Тамара Іванаўна.

*На здымку: Мікалай Сцяпанавіч Шаўцоў праводзіць экскурсію ў музеі.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "Мастацтва", N 11

Спектакль "Касцюмер" Р. Харвуда ў Нацыянальным тэатры імя Я. Купалы рэцэнзуе Б. Бур'ян — "Так суджана — да скону дзён акцёрам заставацца...", а Т. Катовіч ("На ўзроўні ліста") дзеліцца ўражаннямі ад спектакля "Жанна" па матывах п'есы Ж. Ануя "Жаваранак" у Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

Змешчаны артыкулы Н. Бекус "Межы фотарэальнасці", В. Трыгубовіч "Крочым наперад ці даганяем?", А. Лісава "У пошуках Віцебска — у Парыж", А. Янкоўскага "Жанчына на фоне інсталяцыі", В. Капёнкінай "Прага нябачнага", А. Давыдчыка "Вольс, рэстаўратар рэальнасці", М. Вярэміч "Час яшчэ не настаў", Н. Дожынай "Гродзенская капэла: здабыткі і спадзяванні", Ю. Барысевіча "Тры будучыні кіно", В. Басько "Калі сонца павярнула на зіму...", Т. Кухаронак "Хрэсьбіны", С. Немагай "Мікал Клеафас Агінскі і яго эпоха у "Лістах пра музыку", У. Конана "Міфалагемы" (з цыкла "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры"), Т. Габрусь "Нездарма тут нарадзіўся Караткевіч", Я. Ленсу "Па адзенні сустракаюць...", Т. Кухаронак "Музей, якога не хапае", рэцэнзія Г. Багдановай ("Простыя знакі нашай адвечнасці") на кнігу "Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка" М. Кацара.

ПАЭЗІЯ

Алесь ЧОБАТ



# Новае падарожжа па крэсах

### Прагулянка па старых вулічках прадмесця

*Апошнія метры бруку ад горада засталіся.*
*Сон белай восені. Сон чырвонага лісця.*
*Куды гэта дарога? Дарога вядзе нікуды.*
*Гэтаксама, як нікуды*
*і мы ідзем праз гады.*

*Кожны выдатнік ведае,*
*што сэнсу не мае жыццё.*
*Кожны двоечнік ведае,*
*як мы любім жыццё сваё.*
*Гэта ясная справа.*
*Так было і будзе заўжды.*
*І навошта нам праўда?*
*Дарога вядзе нікуды.*

### Унія

*Пётр Скарга расколаты крыж*
*захацеў падняць,*
*але нават Ісус толькі цэлы насіў —*
*і там, дзе ўчора адзін збіраўся яднаць,*
*сягоння сотня бяжыць і рвуць з усіх сіл!*

*Леў Сапега спрадвечны*
*хай захацеў спыніць,*
*але ж гэты люд адзін*
*хай шанаваць прывык —*
*і дзе некалі пан адзін мог суды чыніць,*
*над усімі расправу чыніць кожны мужык!*

*Вось і выкупаны Трэці Крыж у крыві.*
*Але кроў Кунцэвіча — не Ісуса кроў.*
*Тут інакш усё, на такой зямлі,*
*на глухой зямлі ў час дажджоў, вятроў...*

### Пайночная вайна

*Эх і ўдарылі Сапегі на Агінскіх!*
*Эх і ўмазалі Агінскія Сапегам!*
*І чакае пан Агінскі палкоў рускіх,*
*І чакае пан Сапега палкоў шведскіх...*

*Неба стала з аблачынку —*
*моцна б'емся за дзяўчынку!*
*За дзяўчынку так не б'юцца!*
*Моцна б'емся, аж смяемся!*
*— Стой, панове! Гэта з нас ужо смяюцца!*
*— Ах ты, здраднік! На асіну таго немца!*

*Папяліішчы на Айчыне.*
*Здраднік сохне на асіне.*
*Шведы скінулі штаны. Памірыліся паны.*
*Цар гуляе ў Пецярбурзе.*
*Нешта неяк недзе будзе.*
*Едзе вош на мужыку.*
*Шляхта разам — у шынку.*

### Станіслаў Панятоўскі

*Не трэба нам чужых паноў*
*з наезным гнюсам,*
*і не па іх сягоння пусцім мы слязу!*
*Вось Панятоўскі —*
*быў прыродным беларусам*
*і нават прозвішча сваё пісаў праз "ў"!*

*І на вякі вякоў яму за гэта слава*
*і памяць вечная за шчырасць з дабрынёй,*
*бо ён усім даваў налева і направа*
*паводле звычаю між нашай вяскаўнёй!*

*А то ж спакою не было даўней,*
*мой Божа!*
*Шумеў чарот і дрэвы гнуліся, пся маць!*
*Ды беларус адзін сапраўдны толькі зможа*
*Рэч Паспалітую на тры канцы раздаць...*

### Адам Міцкевіч

*Адам Міцкевіч у Наваградку і ў Коўна*
*жыў небагата — але ж дыхаў поўна!*
*Але ў Паэта мала светлых дзён —*
*да Польшчы так і не даехаў ён.*

*Паэт спакойна памірае рэдка:*
*ў Канстанцінопалі расійская разведка*
*атруціла Міцкевіча, каб ён*
*не вербаваў там польскі легіён.*

*Сто пяцьдзесят гадоў прайшло,*
*а я ўсё плачу.*
*Сто пяцьдзесят гадоў прайшло,*
*а я ўсё бачу,*
*як пад наваградскі святы касцельны дах*
*нясе Тадэвуш Зосю на руках...*

### 1920 год

*Лета здзічэлых садоў*
*раздзіраецца громам.*
*Чырвоная кавалерыя пераходзіць Нёман.*
*Сорак пляменаў ідуць —*
*унукі хана Чынгіза.*

*У расхрыстаным Краі паміж*
*Варшавай і Мінскам*
*чырвоны пыл над зямлёй*
*і свінцовая навальніца.*
*Лета здзічэлых садоў*
*раздзіраецца громам.*

*Скончылася амуніцыя.*
*Выйшаў даўно фураж.*
*Неба ў пажарах. Дарогі ў фурманках.*
*Страшны міраж.*
*Штыкамі, нажамі,*
*лапатамі б'юцца пад Радзымінам.*

*Б'юцца дывізіі з Крэсаў.*
*За чужую Варшаву гінуць.*
*Але не дадуць яны мачаху ўнукам*
*хана Чынгіза.*
*Стаіць Варшава! Дай Бог, панове!*
*Але гэта горад не наш...*

### Браніслаў Тарашкевіч

*Чаму такі ўжо лёс? Чаму заўсёды позна?*
*Хоць сам ты на "Граматыцы"*
*сваёй накрэслі крыж!*
*Сярэдняя Літва далучана да Польшчы,*
*а ў польскі Сейм крычаць —*
*як да глухіх крычыш.*

*У Цопат тайняком?*
*Па грошы да Саветаў?!*
*Эх, што з таго жыцця, калі ляцім да зор!*
*І грымне Грамада — кароткая, як лета...*
*У гродзенскай турме даўжэйшы калідор.*

*Мяжа. Абмен. Масква.*
*Чырвоным дробным клеркам*
*цягнуць свой рэферат, сваёй чаргі чакаць*
*да ямы са сваім расстрэльным*
*пакаленнем*
*і думаць, ці пачнуць*
*"Граматыку" чытаць...*

### 1939 год

*Скончыўся перапынак паводле*
*актаў Версаля.*
*Новае пакаленне выступіла ў паход.*
*Танкі ўжо пад Варшавай.*
*"Юнкерсы" над Варшавай.*
*У верасні наступае першы ваенны год.*

*Рыжскі падзел ганебны*
*больш нікога не дзеліць.*
*Танкі даўно за Нёманам.*
*Са слупоў "говорит Москва!".*
*Мястэчка клічуць райцэнтрам.*
*У мястэчку кірмаш. Нядзеля.*
*Ходзіць зямля пад нагамі.*
*Кружыцца галава.*

*Звыклы пры кожнай уладзе жыць*
*у ладзе і згодзе,*
*люд тутэйшы гадае,*
*які ж гэта будзе лад —*
*як быццам ужо ўсё скончана...*
*Эх, вясковы народзе!*
*Так хутка ён адгрукоча,*
*у Брэсце супольны парад...*

### На вуліцы Леніна ў Гродна

*На вуліцы Леніна ў Гродна Ленін*
*не жыў ні дня.*
*І ні дня не жыла тут ленінская радня.*
*Але на вуліцах Леніна ленінцаў*
*шмат жыве.*
*Ленінцы — гэта ў каго ўсё правільна*
*ў галаве.*

*На вуліцы Леніна ў Гродна*
*да камунізму крок.*
*У цэмры кожны свабодны.*
*На вуліцы плюта і змрок.*
*Але за вокнамі лямпачкі ленінскія гараць*
*і людзі з блакітных экранаў жывым*
*не даюць паміраць.*

*Лезе праз тэлевізары казка*
*аб вечным цудзе.*
*Новага выберуць Леніна,*
*калі надакучыць той.*
*Хай заплёваны сходы,*
*хай падворкі ўсе ў брудзе,*
*але шчаслівыя ленінцы ў вечнай мроі святой.*

### Роздум над сажалкай з вудаю ў руках

*Ні дзеўкі не клююць, ні карасі,*
*а што да грошай — дык і не прасі.*
*Такое лета.*

*А ўсё хадзіў, крычаў, перабіраў!*
*Дык вось таму Пан Бог і пакараў*
*мяне за гэта...*

*А час ідзе — і гінуць Край і дом,*
*і прападаюць сілы дзень за днём*
*і год за годам.*

*Але не варта гэтага чапаць,*
*бо так і будуць нечага чакаць —*
*з усім народам.*

### Эпітафія

*Вось і пражыў я свой апошні год*
*ад панядзелка і да панядзелка,*
*сярод пустых заняткаў і прыгод*
*чорт лез у вуха — і цякла гарэлка.*

*Мне холадна і страх трасе мяне,*
*на гэты Край даўно няма надзеі,*
*і крыж не дапаможа на сцяне,*
*бо я слабы і каяцца не ўмею.*

*Кароткая была мая пара,*
*нядоўга жыў і зла зрабіў нямнога,*
*але ніколі не зрабіў дабра*
*і не любіў на свеце я нікога.*

### Семінарыя

*Прыедуць хлопцы з дальніх вёсак —*
*хто па навуку, хто па долю.*
*У Гродне запалае восень*
*і ўжо не скончыцца ніколі.*

*На горцы нёманскай, як колас,*
*расце касцёл праз пяць стагоддзяў,*
*а над гарой лунае голас —*
*тады, і ўчора, і сягоння.*

*І гэты ціхі голас кліча*
*не ваяваць, не глоткі рэзаць,*
*а думаць і штодня маліцца*
*тут, на забытых Богам Крэсах.*

### Сувальскі дождж

*Над Сувалкамі дождж,*
*над Сапоцкінам першая хмара*
*праплывае ў бок Гродна*
*і ткацкі пускае станок —*
*і вось ніткі з-пад хмараў аснову*
*сякуць тратуараў,*
*ніжуць стрэхі і дрэвы,*
*і горад да ніткі прамок.*

*Асыпаецца лісце.*
*Слізгота на вузенькіх бруках*
*і на бітым асфальце, і ў прадмесцях*
*на гліне дурной.*
*Вось і год праляцеў.*
*Пракацілася сонца па кругу.*
*Вось і пустка ізноў асыпаецца ў вір за сцяной.*

*Над Сувалкамі дождж,*
*дождж над Гродам, над Мінскам,*
*над Оршай.*
*Белы свет даўно шэры —*
*і золата лісця гніе.*
*Але што ж тут рабіць!*
*Не было б нам яшчэ долі горшай,*
*як адзін дробны дожджык*
*да ранку заснуць не дае...*

ПРОЗА

Анатоль КАЗЛОЎ

# КАНЯТОП З ПЕРАЗІМЧЫХАЮ

## УРЫВАК З АПОВЕСЦІ "ПЕРАКУЛІСЯ, ПЕРАКУЛЕНАЕ"



НАДЗЮХА ці не першая з вясковых прачыналася ў Шышкаўцы. Яна, няхай то зіма ці лета, запальвала ў печы, калі не было і пяці гадзін раніцы. Звыклася "старая шэльма" (так Надзюху зваў у вочы і за вочы сусед Андрон) першай да калодзежа збегаць, нечапанай вады сербануць, сляды на росных травах, ды замеценых снегам сцежках "пачытаць".

"З-за такога паганага нораву ў векавухах і засталася, недарослая вужэлка, — выгукваў ёй у спіну Андрон, калі сварыўся з Надзюхай за курэй, ці за слівы, якія абтрос вецер на яго, Андронаў агарод, а Надзюха (яны ж на яе ўчастку растуць) увішна збірала ў свой кошык.

— Няхай бы людзі паспыталі, укінулі ў рот, — таптаўся ў такія хвіліны каля Надзюхі Андрон у вечных сваіх кірзавіках. — Дзякуй хоць раз пачула б, старая ты, шэльма.

— Халеры з'еш, атопак падраны, мухамор трупехлы, — прарывала на голас і Надзюху. — Лепш свінням высыплю, чым табе, нягегламу пустадомку пакідаць. Ты, чым сварыцца, лепш бы комін пачысціў, сажы там у кулак таўшчыні. А яна і загарэцца можа, перакінецца ветрам на маю страху, пасаджу я цябе, Андрон, тады ніхто і скарынкі чэрствай у турму не прынясе. Папомніш маё слова.

Хаты Надзюхі і Андрона стаялі ледзь не ўпрытык. Яны, быццам блізняты ціснуліся стрэхамі адна да адной, глядзелі на вуліцу трыма вокнамі, адным — на агароды. Стрэхі, пакрытыя дранкаю, даўно зацягнуліся тоўстым наростам мяккага зялёнага імху. Здавалася — кінь на гэтыя стрэхі добра ўсмаленую лучыну, і тая захліпнецца, закурадыміць, а што гаварыць ужо пра іскарку.

Вось і гэтай раніцай Надзюха не паспела яшчэ нават прычасаць грабеньчыкам ссівелыя валасы і павязаць на галаву хустку, а ўжо сагнулася над загнётам з запаленай паперчынай, якую ўвішна падтыкнула пад добра высахлыя з мінулай восені дровы. Агонь агарнуў паленцы, заскакаў па драбнейшых трэсках, лізнуў учарнелыя бакі чыгуноў і разліўся па ўсім сподзе печы. Дым лёгкай плянёнкай пацягнуўся ў комін.

— Не патухне цяпераса, — сама сабе прагаварыла Надзюха і па звычцы, якая складалася гадамі, зазірнула ў акно, што выходзіла на агароды.

Туман паспеў ужо спаўзці з вышэйшых мясцін у нізіны, толькі рэдка дзе яго бароды чапляліся за бульбоўнік і віхлястанэроўныя барозны. Ладны, рукамі не абхапіць, шар сонца, на вачах, чвэрць за чвэрцю, падымаўся, усплываў далёкімі вяршалінамі ельніку.

— І сёння пагодліва будзе. Няхай бы пырскнуў дожджык, хоць на адно каліўка. Бульбоўнік пасмяг, а цяпер жа самая пара завязі ў сілу ўбірацца. — Надзюха, за доўгае жыццё ў адзіноце, звыклася гаварыць сама з сабою. Чуючы свой голас, прыслухоўваючыся да яго, старая нібы ўяўляла, што пабачыць яшчэ нехта жывы, той, каго яна ўвесь час чакала і па сённяшні дзень чакае. — Андрон, чаўпень прыдуркаваты, яшчэ спіць, вылежваецца, і не смыляць у яго бакі. Як жывой была Андронава Марына, то ніколі ад мяне не адставала, за прыклад усім ставіла. З'еў, паразіт, такую бабу. Андрону не ціхмяная Марына трэба была, а такая зубастая, як я. Во дзе апёкся б ён, пакруціўся, як уюн на гарачай патэльні. Але кожнаму свой лёс, свая матухна-долечка...

Так, гамонячы сабе, Надзюха згледзела на сцежцы, якая бегла паўз агароды, нечую постаць. Па ўсім бачылася, што гэта дзяўчына, але можа быць і жанчына, цяперака яны, лярвы, таксама без хустак ходзяць, космамі трасуць. На тыя, мінулыя часы, іх мужчыны з вёскі выспяткамі гналі б. Але дзе цяпер тое?

Далекавата маладзіца ад мяне, не разгледжу. Выйду ў агарод, быццам бацвіння з буракоў наламаць, во тады нікуды яна не дзенецца, перастрэну і ўведаю хто такая.

Надзюха паспешліва зашмаргнула на сабе матузы старога фартуха і піхнула дзверы ў сенцы. На ганку ўжо саўганула ногі ў абрэзкі падраных гумовікаў, каб ногі ад расы не стылі і прыгорблена, ледзь не подбежкам, кінулася па баразне ў дальні куток агарода, да дзялкі з хрумсткім бацвіннем буракоў. Там, паблізу ад плота, і прабягала сцежка. Надзюха паспела ўкінуць у фартух з дзесятак адламаных лістоў бурачніку і з напускною цяжкасцю разагнулася, быццам ёй звяло спіну.

Вось цяпер яна ўжо добра бачыла хто быў на сцежцы. Сажняў за пяць ад яе, патупіўшы галаву, крочыла Дуняша Гарбацэвіч.

— Добрага здароўя табе, дзеўка! — на поўны голас павіталася Надзюха. — Ранняя ты, адкуль такой гадзінаю ляціш? У тваё гадкі я б яшчэ ў пасцелі млела, сны салодкія бачыла. Ці не матка некуды цябе адпраўляла? — Надзюха ўедліва ўсміхнулася.

"Старая карга ўсё ж высачыла. Ніхто і нішто міма яе вачэй не пройдзе. Як жа выкруціцца? Што б праўдзівае прыдумаць, каб затыкнуць паганы рот старой?"

Дуняша нехаця прыпынілася, коса зыркнула на Надзюху Перазімчыху і з паказною абыякавасцю адказала: — Учора ў падругі ў Міхалевічах была, позна загуляліся, во я і заначавала. А каб мамка дужа не сварылася, вырашыла дамоў раней прыйсці.

— Шкода цябе, дзеўка, што пры месячыку з Міхалевічаў выйшла, га? Не блізкі свет адтуль датупаць, — старая па-змоўніцку мірганула Дуняшы. — Ды і дарогу ж ты выбрала дзіўную. З Міхалевічаў яна да другога, процілеглага боку вёскі падыходзіць, а мо я ўжо па старэчай дурноце нешта і зблытала. Галава не такая ў мяне светлая, як у цябе. Але ж я не чула, каб новую шасейку праклалі праз лес з Міхалевічаў у Шышкаўку. Яй бо, бабы анічагусенькі пра такое не казалі.

Дуняша на хвіліну сумелася.

"І як гэта я ляпнула пра Міхалевічы? Яны і сапраўды з другога боку. Да чаго ж уедлівая Перазімчыха. Чым з адной ёю сустрэцца, лепш няхай бы паўвёскі мяне пабачыла. Як не круці, а нявыкрутка выйшла. Цяпер ужо ўсё роўна, паляціць па вёсцы навіна. Ну і няхай. Навошта далей слацца з апраўданнямі перад старой пляткаркаю?"

— Усяго вам добрага, — урэшце выгаварыла Дуняша і знарок павольна, напяваючы сабе пад нос, пакрочыла далей па сцежцы.

— І табе няхай ладзіцца. Матцы прывітанне перадай, добрая яна ў цябе жанчына, праўдзівая. — Сказаўшы гэтыя словы ў спіну дзяўчыне, Перазімчыха з непрытоенай радасцю ўсміхнулася. — Глядзі ж не забудзь перадаць прывітанне, — гучней крыкнула яна.

●

Андрон бачыў праз акно, як перастрэўшы Дуняшу на сцяжцы каля свайго агарода, гаманіла з ёю Перазімчыха. Узіраўся ў цьмяную шыбіну і пыхкаў самакруткаю з тытунём. Ён, як ведалі шышкаўцы, штогод садзіў на сваіх сотках ці не з паўтысячы каліваў зелля. І ў яго, хто б ні папрасіў шчэпаць тытуню, заўсёды займее жменю.

"От, заразлівая баба, — думаў сам сабе Андрон Сыпун, — нікога міма не прапусціць, усіх вачыма ўпасвіць, языком перахрысціць. І адкуль такія людзі плодзяцца на зямлі? Ці ў іх сваіх турботаў мала? Па мне дык няхай чалавеча робіць што хоча, абы не назло бліжняму, толькі б на карысць самому чалавеку, ды і ўсім другім было.

Але ж і праўда: адкуль у такую пару коціцца дзеўка Гарбацэвічаў? "Гы, — хмыкнуў Андрон у пракураныя да ржавага колеру вусы, — дзела яно маладое. Ці мала дзе галубіцца можна"...

Сыпун, як толькі заўважыў, што Надзюха, наламаўшы фартух буракоўніку ідзе да хаты, выйшаў на веснічкі. Глытнуў на поўныя грудзі ранішняга, водарна-пахкага паветра, закашляўся глуха і глыбока.

— Во халера, курыва, глядзі і вантробы выверне, — сплюнуў Андрон узбоч сябе. Як колам па плячах уздзявуліла.

Надзюха ад нечаканасці аж прысела.

— Ты жывы яшчэ? — замест прывітання спыталася яна.

— Не дачакаешся. Паглядзіш — на тваіх хаўтурах я чарку вып'ю і песню зацягну, ды такую, каб уся вёска падхапіла.

— За жывое няхай цябе хопіць. — Неўзлюбіла Надзюха. — Калі сваю жонку са свету звёў, дачасна ў зямлю загнаў уедлівасцю, то каб мяне дастаць, — у цябе рукі задужа кароткія.

— Навошта ты мне, старая шэльма, гібей пад сонцам, сама ў дамавіну папросішся, а яе і не будзе. Думаю, дошак, каб збіць труну, яшчэ ж не нацягала на гарышча. Папрасіла б мяне. Удвух бы іх прынеслі ад калгаснай лесапілкі. А там глядзіш: чарачку б наліла, а я паціху і пасуседску вечную дамавіну табе састроіў бы. На тым свеце паненкай сябе адчуеш, мяне штодня прыгадваць будзеш.

— Няхай цябе балотныя жабы прыгадваюць. Дамавіну ён мне суліць, Канятоп бязбожны.

На Андрона, падалося, як быццам нехта нябачны вядзёрны чыгун вару выліў. Ён жвава саскочыў з веснічак і кінуўся да плота, які падзяляў агарод суседзяў.

— Не чапай, гадаўка, коней, а то прыдушу ў баразне і не каўкнеш, паганка ты языкастая. Коні ёй дарогу перабеглі!

— Канятоп, Канятоп, — як саплівае дзіця даймала Надзюха Андрона. — Што, рыбкі цяперака ўжо не хочаш, бо не з рукі зараз коней тапіць, ды і рэчка абмялела, возера перасохла, га, Канятоп.

Сыпун спрабаваў пералезці ўжо праз плот, але Надзюха перабіраючы хуценька нагамі шуснула ў дзверы сенцаў.

— Во і сядзі там, шэльма старая, няйнакш упалюю, то ўжо ў падполле, да пацукоў галавой упіхну. Не быў бы я Андронам.

Сыпун абапёрся спінаю на плот, зняў з галавы зношаны і выпалены сонцам капялюш, пашкроб лысую макушку, затым павярнуўся, зірнуў яшчэ раз на зачыненыя сенцы суседкі і паціху патупаў да сваёй хаты.

З даваенных часоў замацавалася ў Шышкаўцы за Андронам Сыпуном мянушка Канятоп. А ўсё пачалося з таго, што патрапіў ён у маладыя гады на далёкую рэчку Аку. Пайшоў ён у тыя мясціны не па сваёй волі, а лёс пагнаў, галадуха ды нішчымніца. Заўсёды ж здаецца, што ў далёкім краі і грыбы вышэйшыя і ягады буйнейшыя, а хлеб мякчэйшы.

Пабыў на далёкіх і лепшых харчах Андрон, а гадкі праз два, якраз за зіму да вайны з немцамі-фашыстамі, прыехаў ён назад дамоў, у Шышкаўку.

Кожнаму свежаму чалавеку, які з'яўляецца ў вёсцы, Надзюха Перазімчыха расказвала пра Андрона-Канятопа прыблізна так: — Наглядзеўся гэты недавумак чужых звычак ды забабонаў і захацеў прышчапіць іх у нас. Гадоў некалькі не вялася ў шышкаўскім возеры рыба, і ў рэчцы яе паменела. Тады ўжо вазамі шчупакоў ды карасёў з плоткамі не вазілі. Колькі мужчыны ні стараліся, а ледзь-ледзь на юшку налоўлівалі. Рыба як усё роўна выпарылася з нашых вод. Усялякія здагадкі хадзілі, а каб нешта путнае прыдумаць, такога не знаходзілася. Вось тут і заявіўся наш Канятоп. Уведаў ён пра бяду, а сам жа быў заядлым рыбаком, і адным вечарам, якраз пад саменькую вясну, сабраў мужчын у матчынай хаце і давай ім росказні нагаворваць, раіць як бяду агараць. Даводзіў ён усім, хто прыйшоў на сходку, што праблема-горачка з рыбаю з-за таго, што ўзлавалі, не залашчылі нашы мужчыны мясцовага азёрнага і рачнога вадзяніка. (У гэтым месцы гаворкі Надзюха весела, па-маладому смяялася, закінуўшы галаву, і хапалася за бакі, калі гаварыла стоячы, ну, а калі сядзела пры гамонцы, то абхоплівала рукамі свае худыя, вуглавата-касыя плечы). Нашаптаў Каняпот, каб сабралі мужчыны па некалькі рублёў і адправілі яго шукаць цыганоў. А на той час іх і не дужа цягалася па вёсках, новыя законы забаранялі, і міліцыянты палявалі на іх, застрашвалі, на зямлю ўссадзіць хацелі. Ды дзе вы бачылі, каб цыган за плугам хадзіў, а цыганка з сярпом спіну гнула? Дулю пад нос.

Але сабралі шышкаўскія рыбакі па рублю і адправілі Сыпуна (Надзюха, усе гэта ведалі ў вёсцы, мо толькі разы са два назвала Андрона па імені. Ёй здавалася, што завучы яго па прозвішчу, яна быццам бы ганіць і помсціць старому) шукаць валачэбных цыганоў. Тыдні два не было і ніхто яго не бачыў. Знік Сыпун і грошы знёс. Той-сёй гаварыў, што такой крутнёй-гаманой сабраў ён грошы, каб з'ехаць як падалей у свет белы, ды і абжыцца па-людску. Але на трэці тыдзень, пад вечар, Сыпуна ўбачылі ў вёсцы.

Ішоў ён ледзь цягнучы ногі, а на повадзе валок коніка-дахадзягу. З-пад скуры якога адны масляні тырчэлі. Зірнеш і думаеш, во падзьме больш сіберны вецер і ўзнясе пад хмары і чалавека, і каня. Выкупіў значыць дурніла ў цыганоў-прахвостаў самую нягодную каняку і, як сам гаварыў мужчынам, без торгу. Такое правіла быццам бы. Загадаў яшчэ Сыпун усім рыбакам з хатаў прынесці хоць па прыгаршчах ячменю ці аўса, а хто зможа, то і канопляў. А бясхлебіца ж пад вясну, пад кожнай страхой голад скуголіць, дзе тут набярэшся ячменю, не кажучы пра каноплі. Мужчыны ж, няхай яны спруцянеюць, (заўсёды бачылася, што ў гэтым месцы свайго казання Надзюха пачынала злавацца, яе сухенькі маршчыністы тварык усыпаўся чырвонымі плямамі, у жвавых, бясколерных вочках успыхвалі гняўлівыя іскаркі, пачынала трэсціся барада з сівымі валаскамі) крадком ад жонак з засекаў насеннага зерня нацягалі, усё для каня-дахадзягі. Тры дні Сыпун адкормліваў яго. А ў апошні, трэці вечар, павалокся дурніца-Сыпун да Яўхіма-медавіка. Ён калод пятнаццаць пчолаў меў. У яго і выгаргаваў Канятоп карэц мёду. Змяшалі яго рыбакі з соллю і вымазалі галаву беднай худобе. А ўсё ж рабілі цішком, каб мы, бабы, не бачылі. Ды халера з імі. Усё роўна даведаліся пра іхнія выбрыкі.

Апоўначы, так казаў нябожчык Пятрок, ён разам з усімі мужчынамі быў, павялі гуртам каня да рэчкі, у тое месца, дзе яна ў возера ўпадае. А ўжо крыгаход пачаўся, лёд трашчаў, што палатно, калі на анучы рвуць. Цёмненька вакол, бойся, што вока на галіне павісне. Пазапальвалі яны квачы з дзёгцем і стоўпіліся на беразе. Душагубец-Сыпун загадаў звязаць намазанаму каню ногі не толькі пярэднія, але і заднія. Сам жа стаў ракам і да вады прыслухоўваецца. Доўга ці не так стаяў ён — я не ведаю, але ж, гаварылі мужчыны, раптам усхапіўся, нібы гадаўка балотная яго ўджаліла, і з усяе сілы піхнуў каня з берага ў рэчку, на паламаны лёд. Конік і голасу не падаў, як вада яго з'ела. Шчубоўкнуўся ён на пачастунак вадзяніку (Надзюха зноў залівіста смяецца, каб той, прачнуўшыся пасля зімы, не мучыў малую рыбу, не разганяў вялікую, а ўлагодзіўся пачастункам-конікам, ды сцярог, аберагаў, прыманьваў з другіх, далёкіх вод да сябе, гэта значыцца ў нашу рэчку і возера, ёмкіх рыбін.

Калі ж вярнуліся мужчыны з рэчкі, то цалюткую ноч брагу жлукцілі. Пераказвалі, што Сыпун спецыяльна яе зрабіў да таго дня. Дзіва, адкуль Канятоп на той час росчыны ўзяў для брагі?..

З таго дня і стаў Сыпун Канятопам...

Надзюха звекавала ў дзеўках. Па маладосці, як гаварылі, цяпер ужо старыя жанкі, то была яна на выгляд і не дужа брыдкаю. Куды больш горшых і нягеглых хлопцы падабралі ў Шышкаўцы. Калі не свае, дык з суседніх вёсак, ці выпадкова-наезджыя, якіх было не так і мала. Бо Шышкаўка мясцілася паміж двума райцэнтрамі — Прапойскам і Маластоўкаю. Вось адтуль і набягалі малойцы, падчышчалі ў Шышкаўцы незамужніх, звозілі да сябе, на брукаваныя вуліцы, у святлейшыя хаты. Надзюха ж заставалася жыць з бацькам. Па невядомай прычыне абміналі жаніхі дворышча Перазімкаў, як усё роўна там чамярыцы нехта сыпануў.

Сарамацілася напачатку Надзюха, калі яе пагодачкі замуж павыскоквалі, дзецьмі абсыпаліся, а пазней, калі трыццаць гадкоў адгрукала, зжылася з думкаю, што прыйдзецца застацца ёй у бацькавай хаце адной-адзінюсенькай. Праўда, у вайну прыбіўся да Надзюхі акружэнец: някідкі такі мужчына, гадоў на дзесяць старэйшы, але руплівы і нязломак. Разам са старым Перазімкам хату за лета ператрэслі, зрабілі новы падрубак пад ніз, на шуллё дубовае паставілі замест падмурку — абнавілі хату. Радавалася Надзюха, цешылася шчасцем. Здавалася і яе Бог аблашчыў, не забыў, не пакінуў стаптаным быльнягом пры дарозе. Толькі ж прыйшлі нашыя войскі, пагналі немцаў, і знік акружэнец, па сённяшні дзень ад яго і водгаласу няма. Сумавала Надзюха, пісьмы паўсюль пісала, у архівы запыты пасылала, па людзях старых хадзіла, а чалавек быццам скрозь зямлю праваліўся, ці, як вада ў чыгунку, на палкім агні выпарыўся, і следу не пакінуў. Думала-думала Надзюха і ўрэшце вырашыла, што падмануў яе акружэнец, не сваім імем і прозвішчам назваўся. Калі дайшла розумам Перазімчыха да такой высновы, то і палягчэла на душы, знікла, перагарэла пякучая стрэмка ў сэрцы, лягчэй дыхаць стала і на Божы свет глядзець. Не яе, значыцца, было гэта шчасце. Пагрэлася крыху душою і целам каля чужога агеньчыку-цяпельца — і досыць. Усяму меру трэба ведаць. Жыццё рэдка дорыць каму адно безагляднае шчасце. Як дзень змяняецца ноччу, так і шчасце — журботаю ды слязамі. Але Надзюха не плакала, здаецца, ніхто з шышкаўцаў не бачыў яе пякучых слёз. Яна наадварот стала ўедлівай, з языком, што наточаны серп, а вочы-вужэлкі так і джгалі вакол, выглядвалі, сачылі, прыкмячалі.

## З вякоў мінулых

**У Нацыянальным мастацкім музеі нядаўна працавала выстава "Мастацтва Міншчыны XVI—XVIII стст." Аснова экспазіцыі — калекцыя Радзівілаў (дакладней — тая частка славутай калекцыі, што сёння належыць Беларусі). Гэта ў асноўным партрэтны жывапіс. Але ёсць і драўляная разьба, іканапіс. XVI—XVIII стагоддзі ўвабралі ў сябе найвышэйшы ўздым нашага нацыянальнага мастацтва, нашай культуры, прадчуванне заняпаду (Маскоўская агрэсія ў XVII стагоддзі літаральна спустошыла Беларусь — тут ужо было не да мастацтва...) і сам заняпад. А потым, як вядома, федэратыўная дзяржава пад назвай Рэч Паспалітая перастала існаваць. Беларусь стала правінцыяй Расійскай імперыі.**

**Творы гэтай выставы — своеасаблівае люстэрка драматычных падзей вякоў мінулых. На выставе было добра ўсё, за выключэннем, бадай, назвы. Відаць, нявагта пераносіць сённяшняе адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне на мінулыя стагоддзі. Гэта сёння Нясвіж альбо Слуцк — раённыя цэнтры Мінскай вобласці. А тады, у XVI—XVIII стагоддзях, Менск адносна Нясвіжа, які называлі "маленькім Парыжам", быў глыбокай правінцыяй, горадам, якіх шмат. Мяркую, нявагта было такім чынам змяшчаць гістарычна-культурныя акцэнты.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

## Юбілею мастацкай вучэльні

**У памяшканні музея Мінскай мастацкай вучэльні праходзіць выстава твораў яе выкладчыкаў. Як і выстава вучнёўскіх работ, што праходзіла ў Палацы мастацтваў, яна прымеркавана да 50-гадовага юбілею вучэльні.**

**У невялічкай зале разгарнуць буйнамаштабную экспазіцыю немагчыма. Сама сітуацыя абумовіла камерны характар выставы. Творы даюць магчымасць навучэнцам ММВ лепей зразумець сваіх выкладчыкаў і іхнія творчыя прынцыпы. Можа, у гэтым галоўны сэнс экспазіцыі. Але выстава мае цікавасць не толькі для прафесійнікаў, але і для аматараў мастацтва. Шэраг твораў з гэтай экспазіцыі я б з задавальненнем павесіў бы ў ўласнай кватэры.**

**П. В.**

## Патомны ганчар



**Івянецкі ганчар Уладзімір Сасноўскі — дастойны прадаўжальнік цэлага роду ганчароў, якія вось ужо паўтара стагоддзя займаюцца керамікай. Яго бацька, дзед, прадзед былі выдатнымі майстрамі, вырабы якіх карысталіся попытам і ў Літве, і ў Польшчы. Іх работы цаніліся знаўцамі гэтага рамяства і пакупнікамі глінянага посуду.**

**Уладзімір Сасноўскі пачаў працаваць ганчаром адразу пасля заканчэння школы. Майстэрства прыходзіла да яго год ад году. Яго моцныя, умелыя рукі добра адчуваюць матэрыял, умеюць гранічна дакладна выявіць у форме прыродныя якасці гліны, надаць вырабу свой каларыт.**

*На здымку: патомны ганчар Уладзімір Сасноўскі.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

МУЗЫКА

# Было, ёсць... будзе?

### РАЗМОВА З МАЭСТРА САЎЛЮСАМ САНДЭЦКІСАМ, ЯКІ РАЗАМ З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАМЕРНЫМ АРКЕСТРАМ ЛІТВЫ ЗАВІТАЎ НА ФЕСТЫВАЛЬ "БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ".

**— Для многіх нашых меламанаў сталася сапраўды чаканай падзеяй сустрэча з літоўскімі музыкантамі. Ваш знакаміты аркестр, маэстра, называюць у ліку лепшых калектываў Еўропы — удзельнікаў прэстыжных міжнародных фестываляў, чыннікаў серыі канцэртаў пад назваю "Аркестры свету"... І вось вы ў Мінску. Дарэчы, у які ўжо раз? І чым адметныя для вас візіты на Беларусь?**

— Мы шмат разоў бывалі ў вас. Я нават мог бы назваць дакладную лічбу — усе гэтыя выступленні рэгістраваліся, але я, на жаль, не паглядзеў адпаведныя запісы. Толькі ведаю дакладна, што апошні раз мы выступалі ў Мінску ў маі 90-га года. А ка: паўсюль выступалі. Цяпер, на жаль, тыя гастролі "на ўсход" абарваліся, з-за прычыны фінансавай, з-за эканамічных варункаў, у якіх мы сёння апынуліся. Але я рады, што ўжо адчуваюцца прыкметы пэўнага ўздыму, у артыстаў з'яўляюцца новыя ідэі, творчыя планы, яны пачынаюць больш ездзіць з канцэртамі... Хаця — і вам гэта вядома таксама, — увесь час даражэе праезд, гасцініцы. І калі нават артысты пагаджаюцца на мінімальныя ганарары, усё адно для арганізатараў канцэртаў наладзіць такія гастролі не па сілах. Дорага. Хіба толькі ўдасца знайсці грашавітага спонсара, які пагодзіцца фінансаваць арганізацыю такіх канцэртаў. але публіка не заўсёды належную цікавасць выказвала, нават да сапраўды вялікіх майстроў. Памятаю, як і сусветныя славутасці гралі ў пустых залах... Цяпер шмат змянаў. Філарманічная дзейнасць часткова трымаецца на камерцыйнай аснове, бо выдатныя салісты прыязджаюць і ім трэба плаціць ужо вялікі ганарар. Для гэтага трэба знайсці спонсараў. На пачатку сезона, напрыклад, у нас выступала Мантсэрат Кабалье. Былі "дзіка" дарагія білеты, але, канечне, зала была поўная, усе чакалі гэтага канцэрта.

Шмат выступаюць мясцовыя выканаўцы, менш гастралёраў, бо ўжо не так проста — вы ж ведаеце — іх запрасіць, пры раней часта прыязджалі: неаднаразова ўдзельнічалі ў "Беларускай музычнай восені", мелі канцэрты ў розных гарадах Беларусі; добра памятаю і Дні культуры Літвы, што ладзіліся ў 1974 годзе. І заўсёды для мяне выступленні ў вас былі звязаныя з самымі прыемнымі ўражаннямі. Таму што і публіка добрая, і тут багата сяброў-музыкантаў. І наогул, мы цесна супрацоўнічалі раней: у нас і супольныя рэгіянальныя конкурсы былі — прыбалтыйскіх рэспублік, Беларусі ды Малдовы. Сустракаліся "па лініі" кансерваторый і ў філарманічных стасунках. З вашым Камерным аркестрам заўжды былі ў нас добрыя сяброўскія творчыя сувязі. І публіка, думаю, у нас тут свая была.

Мы выступалі з цікавымі праграмамі, з рознымі салістамі. У Мінску выканалі ўвесь цыкл бахаўскіх фартэпіянных канцэртаў з Тацццянай Нікалаевай, і з Уладзімірам Мініным выступалі. Так што я вельмі рады, бо зноў надарылася магчымасць прыехаць да вас, і, я думаю, гэта — добры знак нашых будучых сустрэч. Тым болей, што ўвесну мы выступалі ўжо на музычным фестывалі ў Полацку. Цудоўны фестываль, гожа адрэстаўраваны храм! З цеплынёй успамінаем свой канцэрт там.

**— Я ведаю, што 12 гадоў таму на мінскай філарманічнай сцэне вы сустракаліся з Уладзімірам Мініным і рабілі з ягоным калектывам — Маскоўскім дзяржаўным камерным хорам — сумесную праграму. Мінуў даволі значны час, і сёлетняя "Беларуская музычная восень" зноў звяла вас, і вы парадавалі мінскую публіку супольным выкананнем цікавых вакальна-сімфанічных твораў — "Дзямественай літургіі" Грачанінава і "Глорыі" Вівальдзі. Магчыма, ёсць у вас супольныя творчыя праекты з іншымі адметнымі выканаўцамі?**

— О, так! Кола нашых творчых сяброў вельмі вялікае. Але з Мініным, з яго Камерным хорам у нас асабліва цесныя кантакты, бо яшчэ ў савецкія часы мы плённа супрацоўнічалі, шмат выступалі не толькі ў Маскве ды Пецярбурзе, але і за мяжой: у Фінляндыі, у Францыі, у Швейцарыі. Так што альянас у нас даўні, і самая апошняя буйная работа — Імша сі мінор Іягана Себасцьяна Баха...

**— Спадар Сандэцкіс, вашаму аркестру ўжо нямала гадоў, а ён здзіўляе сваёй творчай стабільнасцю, захоўвае выдатную якасць гучання... З чым гэта звязана: ці з тым, што калектыў заўсёды ў добрай форме, на яго ёсць сталы попыт не толькі ў Літве, але і ў Еўропе?**

— Аркестр наш... Ну, як тут сказаць... "Стары" аркестр, калі з узростам камерных калектываў суадносіць. Трыццаць сем гадоў! Арганізавалі мы яго ў 1960 годзе, і мая дырыжорская дзейнасць неадлучная ад Літоўскага камернага аркестра...

**— Вы і заснавальнік калектыву, і, можна сказаць, гадуеце для яго музыкантаў — тут іграюць вашы лепшыя вучні, у тым ліку лаўрэаты міжнароднага конкурсу...**

— На шчасце, мы шмат канцэртуем, шмат выступаем і за мяжой. Праўда, раней нашы гастролі па былых рэспубліках Савецкага Саюза ладзіліся вельмі шыро-



А што датычыць заходніх краін... Я ведаю, што і вашы калектывы ездзяць. А наш аркестр багата мае такіх канцэртаў, бо ў нас даўнія сувязі: яшчэ калі мы былі ў складзе Савецкага Саюза, пачалі выступаць за мяжой і дагэтуль захавалі кантакты з добрымі імпрэсарыо, з салiднымі заходнімі фірмамі. Так што працягваем удзельнічаць і ў буйных фестывалях, і проста ў шматлікіх гастрольных турах.

**— Без малога 10 гадоў таму вы адгукнуліся на запрашэнне з Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі і стварылі там студэнцкі камерны аркестр. Цяпер гэта "Санкт-Пецярбургская Камерата" — незалежны музычны калектыў...**

— Так, я кірую яшчэ і аркестрам у Пецярбурзе. "Санкт-Пецярбургская Камерата" працуе пры Эрмітажы. Часам я аб'ядноўваю абодва калектывы для сумесных выступленняў, і тады ў нас атрымліваецца вялікі сімфанічны аркестр. Ведаеце, гэта аказалася вельмі перспектыўнай справай. Бо мы выязджаем за мяжу як два аркестры, надараюцца па два канцэрты ў адзін дзень, але ў розных гарадах — раз'язджаемся і працуем паасобку камернымі складамі, а потым аб'ядноўваемся і граем ужо як сімфанічны аркестр. Дык пры паўсюднай складанай эканамічнай сітуацыі гэткая форма працы дапамагае нам мець годныя замежныя гастролі. Бывае, атрымліваеш 3-4 канцэрты для камернага аркестра і 4 для сімфанічнага — і ў выніку даеш 8—10 канцэртаў за адну гастрольную паездку. Гэта добра. Калі ж ехаць на некалькі канцэртаў з асобным калектывам, паездка будзе каштаваць надта дорага.

**— А канцэртнае жыццё ў вашай краіне — чым яно сёння адметнае?**

— Яно ў Літве, як, пэўна, і ў вас, апошнім часам змянілася. Раней намаганнямі "Саюзканцэрта" ладзіліся разнастайныя праграмы, штодня ў філармоніі праходзілі канцэрты, вельмі добрыя салісты прыязджалі, няць. Але бываюць падзеі. Вось у чэрвені ў нас ладзіўся музычны фестываль. Буйны фестываль, проста фантастычны! Таму што ў ім удзельнічаў і Растраповіч як дырыжор, і Мянухін выступаў і дырыжыраваў нашым аркестрам і хорам; і Юры Башмет быў, і Гегам Грыгаран, і многія іншыя выдатныя выканаўцы. Сапраўдная падзея для Літвы!

А яшчэ, напрыклад, у Шаўляі, у горадзе, дзе я нарадзіўся, ёсць традыцыйны музычны фестываль, на які, дарэчы, запрашаюць і ваш Камерны аркестр. І ў Клайпедзе фестывалі арганізуюцца. Цяпер больш неяк на месцах канцэртнае жыццё актывізавалася, бо аркестры камерныя ёсць і ў Шаўляі, і ў Панявежысе, і ў Клайпедзе, і ў Каўнасе. Гэта дае нейкі рух, усе стараюцца штосьці прыдумваць, штосьці рабіць, актывізуюць музычнае жыццё ў сваіх гарадах. Але з другога боку — як доўга пацягнем?

Я дужа рады, што дагэтуль не зачыніўся ніводны тэатр, музычны калектыў. Бо як глядзім на прыклад Заходняй Еўропы — там зачыняюцца. Там фінасавыя ўмовы ў артыстаў лепшыя, ім плацяць больш, але... Бывае, субсідыі спыняюцца, і даводзіцца распускаць калектывы. Дзякуй Богу, што мы яшчэ неяк можам існаваць і маем надзею знайсці вырашэнне праблем, каб захаваць набыткі нашага музычнага жыцця на будучыню.

**— Дзякуй, шаноўны маэстра, за цікавы аповед. І няхай акалічнасці паспрыяюць новым сустрэчам беларускай публікі з Нацыянальным камерным аркестрам Літвы. Мы вас заўсёды слухаем з радасцю!**

*Алесь ВОЛЬША*

*На здымку: зноў сустрэліся ў Мінску сябры, суседзі, калегі — народныя артысты СССР прафесары Саулюс Сандэцкіс, Віктар Роўда, Уладзімір Мінін.*

*Фота А. МАЦЮША*

ЗГАДКІ

***Тэатразнаўца Б. Бур'ян згадвае адну даўнюю ўжо і незвычайную купалаўскую прэм'еру — па п'есе А. Макаёнка "Пагарэльцы". Згадаць яе варта хоць бы дзеля таго, каб лабачыць, якімі мы былі. Які цяжар павінны былі скінуць з плячэй, каб яго, крый Божа, не перахапілі дзеці нашы і ўнукі. А другая нагода — у гэтыя дні споўнілася 15 гадоў, як ад нас адышоў наш слынны камедыёграф.***

# Пра нуль, што пнецца ў велічыні

Дзіўнаватая прэм'ера адбывалася некалі ў Купалаўскім тэатры. Здаецца, пахмурнымі днямі васьмідзесятага. Калі не памыляюся, афішы не было, запрашалі на "прагон з гледачамі". Ды толькі тэатралы ведалі, што ажно праз дваццаць гадоў пасля таго, як п'еса была напісана А. Макаёнкам, яе нарэшце злітасцівіліся дазволіць паставіць на сцэне. На адзінай пакуль што. Ды што там казаць, тэатралы наведалі чарнавую рабочую назву таго твора — "З кірмашу", якую аўтар змяніў на "Пагарэльцаў".

Во дасягненне! Ажно дваццаць гадоў тлуміць галаву ды — каму?! Самому Андрэю Макаёнку, здатнаму насуперак тутэйшай мясцовай (у тыя часы — "мясцовай") уладзе узяць забароненую тут сваю камедыю і завезці ў Маскву, у тэатр, што паблізу ад Старой пло-шчы, і там адсвяткаваць прэм'еру. Цяпер чамусьці і ён марудзіў. Але ў прыдворных усяведаў язык па-за вушамі ходзіць, і мы ад такіх "цэкоўцаў" і даведваліся, што свавольнага драматурга адгаворвае... улагоджвае... пераконвае не спяшацца з прэм'ерай "Сам", тагачасная першая асоба ў БССР. Маўляў, камедыя вострая, шмат у чым цэліць не ў брыво, а ў вока, нават надзённая выкрывальным пафасам, але... Але вось адсвяткуем сямідзесяцігоддзе Вялікага Кастрычніка і тады... Вось сціхне ўрачыстасць пяцідзесяцігоддзя стварэння БССР... Вось адзначым стагоддзе з дня нараджэння У. І. Леніна...

Сапраўды, грамадскасць афіцыйна святкуе гістарычныя, як іх тады называлі, даты, асэнсоўвае і ганарыцца поспехамі ў сацыялістычным будаўніцтве, а тут — на табе чорт табакі! Валтузня сярод кар'ерыстаў і хабарнікаў, прайдзісветаў ды зухватаў, кожны з якіх — наменклатурны работнік, з партбілетам у кішэні. Не-не, заўчасна... трэба перачакаць...

І дасюль адчуваецца, што стваралася камедыя "Пагарэльцы" пад уражаннем таго жыватворнага працэсу, які завецца ў афіцыйных дакументах выкрыццём культу асобы, памылак і злачынстваў Сталіна. Працэсу, які "не змяняе прыроды сацыялістычнага грамадства, не хістае ўстоі сацыялізму", што падкрэслівалі нават энцыклапедычныя тамы аж да 90-ых гадоў. Дык жа і А. Макаёнак не збіраўся падрываць тыя ўстоі! Камедыя выводзіць на чыстую ваду тых, хто ганьбіць сваімі паводзінамі, прыніжае аўтарытэт партыі і дзяржавы, дыскрэдытуе саму ідэю абвешчанай маральнай перавагі савецкага чалавека перад любым прадстаўніком буржуазнай дэмакратыі.

Ах, як рагатала глядзельная зала, калі наваспечаны начальнік з найменнем Ухватаў правярае халопскую адданасць сваіх бюракратычных навабранцаў! Яму нібыта дакучае муха — гудзе і гудзе... Кандыдаты на адказныя хлебныя пасады ў маштабах горада са скуры вылузваюцца, такія каленцы выкідваюць, пад столь падскокваюць, у ладкі пляскаюць — абы першым прыхлопнуць злашчаснае насякомае. Дагадзіць хочацца — яму, "самому", усмешліва задаволенаму Хведару Паўлавічу, які стаіць у нерухомай позе гэткага Напалеона пад Аўстэрліцам. Можа, тае мухі тут і заваду няма, паляцела ў белы свет, а яны ўсё гойсаюць, усё ловяць і ловяць...

Лаўцы пасад і прывілей, кан'юнктуршчыкі і няўмекі, яны сабе і кабінет адпаведна ўласным запатрабаванням у начальніка выпрошваюць...

Я і дагэтуль помню, як Генадзь Аўсяннікаў у ролі Антона Бусько вынаходліва аблюбоўваў-шукаў тое цёплае месцейка: "Ты мне прыдумай штонебудзь... Ну, гор які... гор-топ... горбуд, гор-прод... дор-орс... гор-пром... што-небудзь галантарэйнае..."

Што за жывучая традыцыя ў савецкай наменклатуры! Калі ў цябе беззаганная анкета і ёсць знаёмства ў адпаведных колах, лічы сваёй амаль любую вакансію. Сёння — лектар, заўтра — дыпламат. Сёння — выхавацель у рамесным вучылішчы, заўтра — дырэктар культурна-асветніцкай установы. Сёння — інструктар райкама партыі, заўтра — дырэктар тэатра... Безліч дылетантаў кумекае, якім чынам робіцца кар'ера, і што ж дзіўнага ў гатоўнасці ўчарашняга мяшальшчыка гліны на цагельні кіраваць камунальнай гаспадаркай або прамысловасцю горада!..

Камедыя "Пагарэльцы" — гэта пралог (першая дзея) і эпілог (другая). У спектаклі, пастаўленым В. Раеўскім у дэкарацыях Б. Герлавана, спачатку ў даволі трывожнай і напружанай атмасферы пралога адчувалася, што на самай справе землетрасенне, аб якім палахліва гавораць у доме Ухватава, гэта тое, што цяпер, у нашы часы, абазначаецца ўсім зразумелым тэрмінам "трыццаць сёмы"... 37-мы незабыўна-няшчасны... Замест пасаджаных і расстраляных у начальніцкія крэслы ўсаджваюцца розныя Ухватавы з хаўруснікамі. І па тым, як яны прыстасоўваюцца да ўлады, прадчуваецца іхняя ці не прафесійная звычка пракладаць сабе шлях да зіхатлівых вяршыняў языком і локцямі. Во рухавікі, дык рухавікі ў кар'ерыста! Дзе трэба — ліжы, дзе трэба — саштурхні. Уладаносец аддзячыць табе за майстэрства лізаць яму боты і падцягне цябе вышэй па лесвіцы, а нядужаму саперніку ты адказыраеш і — штурхель яго локцем, той і ляціць у тартарары. Табе — яго пасада...

Такая другая дзея "Пагарэльцаў". Надзіва жывымі былі тыя кар'ерныя хамелеоны з акружэння Ухватава — Сілан Клёпкін, які выхваляецца сваім удзелам у рэвалюцыі 17-га (ён у Петраградзе вартаваў дрывяны склад), памянёны вышэй Антон Бусько і нехта Кудасаў, што мае надта тонкі "нюх" і нос трымае па ветры. Артысты Г. Гарбук, Г. Аўсяннікаў і П. Кармунін складалі каларытную трыяду адметных "гаспадароў жыцця", кожны з якіх учора па самае не хачу падхалімнічаў, а сёння бярэ рэванш — і за халуйскае паляванне на мух, і за вылізаныя з ласкі на пацеху боты. Гэтая тройца насміхаецца здзекліва са свайго былога кіраўніка, лідэра, правадыра. Ганяюць яго ад аднаго да другога за фармальным дазволам на размен сваёй пяціпакаёвай кватэры. Ухватаў Віктара Тарасава выглядаў ахвярай сваіх уласных гадаванцаў, сутыкненне з імі для яго было ці не больш балючае, чым строгая партыйная вымова і звальненне з уладнай пасады. Гэта ж ён сам, не ведаючы нічога пра старажытнага рымскага імператара, жыў па прынцыпе Калігулы: "Няхай ненавідзяць, абы баяліся!" Ды ягоная нянавісць да злыдняў у чыноўніцкіх крэслах бяссільная. Ён сарваўся з наменклатурнай лесвіцы, а тыя — трыяда — хоць і не надта высока ўскараскаліся, затое "пры ўладзе".

Калі рыхтаваўся спектакль, А. Макаёнак быў у фаворы: народны пісьменнік, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі... Яму многае дазвалялася і даравалася. І ён у гэтай камедыі з выдатным веданнем справы, бо сам некалі пачынаў партыйную кар'еру з памочніка сакратара райкама, адлюстроўваў, я сказаў бы, тэхналогію абюракрачвання людзей, сапсаваных магчымасцю займаць высокія пасады паводле кумаўства ды асабістай адданасці гаспадару, — пакуль той гаспадар.

У п'есе і ў спектаклі была патэнцыяльна зараджана рэакцыя гледача — смех. Той, што па сутнасці камічнага жанру смяецца з мітусні і свавольнага бязладдзя — у імя жаданай гармоніі жыцця. Смех — як радасць насуперак злым хітрыкам і вынаходліваму інтрыганству. Мо тыя інструктары-рэдактары і прадстаўнікі ўлады, якія звычайна прымаюць спектакль і вызначаюць ягоны сцэнічны лёс, пачулі ў гэтым смеху штосьці падазронае і нават шкоднае. Ім здалося, што драматург і тэатр здзекуюцца не з Ухватава і ягонай зграі-сінекуры, а... з самой сістэмы партыйна-дзяржаўнай расстаноўкі кадраў. Інакш чым жа тады тлумачыцца тая абразлівая для А. Макаёнка і тэатра цяганіна, якую наладзілі напярэдадні прэм'еры кіруючыя ўстановы? Вымагаліся ўсялякія папраўкі і ўдакладненні, скарачэнні і дадаткі. Спрэчкі зводзіліся да смешнага: афіцыйныя прыёмшчыкі спектакля не адважваліся адкрыта сказаць, што ім блюзніцца-мроіцца ледзь не антысаветчына ў "Пагарэльцах", а тэатр адстойваў права на камедыю, што спрыяе ачышчэнню грамадства ад наноснага і чужога нібыта самой прыродзе нашага грамадства — ад ухватаўшчыны.

Прыёмшчыкі прыдзірліва абгрунтоўвалі празмерную, на іхні погляд, гумарыстычнасць спектакля, які нібыта ўспрымаецца "смешнай пародыяй на зусім нясмешныя жыццёвыя з'явы", а яго персанажы "нагадваюць хутчэй нейкія архаічныя тыпы, якія цяжка ўявіць у наш час" (цытую старонкі "Гісторыі беларускага тэатра", выдадзенай у 1987 годзе).

Спектакль быў, як той казаў, спушчаны на тармазах. На падмостках не затрымаўся і адпаведнага розгаласу ў крытыцы не меў. Такое ў А. Макаёнка здаралася раней толькі аднойчы: не забароненым афіцыйна, але паціху знятым з рэпертуару быў у 71-ым годзе спектакль купалаўцаў "Каб людзі не журыліся". Тады на пытанне Андрэя Ягоравіча, чым мастацкі твор, які ўсім сваім вобразным ладам выступае за ўмацаванне сельскай гаспадаркі, за сацыяльную справядлівасць на вёсцы, угнявіў наша кіраўніцтва, мудры акцёр Глеб Глебаў (я быў сведкам гэтаму) ціхамірна ўздыхнуў і перафразіраваў слынны афарызм, сказаўшы:

— Ах, Андрэй Ягоравіч, на свеце яшчэ так шмат таямнічых з'яў, мой дружа мілы, якія не падуладны нашаму разуменню!

Прыгадваючы тую дзіўнаватую прэм'еру, я ўспамінаю і гэтую тэатральную рэпліку, бо і сапраўды цяжка ўцяміць, чаму не самая лепшая, на маю думку, камедыя А. Макаёнка раздражняла тагачаснае ідэалагічнае кіраўніцтва. "Пагарэльцы" ўсім сваім пафасам былі скіраваны супроць нахрапістай ухватаўшчыны, бюракратызму, што раз'ядала грамадства і маральна разбэшчвала чалавечую асобу, якая б ні была яна высакародная па прыродзе. Выкрываючы такія заганы, творчая інтэлігенцыя мела намер усяляк спрыяць таму, што завецца цяпер спробай надаць сацыялістычнаму ладу чалавечае аблічча. Ды толькі ўлада бачыла ў гэтых намаганнях падкоп, ідэалагічны падрыў "устояў". Вось і А. Макаёнак разам з Купалаўскім тэатрам пачулі тады гэты жандарскі вокрык: "Асадзі назад!" Падобнымі вокрыкамі ўлада старалася ператварыць інтэлігенцыю ў паслухмяную выканаўцу яўных або сакрэтных так званых сацыяльных заказаў.

**Барыс БУР'ЯН**











*На здымках: сцэны са спектакля.*

*Фота Ул. КРУКА.*

# Тут яго любяць і паважаюць



Калі народнаму мастаку Беларусі Гаўрылу Харытонавічу Вашчанку спатрэбіцца аргумент у доказ сваёй папулярнасці сярод прыхільнікаў выяўленчага мастацтва, то ў Светлагорску ён здабыў яшчэ адзін: амаль гадзіну дзве перапоўненыя залы мясцовай карціннай галерэі, у якіх, як гаворыцца, яблыку не было дзе ўпасці, чакалі яго прыезду. Адразу ж зазначым, што затрымка адбылася не па віне шаноўнага госця. Але ж дачакаліся! І з якой шчырай удзячнасцю ён быў сустрэты, калі разам з жонкай — Мацільдай Адамаўнай — пераступіў парог карціннай галерэі, дзе адкрывалася яго акварэльная выстава. Першая ў багатым падзеямі творчым жыцці гэтага слыннага мастака. Так, яшчэ ніколі Г. Вашчанка не паказваў сваёй чыстай акварэльнай экспазіцыі. І наогул да Светлагорска ў яго даўнія сімпатыі. Справа ў тым, што яшчэ ў 1972 годзе ён рабіў тут роспіс Палаца культуры хімікаў. Той самы тэмперны роспіс, які пад назвай "Зямля светлагорская" стаў хрэстаматыйным, прадстаўлены рэпрадукцыямі ў многіх прэстыжных выданнях, прысвечаных выяўленчаму мастацтву Беларусі.

Дарэчы, адзін з эскізаў гэтага роспісу Г. Вашчанка ахвяраваў Светлагорскай карціннай галерэі яшчэ задоўга да сустрэчы ў ёй. Цяпер ён экспануецца сярод іншых набыткаў яе фонду.

Але галоўнай падзеяй, вядома ж, стала ўрачыстае адкрыццё акварэльнай выставы. Творы вызначаюцца мяккасцю танальных пераходаў, патончаным адчуваннем прыгажосці, філасофскім абагульненнем убачанага і асэнсаванага. Г. Вашчанка ўмее "спыніць імгненне", засяродзіць увагу на няўлоўным, заўважаным толькі ім. Гэта асабліва адчуваецца ў творах "Апошні прамень", "Зайчыкі", "Восеньскі мінор", "Вечаровы туман", "Раніца", "Цішыня" і іншых. Філасофскім роздумам прасякнуты карціны "Адвечнае", "Палессе", "Халоднае неба", "Забыты хутар", "Аднаўленне", "Змрок"... Зрэшты, іх нельга абагульняць, бо кожны твор непаўторны, адзіны.

Свае думкі і пачуцці, выкліканыя гэтай выставай, выказвалі на ўрачыстасці старшыня гарадскога выканаўчага камітэта Б. Пірштук, мастакі Уладзімір Зінкевіч і Іван Кліменка, якія прыехалі разам з Гаўрылам Харытонавічам, а таксама іх калегі з Гомеля Мікалай Казакевіч, Ігар Сямека, Уладзімір Кароткі. Гасцей вітаў ансамбль народных інструментаў "Сувенір" мясцовай музычнай школы. Свой верш, прысвечаны Г. Вашчанку, прачытала Соф'я Шах. І было шмат кветак, шмат шчырых слоў удзячных светлагорцаў.

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ
*Фота В. СТРЫБУКА*

# "Юнацтва" плюс "Веселка"

Даўнія творчыя кантакты паміж беларускім выдавецтвам "Юнацтва" і ўкраінскім "Веселка". Сведчанне таму не толькі шматлікія перакладныя выданні, якія, нягледзячы на ўсе цяжкасці, па-ранейшаму з'яўляюцца ў абодвух, а і калектыўныя зборнікі. Нядаўна ў "Юнацтве" выйшаў чарговы з іх, чацвёрты па ліку. Гэта кніга "З крыніц адвечнай прыгажосці", якую склалі ўкраінскія і беларускія народныя легенды, паданні і казкі (укладанне Б. Чайкоўскага і М. Зелянковай, пераклад украінскіх тэкстаў на беларускую мову Т. Кабржыцкай). А прадмову "Падарожжа ў чароўны свет" напісалі Б. Чайкоўскі і М. Пазнякоў. Аналагічная кніга пабачыць свет і ў "Веселцы".

## ПЕРАКЛАДЫ

***Сяджу над перакладам "Дзядоў" вялікага сына беларускай зямлі Адама Міцкевіча, 200-гадовы юбілей якога неўзабаве будзе адзначаць увесь свет. У аснове паэмы — старажытны беларускі абрад памінання продкаў — дзядоў (дарэчы, назва абраду чыста беларуская, у польскай мове нават слова такога няма). Ды і ўсім сваім зместам паэма звязана з Беларуссю, у ёй узнаўляюцца шмат якія падзеі, непасрэдным удзельнікам якіх быў сам аўтар. Адзін з асноўных матываў паэмы — асабістае каханне паэта да беларускай шляхцянкі Марылі Верашчакі, што жыла ў маёнтку Туганавічы (цяперашні Баранавіцкі раён). Даведаўшыся, што яго каханая нечакана выйшла замуж за графа Ваўжынца Путкамера з недалёкага ад Туганавіч маёнтка, малады Адам Міцкевіч быў проста ашаломлены, ён даходзіў да грані вар'яцтва. Гэты яго стан вельмі добра перададзены самім паэтам у драматычнай паэме — у паэтычным уступе да яе "Здань" і асабліва ў сцэне сустрэчы Густава, праобраза аўтара, з ксяндзом, былым настаўнікам Навагрудскай дамініканскай школы. Гэты ўрывак паэмы пра каханне Адама і Марылі і прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа" ў сваім перакладзе.***

**Кастусь ЦВІРКА**

Адам МІЦКЕВІЧ

# Дзяды

## УРЫВАК З IV ЧАСТКІ

Густаў

*Нядаўна я наведаў дом памерлай маткі.*
*Яго я не пазнаў — мінулага астаткі.*
*Куды ні глянеш — тло, руіны, запусценне,*
*Калы платоў, паркету друз, каменне.*
*Ля дома палыны, быльнёг, асоту восці.*
*Маўчанне немае. Бы ў поўнач на пагосце.*
*Раней быў іншы мой прыезд у тыя брамы.*
*Калі здалёк вяртаўся я дамоў, да мамы,*
*Звычэнні чуў тады я ад усёй акругі.*
*Яшчэ за горадам мяне чакалі слугі.*
*Насустрач сёстры з брацікамі выбягалі.*
*"О Густаў, Густаў", —*
*брычку ўмомант абступалі.*
*Гасцінцы атрымаўшы,*
*ў дом дзятва імчала.*
*Там з блаславеннем маці*
*ўжо мяне чакала.*
*Во й школьныя сябры ўжо ў нас —*
*о радасць стрэчы!*
*Цяпер жа — ні душы. Бязмоўе.*
*Жах пустэчы.*
*Тут брэх пачуў я блізкі. Быў ён нечаканы.*
*Ах, гэта ты, наш пёс, наш Крук аддааны!*
*Наш вартаўнік!*
*Цябе любіла так сям'я ўся!*
*З усіх сяброў і слуг адзін ты і застаўся!*
*Хоць без яды, вартуеш тут усё адно ты*
*Дом гэты без паноў і без замка вароты.*
*"Мой Крук, мой любы!"*
*Стаў, не верачы мо й слуху.*
*І ўміг — на грудзі мне!*
*Завыў і ўпаў без духу!..*
*Гляджу — святло ў акне!*
*Іду: што ж там такое?*
*Зладзеі з ліхтаром, з сякерай у пакоях!*
*Пляндруюць там святой*
*мінуўшчыны астаткі!*
*На месцы, дзе калісь стаяла ложа маткі,*
*Адзін падлогу сек паркетную з размаху.*
*Я — загрудкі яго. Стаіць,*
*дрыжыць ад страху.*
*Пусціў. Сам сеў і плачу.*
*Тут пачуў у змроку:*
*Бы хтось ідзе — кіёчка стук*
*пры кожным кроку.*
*Кабета ў лахманах, схудалая, старая,*
*У ранішнім паўценю нібы здань якая.*
*Убачыўшы мяне ў пустым і немым гмаху,*
*Жагнацца пачала, ускрыкнуўшы ад жаху.*
*"Не бойся. З намі Бог.*
*Скажы, хто ты такая?*
*Што мосць твая у гэтым тле шукае?"*
*"Бяднячка я, —*
*расказвала мне са слязамі, —*
*Служыла ў гэтым доме я, жыла з панамі.*
*Ох, добрыя паны. Цяпер —*
*у іншым свеце.*
*Не, тут не мелі шчасця ні яны,*
*ні дзеці —*
*Памерлі, разышліся. Пра паніча —*
*ні слыху.*
*Напэўна, не жыве ўжо. Дом гніе паціху".*
*Крывёю сэрца аблілося ля парога.*
*Няўжо мінула ўсё?*

Ксёндз

*Апроч душы і Бога.*
*Усё мінецца тут — і шчасце, і нядоля.*

Густаў

*Як памятна мне ўсё ў дамку тваім,*
*у школе!*
*Тут я ў двары з дзяцьмі*
*перасыпаў пясочак.*
*Па гнёзды птушак*
*бегалі мы ў той лясочак.*
*На лузе ў зайца тут студэнтамі гулялі,*
*У рэчку блізкую не раз нырца давалі.*
*Хадзіў я часта ў гай прырэчны,*
*каб сам-насам*
*Пабыць з Гамерам ці падумаць з Тасам.*
*Там разам з Янам Вену бралі мы нанова.*
*Я строіў "роты".*
*"Бой вялі мы адмыслова! (...)*
*Прыйшла яна зірнуць як мы гуляем,*
*дзеці.*
*Калі яе ў зары я ўбачыў выпадкова,*
*Тады ўва мне памерлі*
*Готфрыд і Ян Трэці.*
*Яна маёю завалодала душою.*
*З той хвілі сню яе, жыву я толькі ёю!*
*Усе ваколіцы тут ёю, ёю поўны!*
*Тут першы раз я ўбачыў лік яе чароўны.*
*Тут штось ласкавае сказала*
*мне пад вязам,*
*Тут з ёй на ўзгорку*
*мы Русо чыталі разам.*
*Альтанку ёй зрабіў жывую*
*ў тым цяні я,*
*Вунь з тых лясоў я нёс ёй кветкі веснавыя.*
*Вунь з той крыніцы, стоячы са мною,*
*Яна лавіла стронгу вудачкай сваёю.*
*А сёння!..*

(Плача)

Ксёндз

*Плач, ды знай: туга па снах былога*
*Нас толькі труціць,*
*ды не верне ўжо нічога!*

Густаў

*Праз столькі год вярнуўся*
*я пасля бадзяння*
*У мой шчаслівы край...*
*Але ў якім во стане! (...)*

Ксёндз

*Ці ж будзе горкая сляза, з якой змяшаны*
*Нектар нябёс — пра шчасце памяць?*
*Сын каханы!*
*Святло душы струменіць*
*нам сляза такая.*
*З атрутай жа сляза*
*хіба што ў злых бывае.*

Густаў

*Паслухай жа... Зайшоў я ў сад.*
*Нямы, бязлісты.*
*Асенні холад. Вечар быў такі імглісты.*
*Такімі ж хмарамі абклаліся нябёсы.*
*Між хмар такі ж плыў месяц.*
*Стылі росы.*
*Сяйво туману ўсе запоўніла прасторы,*
*Глыбока ў чарнаце начной танулі зоры.*
*На ўсходзе ж, бачу,*
*зорачка зноў свеціць тая,*
*Што нам тады свяціла,*
*што мне ўсюды ззяе.*
*Агонь той самы зноў паліў*
*мяне ў тым веццi,*
*Было ўсё, як тады... Яе вось я не стрэціў!*
*Падходжу пад альтанку.*
*Шолах там якісьці!*
*Яна? Не, ветрык там прабег*
*па жаўталісці.*
*І зноўку — цішыня! Кляны стаяць паныла.*
*Альтанка! Шчасця ты калыска*
*і магіла*
*Майго! Тут я знайшоў яе й згубіў!*
*А можа,*
*І ўчора тут была яна?*
*Ля дрэў падножжа*
*Во тых сядзела, дыхала паветрам гэтым,*
*Якім і я цяпер? Мо ёю ж і сагрэтым?*
*Гляджу наўкол.*
*Ды позірк мой дарма блукае.*
*Заўважыў над сабой на ніці павучка я.*
*Ён звесіўся з лістка —*
*не збіць бы акрабата!*
*Так, друг, са светам звязаны*
*мы слабавата!*
*Я к дрэву падышоў.*
*Гляджу, на ўскрайку лаўкі —*
*Букецік з траўкаю,*
*паперка ля той траўкі.*
*Ды гэта ж мой лісток!*
*Адна яго палова.*

(Бярэ лісток)

*З ім усплыла расстання хвіля:*
*"Будзь здарова!"..*
*Як з верным сябрам, з ім я павітаўся,*
*З ім доўга размаўляў,*
*пра ўсё ў яго пытаўся:*
*Як, як яна жыве? Калі ўстае?*
*Што робіць рана?*
*Якую грае песню на фартэпіяна?*
*Куды гуляць прыходзіць?*
*Да якой крыніцы?*
*Дзе бавіцца? У якім з пакояў?*
*Ці ў святліцы?*
*Ці згадвае мяне, ці не пытае, дзе я?*
*А ўспомніўшы, хаця б на хвілю*
*не зардзее?.. (...)*

(Паказваючы на лісток)

*Во бачыш — выкінула й гэты знак былога:*
*Ей нельга з памятак*
*маіх трымаць нічога!..*
*Пайшоў я з саду.*
*Хоць я на нагах трымацца*
*Ледзь мог, мяне цягнула штосьці*
*да палаца.*
*Ён тысячай агнёў сярод начы свяціўся.*
*Шум, смех гасцей —*
*ніколі так не весяліўся!*
*Во чую холад сцен. Іду крадком памалу*
*І праз крышталь дзвярэй*
*раптоўна бачу залу.*
*Сталы накрыты ўсюды...*
*І гасцей багата...*
*Звон чарак, спевы, танцы —*
*у разгары свята!*
*Тут чую тост!.. Імя... Чыё?..*
*Не, не скажу я!*
*"Няхай жыве!" Чый голас?*
*Хто яе віншуе?*
*"Няхай жыве!" —*
*крычаць усе адначасова.*
*Што ж, хай жыве... і я дадаў:*
*"Бывай здарова!"*
*Тут раптам ксёндз —*
*о як мне ўспамінаць такое? —*
*Ускрыкнуў "Хай жыве" й назваў*
*імя другое...*

(Як бы ўглядваецца ў дзверы)

*Хтось дзякуй кажа з ласкай...*
*Так, яна, няйначай.*
*Яе там голас, мілы... Хваляю гарачай*
*Мне грудзі апякло... Плячамі, ашалелы,*
*Хацеў я шыбу высадзіць...*
*Ды ўпаў, самлелы.*

(Пасля паўзы)

*Не, не прытомнасць я тады...*
*а розум страціў!*

Ксёндз

*Няшчасны! Сам сабе пакут шукаў ты,*
*браце!*

Густаў

*Як труп, ляжаў я там,*
*ля шумнага вяселля,*
*Сярод палітага слязою горкай зелля.*
*Там быў канец усіх маіх пакут кахання!*
*Падняў мяне з травы прамень*
*крывавы ранні.*
*Стаяў я хвілю: ціха, спала ўсё прыселле.*
*Хоць хвіля — як пярун,*
*ды ў вечнасці — даўгая.*
*На Страшным*
*мо судзе йшчэ выпадзе такая.*

(Пасля паўзы)

*Анёлам смерці так я выгнаны быў з рая.*

Ксёндз

*Свой боль не верадзі*
*ты ў незагойнай ране!*
*Ёсць даўняя і слушная перасцярога:*
*Што скончылася, тое болей не настане.*
*Знай, любы сыне мой, —*
*такая воля Бога.*

Густаў

(З жалем)

*О не! У свет прыйшлі*
*адно для аднаго мы.*
*Заззяла й зорка нам адна*
*з нябеснай стромы.*
*Мы аднадумцы, хоць раслі не разам з ёю,*
*Адных гадоў, падобны нават між сабою.*
*Адны і тыя ж мроі з ёю мы снавалі,*
*Адны і тыя ж нас пачуцці саграваі.*
*Ва ўсім нас нешта неспасціжнае яднала.*

(З глыбокім жалем)

*Бог завязаў вузлы, а ты іх разарвала! (...)*

ПАРАЛЕЛІ

# Час мяняць лёс, а не палітыкаў

Віктар ГУШЧЫН

## ГОРКІЯ РАЗВАГІ АБ ГІСТОРЫІ ЎЛАДЫ РАСІЙСКАЙ НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ ЎЛАДЫ САВЕЦКАЙ

**У Расіі лёгка быць прарокам.** Досыць з усіх магчымых варыянтаў развіцця падзей выбраць найгоршы — і вы абавязкова ўгадаеце. Ва ўсялякім разе, я гэтай методыкай карыстаюся ўжо гадоў дзесяць запар і практычна ні разу не памыліўся.

Здольнасць прадбачыць непазбежныя наступствы прымаемых ці непрымаемых рашэнняў вызначае ўзровень прафесіяналізму людзей, якія прысвячаюць сябе палітыцы. Кіруючыся гэтым крытэрыем, можна сцвярджаць: палітычная эліта Расіі амаль цалкам складаецца з дылетантаў, якія могуць быць неблагімі юрыстамі, сацыёлагамі, эканамістамі, выдатнымі дзеячамі мастацтва, культуры і навукі, але з іх выйшлі зусім нікчэмныя палітыкі.

Практычна ніхто з іх не даказаў, што здольны дзейнічаць у рэчышчы аб'ектыўнай логікі жыцця. Многія падзеі, якія самі ж яны ініцыіравалі, аказваюцца для іх сюрпрызамі, а з аб'яўленых намераў практычна нічога не паяўляецца на свет у заяўленым выглядзе. Перабудова абарочваецца развалам, рэформы — рухам назад, прэзідэнцкія выбары — правінцыяльным вадэвілем, клятвенныя запэўніванні — пошлым падманам, законы, пастановы, указы — пустымі паперкамі.

І ўсё гэта цалкам у духу палітычнай традыцыі. Не можа быць надзейнай палітыкі, калі яна апыньваецца за межамі таго, што наканавана краіне і народу, які ў ёй жыве. Калі дзейнасць людзей, што наважыліся кіраваць краінай і народам, не ўпісваецца ў вобраз іх лёсу, які, як вядома, не падманеш, на крывой казе ці рыжым казле не аб'едзеш.

Калі мы сёння пагаджаемся з тым, што наша краіна больш чым на семдзесят гадоў была вырвана з працэсу натуральнага гістарычнага развіцця, а цяпер мы робім спробы вярнуцца ў яго лона, дык азначаць гэта можа толькі адно: сёння мы зноў пачалі глядзець на сваё мінулае і на будучае з пункту погляду выпаўшага на нашу долю лёсу. Долю горкую, але яна наша.

Калі б цяперашнія рэфарматары, пачынаючы з М. Гарбачова і канчаючы Я. Гайдарам і А. Чубайсам, не зрабілі нічога, акрамя гэтага, іх цалкам можна было б ужо пры жыцці залічыць у ранг святых. На жаль, ім самім гэтага аказалася мала. Яны зрабілі ўсё, каб павялічыць той цяжар, які і без таго ляжыць на плячах расійцаў непасільнай ношкаю.

**Я расійскую ўладу не люблю.** Асабліва пасля таго, як зразумеў, што яна генетычна заганная. Ад веку да веку. Ва ўсе часы. Што красамоўна пацвярджаюць прыклады з жыцця найбольш яркіх яе прадстаўнікоў, якія здолелі сапраўды аказаць "лёсаноснае" ўздзеянне на развіццё гістарычных для краіны падзей.

Вялікі дзяржаўнік Іван Жахлівы ўжо ў сталым веку, што ўвогуле здараецца надзвычай рэдка, памяняў сексуальную арыентацыю, стаў гомасексуалістам. Вялікі рэфарматар Пётр І хварэў на эпілепсію і прагрэсіруючую параною. Мікалай ІІ, апошні з дынастыі Раманавых, уяўляў сабою цэлы букет адзнак дэградацыі, быў схільны да побытавага п'янства, вельмі часта паводзіў сябе як чалавек слабавольны, унушальны, прыгнечаны абставінамі. Аб чым бедавала нават яго ўласная маці.

Так званых "добрых" цароў у Расіі альбо забівалі, альбо ўсяляк стараліся зганьбіць, узнагароджвалі крыўднымі мянушкамі, каб выставіць анекдатычнымі персанажамі, якіх усур'ёз успрымаць аніяк нельга. Асабліва ў гэтым сэнсе перапала імператрыцы Кацярыне ІІ.

І, нарэшце, самае галоўнае, калі мець на ўвазе асабістыя біяграфіі расійскіх самадзержцаў, — ніхто з іх не здолеў забяспечыць сваім пачынанням пераемнасці. Іван Жахлівы ўласнаручна забіў старэйшага сына. Пётр І таксама здзекаваўся з царэвіча Аляксея ў падземным каземаце і аддаў распараджэнне пакараць яго смерцю. Яшчэ адзін няшчасны царэвіч, Аляксей, сын імператара Мікалая ІІ, пакутаваў на белакроўе, быў слабы і нядошлы, як і ўвесь згасальны раманаўскі род, які ўбачыў сваё адзінае выратаванне ў апірышчы на магічную сілу "сібірскага старца" — Грышкі Распуціна.

Бальшавікі, якія перамаглі ў кастрычніку 1917 года, пакутавалі на тыя ж самыя хваробы, фізічныя і палітычныя, якія перайшлі ім па спадчыне ад Рурыкавічаў і Раманавых. У Леніна быў прагрэсіруючы склероз. Сталін меў відочныя прыкметы генетычнай мутацыі (на адной з ног у яго былі зрошчаныя пальцы). Троцкі быў эпілептыкам, Каменеў — алкаголікам, Свярдлоў і Дзяржынскі хварэлі на сухоты, Бухарын — на цяжкую форму неўрастэніі.

Ды і ў справе так званай пераемнасці ў бальшавікоў было не лепш. Ленін папярэджваў, што ўладу лепш перадаць каму заўгодна, толькі не Сталіну. Апошні ў сваю чаргу шанаваў Ільіча толькі на словах, толькі ў той ступені, у якой гэта яму было выгадна. На самай жа справе Сталін адносіўся да "правадыра сусветнага пралетарыяту" грэбліва, нават з пагардаю. А далей усё пайшло-паехала па ходжанай сцяжыне. Хрушчоў скінуў з палітычнага п'едэстала Сталіна, Брэжнеў — Хрушчова, Гарбачоў — Брэжнева, Ельцын — Гарбачова...

Карацей кажучы, бальшавікі не толькі не пераадолелі благой спадчыннасці расійскай улады, але, наадварот, павялічылі яе карэнныя заганы, бо зрабілі ўсё магчымае, каб вытруціць з душ і свядомасці людзей тыя якасці, якія хоць у нейкай меры ўраўнаважвалі генетычную непаўнацэннасць расійскай улады. А менавіта — асабістую прыстойнасць, чалавечую годнасць, усведамленне гонару, вернасці слову і абавязку. У выніку і камуністычная ўлада пала. Лічы, вокамгненна. Бо і яна за семдзесят гадоў паспела прагніць наскрозь...

Але тады ўзнікае пытанне: за кошт чаго мы ўсё ж, няхай і сяк-так, але рухаемся наперад? Адкуль у такім выпадку ў расійскай несамавітай глебе з'яўляюцца самародкі, якім часам цаны няма? Як, з якой такой ласкі нараджаюцца ў нас геніі і таленты, якімі спаконвеку славіцца Расія?

Народы крочаць наперад альбо падымаюцца, па ўзыходнай лініі толькі двума спосабамі — ці супрацоўнічаючы і ўзаемадзейнічаючы з добрай уладай, ці змагаючыся супраць благой.

У нармальным працэсе гістарычнага развіцця перыяды супрацоўніцтва і барацьбы могуць змяняць адзін аднаго. Але толькі Расія амаль перманентна знаходзіцца ў стане няспыннай барацьбы з благой уладай. Усё лепшае, што ў ёй ёсць, з гэтай уладай канфліктуе. Супрацоўніцтва з ёй прыстойныя людзі лічаць для сябе зневажальным, ганебным, несумленным. Звярніце ўвагу: усё самае таленавітае, самае значнае ў Расіі з пункту погляду ўзвышаных парываў душы, усё самае геніяльнае абавязкова прасякнута духам бунтоўнасці, непрыняцця ўлады, змагання з ёю. У Расіі заўсёды лічылася, што ў прыстойнага, тым больш таленавітага чалавека нічога агульнага з уладаю быць не можа. І гэта натуральна, бо ўсе, хто мае здаровую, несапсаваную, нескалечаную псіхіку і нармальную жыццёвую энергію, калі не ўсведамляюць розумам, дык адчуваюць нутром, што ў Расіі паганая ўлада.

**Пяць невыкараняльных заган расійскай улады.** На самай справе іх куды больш. Але я запынюся толькі на галоўных. Пачнём з таго, што ўлада не сама па сабе паяўляецца на свет, не з паветра ўзнікае. Карані яе ідуць у нацыянальную глебу, у тоўшчу народных пластоў. Думка, што кожны народ мае тую ўладу, якой варты, — аксіёма. Ва ўсіх нармальных краінах справядлівасць гэтай думкі выяўляе сябе аднолькава, ва ўсіх няшчасных — кожны раз на свой асаблівы манер.

Як зазвычай, добрую ўладу маюць тыя народы, дзе на тронах, у прэзідэнцкіх, міністэрскіх і дэпутацкіх крэслах апыньваюцца людзі, якія будуюць сваю палітыку на ўвасабленні вартасцей і змякчэнні недахопаў сваіх падданых, выбаршчыкаў, падначаленых. Гэта асноўная адрозная якасць добрай улады, яе ўнутраны стрыжань, калі хочаце, фірменны знак. Дрэнная ўлада, наадварот, заўсёды падтрымлівае заганы, спекулюе на слабасцях, патурае нізкім схільнасцям. Характэрны прыклад: у рускіх народных казках цары, царэвічы, царэўны, іх прыдворныя, розныя там спальнікі, цалавальнікі, ваяводы надзелены, як правіла, рысамі малапрывабнымі, якія выклікаюць антыпатыю. Але, пагадзіцеся, усе гэтыя персанажы цалкам народныя. У псіхалагічным сэнсе рускі нацыянальны фальклор вельмі дакладны. Калі гаворка ідзе аб уладзе, яе прадстаўнікоў "узнагароджваюць" якасцямі, ад якіх самім "простым людзям" хацелася б пазбавіцца. Параўнайце нашы казкі з нямецкімі, французскімі, скандынаўскімі — і вы тут жа адчуеце розніцу. Там да ўлады, да яе венценосных прадстаўнікоў ставяцца з куды большай павагай, калі хочаце, з пашанаю. Не тое што ў нас...

Само сабою, што заведама дрэнных ці добрых народаў не бывае, людзі самі па сабе не анёлы, але і не параджэнне пекла. Дык чаму ж у адных краінах наверсе аказваюцца вартыя і прыстойныя людзі, а ў іншых — прахіндзеі і нягоднікі?

Жыццё народаў і дзяржаў праходзіць не толькі ў сістэме гістарычных, геапалітычных, сацыяльна-эканамічных, але і маральна-псіхалагічных, духоўна-пачуццёвых каардынат. Апошнімі двума параметрамі, на жаль, асабліва часта пагарджалі і пагарджаюць у нашай краіне. Хаця менавіта яны, на маё глыбокае перакананне, акрэсліваюць той лёсаносны арэал, дзе адбываюцца важнейшыя для краіны і народа падзеі. Калі душы людзей на ўздыме, узлятае і краіна. Прынізьце людзей, падрэжце ім крылы, прымусьце іх мордай тыцнуцца ва ўласнае дзярмо — яны вам такое з краінай учыняць, што доўга яе пасля адмываць, па кавалачках збіраць давядзецца...

Духоўны, маральны дыяпазон гістарычнага працэсу абмежаваны двума паняццямі: узвышанай мараю пра Зямлю Запаветную і змрочным чаканнем Канца Свету, Страшнага Суда. Усё, што толькі можна сабе ўявіць, любыя пошукі, любыя памкненні, любыя перажыванні і жахі ўкладваюцца ў гэтае ложа.

Аднак не гэта галоўнае. Рэч у тым, што гісторыя кожнай краіны, маральнае аблічча любога народа дазваляюць вызначыць, куды скіраваны сілы іх духоўнага прыцягнення і напружання. Да пошуку Царства Божага на зямлі ці ў бок Канца Свету, Апакаліпсісу. Уяўленні пра адно і другое зусім не абстрактныя і бесцялесныя. Яны набываюць рэальнасць ва ўчынках і паводзінах людзей, у іх лёсах. А ў канчатковым выніку — у лёсах краін і народаў.

Наш суайчыннік Мікалай Бярдзяеў называў рускіх "апакаліптычным народам". Не знаходзячы праўды ў Хрысце, яны шукаюць яе ў Антыхрысце, пісаў ён. На мове побытавай, звычайнай, а не містычнай, біблейскай гэта азначае, што мы схільны кідацца з крайнасці ў крайнасць, з аднаго боку ў другі. Хіба кожны з нас не ведае за сабою гэткага грэху? Хіба мы не бачым, што ўсё наша жыццё, уся наша гістарычная біяграфія пазначаная гэткімі шараханнямі? Хіба тое, што адбываецца сёння на нашых вачах, не пацвярджае гэта?!

Але калі б мы толькі шарахаліся з крайнасці ў крайнасць, ад добрага да благога, было б яшчэ паўбяды. Уся бяда заключаецца ў тым, што мы чым далей, тым болей пачынаем шарахацца ад благога да горшага, ад правіннасці да злачынства, ад крадзяжу да рабаўніцтва. Як калі б самі падганялі надыход Канца Свету.

Дык вось, расійская ўлада — гэта апакаліптычная ўлада апакаліптычнага народа, які сам над сабой узносіць нявартых павагі, каб пасля класці ўсе сілы, а то і жыццё на барацьбу з імі. Па-іншаму развівацца, нейкім іншым спосабам рухацца, акрамя як патыліцай наперад, мы не ўмеем. Барацьба з дрэннай уладай — лёс Расіі. Яна спараджае вялікіх герояў, але не мяняе наша жыццё ў лепшы бок. Гэта **першае**...

Цяпер загана **другая**. Расія — краіна самаўзнаўляльнай гісторыі. У ёй не толькі рукапісы не гараць, але і замест будучыні надыходзіць мінулае. Некалькі дзесяцігоддзяў запар ці то ў насмешку з саміх сябе, ці то ў павучанне самім сабе мы параўноўвалі "поспехі" савецкай улады з паказчыкамі 1913 года, пакуль нарэшце на парозе новага тысячагоддзя не выявілі, што Расія 1913 года якраз і ёсць наша "блакітная мара". Здавалася б, парадокс? Ды не, заканамернасць...

Наогул трэба сказаць: каб пераканацца, што ўсё, чаму наканавана з намі адбыцца, заўсёды вядома загадзя, дастаткова перагарнуць старонкі рускай літаратуры. Самай прарочай літаратуры ў свеце. З яе можна ўведаць куды больш, чым з публікацый рознага роду гарачых "кампраматаў", якія выкрываюць заганы расійскай улады.

Пра сапраўды вострыя і хваравітыя праблемы нашага сённяшняга жыцця ўсё і праўда даўно ўжо сказана Гогалем, Салтыковым-Шчадрыным, Фанвізіным, Грыбаедавым, Талстым, Дастаеўскім.

Калі сцвярджэнне, што развіццё ідзе па спіралі, правільнае, дык мы па гэтай спіралі зусім не падымаемся, а імкліва коцімся ўніз, з гары. Вечная загана, на якую пакутуе расійская ўлада. Адзін з яе прадстаўнікоў, пахаваны ў Маўзалеі на Краснай плошчы, вызначыў бы яе гэтак: "Крок наперад, два крокі назад". На жаль, занадта вялікая верагоднасць таго, што і сённяшняя ўлада, не паспеўшы аднавіць разбуранае, захопленая рэстаўрацыяй мінулага, сама будзе аднесена да разраду благой. І ўсё пачынаецца спачатку. Крок наперад, два крокі назад...

Загана **трэцяя**. У Расіі аўтарытэт улады — ці пры самадзяржаўі, пры камуністах ці пры цяперашніх дэмакратах — заўсёды быў і па сёння застаецца вышэй аўтарытэту закону. Таму ў нас заўсёды была бюракратычная, хлуслівая, карумпаваная дзяржаўная машына. Сёння гэтая прыродная хвароба набыла ліхаманкавы характар.

Па сутнасці, у нашай краіне існуюць сёння не адна, а дзве дзяржавы. Адна — дэкаратыўная, накшталт пацёмкінскай сталіцы, якая нядаўна пампезна адзначыла сваё 850-годдзе, другая — ценявая. Цяпер услед за героем гогалеўскіх "Запісак вар'ята" мы можам смела заявіць: унутры Расійскай дзяржавы ёсць яшчэ адна — куды большых памераў. Невыпадкова ж дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што яе "цень" пакрывае амаль 60 працэнтаў расійскай эканомікі. Скажыце, ці можа быць добрай улада, якая паднялася на лжывых, зладзейскіх дражджах?..

**Чацвёртая**. Расійская ўлада — на што, дарэчы, звяртаў увагу яшчэ В. Ключэўскі — ніколі не лічыла сябе адказнай перад народам. Чаму — мы ведаем. Але вось што характэрна: улада і народ пастаянна помсцяць адно аднаму за няспраўджаныя, падманутыя надзеі. Улада народу — за тое, што ён кожны раз аказваецца не такім дурным, як хацелася б. Народ уладзе — за тое, што яна так і не паспела стаць лепшай, чым папярэдняя. Хаця абяцала. Нават клялася. Таму адносіны паміж уладай і народам з зайздроснай рэгулярнасцю кідае то ў гарачку, то ў холад, ад палкай любові да лютай нянавісці. Народ чакае ад улады багацця, улада ад народа — удзячнасці. Але з гэтага ўтрыманцка-патэрналісцкага мезальянсу паміж уладай і народам штораз атрымліваецца канфуз.

І, нарэшце, загана **пятая**. Таксама унікальная. Яна заключаецца ў тым, што расійская ўлада валодае неперараўзыдзеным умельствам падточваць сук, на якім сядзіць. Часам складваецца ўражанне, якое пераходзіць у перакананне, што ў яе проста адсутнічае інстынкт самазахавання. Ані ў якай іншай краіне свету не ствараюць з такім стараннем унутраных ворагаў, не нацкоўваюць адну частку насельніцтва на другую, як у нас. Ва ўнутраных грамадзянскіх войнах, у ходзе паўстанняў, рэвалюцый і палітычных рэпрэсій у Расіі загінула больш людзей, чым у войнах з іншымі дзяржавамі. І ўсё гэта таксама смела можа быць аднесена да "заслуг" нашай улады...

**Шчаслівая будучыня ў Расіі магчыма, калі...** Пра гэта вельмі сціісла. Па прычыне выключна гіпатэтычнага характару выказваемага тэзіса. І не таму, што гэткі варыянт выключаны. Проста для яго рэалізацыі спатрэбяцца дзесяцігоддзі, а можа нададарыцца — стагоддзі. Усё залежыць ад таго, як пойдуць справы. І ці пойдуць увогуле. Бо для таго, каб вывесці расійскую ўладу з таго злашчаснага заганнага круга, у які яна трапіла, трэба не палітыку і палітыкаў мяняць, а лёс ламаць. Пакуль мы будзем змагацца толькі супраць дрэннай улады, ніякіх радыкальных перамен не адбудзецца. Тут сябе перамагчы трэба.

Для гэтага перш за ўсё трэба зразумець, што генетычныя заганы расійскай улады паразітуюць на нашых уласных заганах. На нашай веры "ў добрага, ласкавага і мудрага цара", у тое, што не мы самі, а ўлада можа і павінна за нас усё вырашаць. Нас неаднойчы ўжо спрабавалі ашчаслівіць гвалтоўна — то Іван Жахлівы, то Пётр І, то камуністы. Цяпер дэмакраты сілком цягнуць Расію ў цывілізаваны рынкавы свет. Вось толькі скончыцца гэтае "ашчасліўліванне", выдае на тое, можа журботна.

*(Працяг на стар. 15)*

## Перамогі школы Волкава



**На двух прэстыжных Міжнародных конкурсах паспяхова выступілі беларускія маладыя трубачы — вучні прафесара Мікалая Волкава.**

**Пераможцам другога Міжнароднага Маскоўскага фестывалю трубы, прысвечанага 850-годдзю Масквы, стаў студэнт трэцяга курса Беларускай акадэміі музыкі Андрэй Кавалінскі.**

**Вось што пра яго кажа педагог:**

**— Бацькі Андрэя Кавалінскага — не музыканты. Хлопец не адразу пачаў вучыцца граць на трубе: да дзесяці гадоў спяваў у школьным хоры, потым яго спрабавалі ўладкаваць вучыцца ігры на валторне. Але, відаць, лёсам сталася труба. Маці прывяла яго да мяне ў клас ліцэя пры Акадэміі музыкі і толькі пасля ўгаворванняў я, нарэшце, згадзіўся прыняць Андрэя, бо мой клас тады быў перапоўнены. З дзесяці гадоў ён мой вучань. Імя Андрэя Кавалінскага занесена ў залатую кнігу "Новыя імёны планеты". Настойлівасць, мэтанакіраванасць, працавітасць дапамаглі яму дамагчыся шмат чаго. Андрэй Кавалінскі — гэта з'ява. У апошні час ён нярэдка выступае ў філарманічных канцэртах.**

**Маладыя таленавітыя трубачы, вучні 12-га класа гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Яўген Лятэ, Сяргей Петрашкевіч і вучань 11-га класа Дзмітрый Макарэвіч на нядаўнім конкурсе выканаўцаў на медных духавых і ўдарных інструментах у Краснадары занялі адпаведна першае, другое, трэцяе месцы. Аўтарытэтнае журы пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі, прафесара Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя М. Рымскага-Корсакава Ю. Бальшыянава было аднадушнае, вылучыўшы сярод дванаццаці канкурсантаў з Расіі, Украіны, Беларусі, Германіі прадстаўнікоў нашай краіны.**

**М. Волкаў, вельмі задаволены выступленнем сваіх вучняў, лічыць, што Яўген Лятэ, які лідзіраваў з першага ж тура, іграў бліскуча: "Гэты хлопчык таленавіты і як інструментальшчык, і як музыкант".**

**Мама Яўгена Вольга Аляксандраўна, канцэртмайстар Акадэміі музыкі, успамінае, як сын у раннім дзяцінстве знайшоў старую ржавую трубу і ўжо ў шасцігадовым узросце марыў навучыцца граць, хаця будучыя трубачы пачынаюць асвойваць свой інструмент значна пазней. Хлопчык пачаў вучыцца ў музычнай школе, і хаця яго спрабавалі адгаварыць ад заняткаў на трубе, раілі вучыцца граць на кларнеце, ён не здрадзіў дзіцячаму захапленню.**

**Асаблівую ўпэўненасць адчуў ён, калі ўдзельнічаў летась у адкрытым уроку майстаркласа вядомага музыканта Уладзіміра Співакова, які тады сказаў Яўгену: "Труба — гэта твой інструмент".**

**Дыпламантам Краснадарскага конкурсу стала канцэртмайстар беларускіх трубачоў Алена Ракуць. Яна адзначыла, што ўменне спяваць на трубе вылучала беларускіх канкурсантаў. А яшчэ нашы хлопцы "хварэлі" адно за аднаго, былі не сапернікамі, а сябрамі. Педагог здолеў іх згуртаваць.**

**Вера КРОЗ**

*На здымку: лаўрэат I прэміі Яўген Лятэ.*

# "Чалавек з кітайскім тварам..."

ШТРЫШОК У ІКАНАГРАФІЮ XIX СТАГОДДЗЯ

Працуючы над бібліяграфічнымі матэрыяламі пра Рамуальда Падбярэскага (1812—1856), да нядаўняга часу нязраз шкадаваў, што гісторыя не захавала аніводнага партрэта гэтага выдатнага дзеяча беларускага літаратурнага руху сярэдзіны XIX стагоддзя. У маім распараджэнні было адно толькі апісанне ягонага аблічча. Славуты Уладзіслаў Сыракомля ў лісце да свайго сябра Адама Плуга пакінуў свае ўражанні ад першай сустрэчы ў Вільні ў студзені 1849 года: "Яшчэ ў сенцах пачуў смех у шаноўнага Рамуальда. Экс-пецярбуржац жыве элегантна, па-сталічнаму. Лёкай хацеў паведаміць гаспадару маё імя, я не пярэчыў гэтаму, толькі не назваў сябе. А Падбярэскага я яшчэ дасюль у вочы не бачыў. Выбег шчуплы, нізкі мужчына з доўгімі валасамі ды барадой, з высокім ілбом, у акулярах; словам, літаратар ва уніформе".

Прыгадваючы тыя суровыя характарыстыкі, што давалі Р. Падбярэскаму яго сучаснікі, нязраз здзіўляўся: як гэта сталася, што выдавец, які напаўняў свае альманахі малюнкамі ды партрэтамі, не парупіўся данесці нашчадкам свой воблік. Тым больш, што ён цікавіўся фатаграфіяй, сябраваў з мастакамі ды літографамі. Зрэшты, нейкія цьмяныя згадкі пра жаданне Р. Падбярэскага ўвекавечыць сябе маюцца ў лісце малавядомага сёння літаратара ды гісторыка Станіслава Аўгуста Ляховіча ад 25 снежня 1842 года да Юзафа Ігната Крашэўскага. Пакрыўджаны на ўвесь белы свет (Ян Баршчэўскі, апрача выдавецкіх, стаў яшчэ выконваць і рэдактарскія функцыі ў альманаху "Niezabudka", на што прэтэндаваў С. Ляховіч), ён зайздросціць здольнасцям ды славе Р. Падбярэскага, які літаральна за паўтара года жыцця ў Пецярбурзе знайшоў мажлівасць уплываць на літаратурную працу сваіх землякоў, ды імкнецца нашкодзіць яму: "Перапрашаю, ледзь не выпусціў з віду вялікага, найвялікшага сёння ў Еўропе чалавека. Глядзі, Пан, ён вунь там, вунь, у куце. Чалавек з кітайскім тварам, з высокім чубам, з касымі паднятымі ўгору вачыма, у паліто з кішэнямі наперадзе. Магу пайсці ў заклад калі скажу Пану: у адной кішэні знойдзеш нумар "Tygodnika" з артыкулам гэтага пана, у другой — лісты да аўтара "Witoldaraudy" (Ю. Крашэўскага. — **М. Х.**) і "Літаратуры і крытыкі" (М. Грабоўскага. — **М. Х.**). а ў трэцяй, што збоку, — падпісныя білеты (г. зн., абвесткі пра выданне пэўнага часопіса ці кнігі. — **М. Х.**) ды візітныя карткі з княскім гербам. На што заклад? Ведаеш, Пан, хто гэта такі? О! Гэта вялікі літаратар! Гэты пан пра ўсё пісаў з аднолькавым поспехам: пра Навагародскі кірмаш, пра канцэрт Ліпінскага, пра конскія падковы і пра кампазітараў, фартэпіяна; пра новыя способы палення ў печы і пра паню П... (неразборліва. — **М.Х.**); пісаў пра імправізацыі Джавані Джусціяні ды перакладаў нібыта з італьянскае, не ведаючы ані паўслова. Паставіў нейкага мэтра М... (неразборліва. — **М. Х.**) вышэй за Ліста, а ў Шапэна вынайшаў роспачлівасць!!! Ён павесіў свой партрэт на мастацкай выставе дзеля таго толькі, каб пазней напісаць у "Tygodniku": "Мастак К. Жукоўскі паказаў кн. Друцкага з стомленым тварам і нават змардаванага працаю ды пакутамі".

С. Ляховіч даволі хутка дасягнуў мэты: дасюль прыязныя адносіны Ю. Крашэўскага да Р. Падбярэскага змяняюцца на варожыя. Наш выдавец, не разумеючы адкуль зваліліся на ягоную галаву розныя

# Калі памірае дрэнная літаратура, то гэта добра...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Што датычыць літаратуры нашай, то тыя ж амерыканскія пісьменнікі ў большасці сваёй чулі і пра Янку Купалу, і пра Якуба Коласа — але толькі чулі. А вось каго чыталі, хоць трошкі, але чыталі, дык гэта — Быкава.

Мастацтва нашага не ведаюць абсалютна. Мы цяпер захлынаемся адкідамі амерыканскай кінавытворчасці. А чаму? Дык па элементарных эканамічных законах: там сапраўднае мастацтва каштуе вельмі дорага. Там, напрыклад, білет у партэры на сімфанічны аркестр (калі прыязджаў, скажам, Растраповіч) каштаваў 500-600 даляраў. Гэта грошы. У кабарэ на Брадвеі сярэдні білет — 70-80 даляраў. Словам, мы не можам купіць у іх сапраўдныя шэдэўры і купляем або тую лухту, над якой яны самі рагочуць, або старызну.

Нашай жа культуры, паўтаруся, толкам ніхто не ведае. Нам трэба весці вялізную сур'ёзную работу па яе прапагандзе. І я, калі вярнуўся адтуль, калі мяне яшчэ прымалі нашы вялікія начальнікі, гаварыў ім адно: трактарамі мы свет не здзівім, а вось культура наша — яна абсалютна канкурэнтаздольная, толькі яе мала ведаюць. Вы ж паглядзіце, як пайшоў наш балет па свеце! Ён сапраўды лічыцца адным з лепшых у Еўропе. Або мастакі нашы! Яны ж фурор выклікалі і ў Еўропе, і ў Амерыцы. Я маю на ўвазе выстаўкі і таго ж Гаўрылы Вашчанкі, і таго ж Леаніда Шчамялёва, і таго ж Міколы Селешчука, і таго ж Уладзіміра Тоўсціка. На Захадзе не маглі паверыць, што ў Беларусі ёсць такое мастацтва!.. Карацей, трэба паказваць нашу культуру свету. Трактарамі, лесам, калійнымі ўгнаеннямі свет заваяваць, як гэта імкнецца наша чынавенства, мы не зможам. Бо і ў той жа Польшчы, напрыклад, трактары не горшыя робяць, а вось напісаць так, як Васіль Быкаў, — ніхто так не напіша!

І, канешне, перш за ўсё такое разуменне павінна быць у людзей наверсе. Ці ж выпадкова, што ў Францыі, напрыклад, адзін прэзідэнт склаў анталогію сусветнай паэзіі, а другі мае унікальную калекцыю карцін? Вы думаеце, гэта не адбіваецца на кіраванні дзяржавай? Адно з другім яшчэ як звязана!..

У ЗША я сустракаўся са славутым эканамістам Лявонцьевым, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, выхадцам з Расіі. Лявонцьеў гатовы быў распрацаваць мадэль развіцця для нашай краіны, так, як у свой час ён зрабіў гэта для Ганконга, Сінгапура, Паўднёвай Карэі. І вось ён казаў, што прыкладна такую эканоміку, як у нас, пры разумнай канцэпцыі можна вывесці на належны ўзровень за сем—дванаццаць гадоў... А вось калі мы знішчым духоўнае ў людзях, то спатрэбіцца як мінімум два-тры пакаленні, каб аднавіць нешта высокае, святое і чыстае. Вось пра што трэба думаць! Ды хто ў нас пра гэта думае?.. Хіба толькі на вас, маладых, і застаецца спадзявацца.

**— Генадзь Мікалаевіч, у ЗША вам, пэўна, давялося быць непасрэдным сведкам жыцця-быцця беларускай дыяспары... Вашы назіранні, уражанні, ацэнкі?**

— Я блізка пазнаёміўся з беларускай дыяспарай. І вельмі цесна супрацоўнічаў з ёй. Гэта было маё шчасце. І маё, і дыяспары. Гэта быў час, калі такія газеты, як "Мы и время" пісалі, што я цалуюся з фашыстамі. Тады мы толькі-толькі пачыналі разбірацца, што такое дыяспара і што, так бы мовіць, з ёй можна рабіць. На наша няшчасце, мала таго, што беларуская дыяспара зусім нешматлікая і бедная (у параўнанні з іншымі) — надта ж нязначны ейны культурны слой...

Першая хваля эміграцыі была чыста эканамічнай. Дзядзькі, пераважна з Гродзеншчыны, Брэстчыны, ехалі за акіян зарабіць. У іх, скажам так, свядомага беларускага ў душы мала. Яны былі не надта адукаваныя і таму не разумелі, што трэба берагчы сваё, адметнае, беларускае. І яны ў большасці сваёй перакінуліся: хто — да рускай, а хто — да польскай эміграцыі. З іх, зрэшты, амаль нікога не засталося.

Другая хваля эміграцыі — самая вялікая — гэта тыя, якія апынуліся там адразу пасля вайны. Вось з гэтай эміграцыяй трэба ўсур'ёз разбірацца і не рабіць таго, што афіцыйна робіць уся антыбеларуская зграя. Там розныя ёсць: і тыя, якія сапраўды супрацоўнічалі з фашыстамі ў іх акцыях, і тыя, што супрацоўнічалі з акупантамі для таго, каб мець кавалак хлеба, напрыклад, выкладалі ў школах, працавалі пісарчукамі, бібліятэкарамі, фельчарамі і г.д., і тыя,нарэшце, каго вывезлі туды бацькі. Дык вось з эміграцыяй, паўтаруся, нам трэба было сур'ёзна разбірацца, і яны самі гэта адчувалі. Калі я туды прыехаў, а эмігранты-інтэлігенты мяне ўжо ведалі як паэта, яны мне адразу сказалі: "Генадзь, не бойся, ніякага паліцая мы да цябе не дапусцім. З табой будуць нармальныя людзі, беларусы, у каго проста гэтак вось склалася жыццё. І потым, улічы: ты — прадстаўнік Савецкай Беларусі, і паліцаі самі будуць цябе абыходзіць, таму што для іх кляймо — нешта мець з прадстаўніком БССР..."

З прыкметных фігур, якія супрацоўнічалі з фашыстамі, там быў (яшчэ падчас майго знаходжання ў Амерыцы ён памёр) — Сяргей Гутырчык. Ёсць абсалютна дакладныя дакументы, што ён служыў у Калдычаўскім лагеры. Але ён сцвярджаў, што ні ў якіх карных акцыях удзелу не прымаў. Над Гутырчыкам былі два суды. І да мяне як да афіцыйнай асобы звярталіся амерыканцы: маўляў, мы гатовы выдаць вам Гутырчыка — вы толькі афіцыйна дайце пацвярджэнне ягонага ўдзелу ў карных акцыях. Але ці то па раўнадушшы чыноўніцкім, ці то проста таму, што такіх дакументаў няма, іх з Мінска не прыслалі... Калі рукі ў крыві — адна мера адказнасці, калі не — іншая... Вы вось Масея Сяднёва вазьміце. Яшчэ студэнтам узялі яго за тое, што пісаў вершы ў гонар Беларусі. Пасадзілі, адвезлі ў Сібір. Адтуль пісаў просьбу перагледзець справу. Прывезлі ў Мінск перад самай вайной, і ён чакаў перагляду справы. А прыйшла вайна. Іх, усіх, калонай пагналі да Чэрвеня — і крымінальнікаў, і палітычных. І адзін з крымінальнікаў пашкадаваў Масея, узяў яго да сваіх, бо палітычных усё адно расстралялі б у бліжэйшым ляску... Пасля ён уцёк з калоны, вярнуўся дамоў; немцы, як толькі прыйшлі, хацелі яго ўзяць да сябе, але Масей не пайшоў ні ў якія паліцаі — уладкаваўся ва ўправу працаваць пісарчуком. І пісаў вершы. У Мінску сталі выходзіць беларускія газеты, ён друкаваў там свае вершы, а пасля стаў у рэдакцыі працаваць. І тут прыйшлі нашы... Што яму заставалася рабіць? — быў пасаджаны, уцёк з-пад варты, супрацоўнічаў з немцамі — расстрэл, як кажуць, "без суда и следствия". І ён садзіцца ў цягнік і ад'язджае... Ну, за што, скажыце, яго жорстка караць?! Радзіме, якая абсалютна ні за што яго пасадзіла, ён дараваў. А Радзіма? Чаго ж такая жорсткая наша Радзіма? Чаму яна не можа дараваць? Чаму яна хоча абавязкова прынізіць сваіх далёкіх сыноў і дачок?.. І гэта тады, калі рускія, скажам, вярнулі і Буніна, і Купрына, я ўжо не кажу пра іншых пісьменнікаў! Прытым, і ў Масея, і ў той жа Арсенневай — няма ніводнага рэзка антысавецкага верша...

Нарэшце, апошняя хваля эміграцыі — гэта ў асноўным тыя, хто едзе зарабіць грошы. Зміцер Еўтуховіч, Лёня Пранчак, Валя Пархоменка, Сяргей Сокалаў-Воюш... Вось Валя Пархоменка... Ейны ж голас нідзе больш так непатрэбны, як у Беларусі. Што такое яна ў Амерыцы?.. Выступае дватры разы на год, голас губляе, рэпертуар бяднее. Не ведаю, як каму, а для мяне гэта трагічна...

У якасці палітычнай, ідэалагічнай і культурнай сілы эміграцыя практычна вымірае. Тыя, якія прыехалі хлапчукамі пасля вайны, — цяпер ужо сталыя людзі. І яны адыходзяць. А новых актыўных не відно.

**— Генадзь Мікалаевіч, не сакрэт, што сёй-той з нашых крытыкаў усур'ёз схільны лічыць літаратуру беларусаў-эмігрантаў нават ці не вышэйшай за тую, якая стваралася на самой Бацькаўшчыне. Што вы пра гэта думаеце?**



непрыемнасці, чаму адна за адною ідуць няўдачы, перш-наперш будзе змушаны пакінуць Пецярбург. Але і ў Вільні Р. Падбярэскі не змог доўга працаваць: Ю. Крашэўскі праз свае сувязі імкнуўся шкодзіць свайму былому аднакурсніку па Віленскім універсітэце. Урэшце, збегам выпадковых акалічнасцяў, дзейнасцю Р. Падбярэскага зацікавіліся ўлады, што сталася для яго трагедыяй. "Выпадак са мною няхай будзе навукаю, што самае дакладнае выкананне загадаў цэнзуры яшчэ не абараняе выдаўца. VII сшытак майго "Pamiętnika", выданы ў Варшаве пасля дазволу цэнзуры і віленскае і варшаўскае, быў канфіскаваны, а з ім і ўсё маё на гэтай зямлі. Бо як узялі мяне на вуліцы ў Варшаве ў цытадэль, дзе чатыры месяцы выседзеў у фраку ды капелюшы, так і выкінулі мяне на вуліцу ў Архангельскую, у краі бураў, марозаў, сярод самаедаў, без аніякіх сродкаў да жыцця, бо мая аснова — адно праца літарацкая". Так пісаў Р. Падбярэскі да невядомага адрасата з месца свае ссылкі, адкуль яму ўжо не наканавана было вярнуцца.

Але Яе Вялікасць Гісторыя ўсё ж злітавалася над Р. Падбярэскім: зробленае ім дзеля беларускае літаратуры й культуры шматкроць перавышае тое негатыўнае пра яго, што данеслі нам успаміны сучаснікаў. Доўгі час у падручніках ды энцыклапедыях мы абыходзіліся без выявы аблічча аўтара першага нарыса гісторыі беларускае літаратуры. І вось зусім нядаўна ў Варшаўскай Нацыянальнай бібліятэцы адшукалася літаграфія, зробленая па малюнку Караля Жукоўскага. Зусім верагодна, што гэта той самы партрэт, пра які так калюча пісаў Ю. Крашэўскаму С. Ляховіч.

**Мікола ХАУСТОВІЧ**

ЮБІЛЕІ

# Шануйма настаўнікаў сваіх!

Вучняў Уладзіміра Уладзіміравіча Федарчука непрадказальны музыканцкі лёс раскідаў па свеце: яны і ў Германіі, і ў ЗША... І на Беларусі, зразумела. Бо тут пачынаўся іх прафесійны шлях — у сценах Акадэміі музыкі, у класе кантрабаса, пад кіраўніцтвам дасведчанага артыста-практыка і ўмелага педагога.

Яны працуюць у Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета, у Дзяржаўным камерным аркестры Беларусі. А Уладзімір Байдаў, які з лёгкай рукі Уладзіміра Уладзіміравіча спазнаў радасны азарт конкурснай барацьбы і вылучыўся на колішнім Усесаюзным конкурсе ў Кішынёве, — стварыў свой музычны калектыў, знаны далёка за межамі Беларусі: Ансабль салістаў "Класік-Авангард".

Вучні, калегі... Нямала тых, хто памятае Уладзіміра Федарчука студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, артыстам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, затым ягоным дырэктарам, пазней — дырэктарам камернага аркестра і, нарэшце, — педагогам, які выкладаў у Мінскім музычным вучылішчы, у ліцэі пры Акадэміі музыкі, шчыраваў на кафедры альта, віяланчэлі ды кантрабаса акадэміі...

На жаль, 60-годдзе Уладзіміра Уладзіміравіча музычная грамадскасць адзначыць ужо без самога юбіляра. Але свята мае быць сапраўднай падзеяй мастацкага жыцця Мінска. Ініцыятар вечарыны, абвешчанай на 23 снежня, — загадчык кафедры альта, віяланчэлі ды кантрабаса, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, канцэртмайстар Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Мікалай Крывашэеў не шкадуе дзеля арганізацыі гэтай імпрэзы ні часу, ні душэўнага цяпла: калі ён не будзе памятаць пра свайго калегу, дык хто ж ушануе-ўспомніць?

Так, Мікалай Аляксеевіч працаваў поруч з дацэнтам Федарчуком як малодшы калега, вучнем ягоным не быў. Мо таму можа зусім аб'ектыўна разважаць пра педагагічныя заслугі гэтага сціплага працаўніка, старанняга і ўдумлівага метадыста, якога слушна лічаць у нас стваральнікам адметнай школы ігры на кантрабасе. Дарэчы, уласныя педагагічныя дасягненні М. Крывашэеў, чые пяцёра вучняў сёлета з трыумфам выступілі на міжнародным конкурсе ў Малдове ("узялі" тры першыя месцы), лічыць працягам развіцця традыцый беларускай школы кантрабаса — "школы Федарчука".

Сачыце за канцэртнымі афішамі. Адна з іх запросіць вас у Беларускую акадэмію музыкі на вечар, прысвечаны памяці Уладзіміра Федарчука. Праграма рыхтуецца разнастайная: альтысты выканаўцы на кантрабасе, віяланчэлісты, сталыя і тыя, хто штукуе свой талент у класах гімназіі-каледжа (да нядаўняга часу ліцэя) пры БАМ будуць іграць сола, у ансамблях. Сюрпрызам стане музычная прэм'ера ў выкананні квартэта кантрабасаў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

— Давайце ўсё ж будзем прафесіяналамі і прама скажам, што ніхто з літаратараў на эміграцыі не ўзняўся да ўзроўню Быкава, Мележа, Брыля, Панчанкі, Куляшова, Барадуліна... Нават не наблізіўся. Але тое, што яны людзі таленавітыя, і тое, што яны павінны быць у гісторыі нашай і ў літаратуры нашай, гэта бясспрэчна. Не трэба раскідацца. Яны людзі Беларусі, аддалі сябе служэнню беларускаму слову, і адпаведна да іх трэба ставіцца.

**— І ўсё ж дазвольце задаць крышку "правакацыйнае" пытанне... Ці не даводзілася вам прымаць ролю своеасаблівага заступніка беларускай савецкай літаратуры перад паэтамі й пісьменнікамі эміграцыі?**

— Я б не сказаў... Справа ў тым, што ў жыцці беларускіх эмігрантаў, у тым ліку і ў іх літаратурным жыцці, самым галоўным заўсёды была Беларусь. І калі нават хтось на Радзіме быў афіцыёзным паэтам, але ў той жа час свядомым і адданым беларусам, то яны гэта адчувалі. У свой час у Вярхоўным Савеце ішло нешта такое супраць мяне ў сувязі з паэмай "Ленін думае пра Беларусь", і я памятаю, як Масей Сяднёў з гэтай нагоды напісаў прыкладна так: "Што вы робіце? Няўжо вы не бачыце, што паэма Бураўкіна не пра Леніна — паэма Бураўкіна пра Беларусь!"

Карацей, абараняць нашу літаратуру мне не даводзілася. Яны высока цэняць Брыля, Мележа, Куляшова, Быкава, Пысіна, Барадуліна, Панчанку і многіх іншых. Яны разумеюць, што Беларусь — якая, гэта ўжо іншая гаворка! — усё-такі тут...

**— Генадзь Мікалаевіч, сягоннячні стан беларускай літаратуры ацэньваецца ў нашай крытыцы па-рознаму. Хтось з радасцю піша аб эмансіпацыі нашай літаратуры і ейны ўзыход на еўрапейскі ўзровень, хтось з жалем сцвярджае аб занядбанні асноў традыцыі, а хтось паныла канстатуе суцэльны крызіс ці нават смерць культуры... Якія вашы меркаванні адносна гэтага? Ці падзяляеце, у прыватнасці, апошнюю з вышэйпералічаных апіній?**

— Нязгодны абсалютна. Калі памірае дрэнная літаратура, то гэта і добра. Але наогул як яна можа паміраць ці знаходзіцца ў нейкім страшэнным крызісе, калі я чытаю новыя апавяданні Васіля Быкава, калі ў мяне на стале ляжыць мая любімая кніжка Рыгора Барадуліна "Евангелле ад мамы"? Які ж крызіс, калі выходзяць такія кнігі? Зрэшты, і вы, першацветаўцы, ваш часопіс — даказваеце, што наша літаратура не памірае.

Іншая справа, што мы крыху разгубіліся перад тым часам, у якім жывём. Мы не асмельваемся да канца сказаць нашаму народу тое, што трэба, тое, што ім сказаў некалі Купала. Сказаць яму, што ён, бывае, не варты сваіх лепшых сыноў і дачок, што ў яго хапае і малакультурнасці, і халуйства... Хаця мы бачым гэта сёння як ніколі.

І што, зрэшты, лічыць крызісам? Тое, што мы нечага не напісалі на сучасныя тэмы? Але што такое "сучасная тэма"? Я ж помню, як крытыкі хвалілі Шамякіна, а Мележа за "Людзей на балоце", за кніжку, якой мы ўсе сёння ганарымся, якая даўно ўжо класікай стала, — бэсцілі.. Складана ўсё...

Што ж тычыцца розных новых форм, тэндэнцый, накірункаў, якія памянялі агульнае аблічча нашай літаратуры за апошні час, то добра гэта ці дрэнна — можна дыскутаваць. І хаця беларуская літаратура сапраўды значна змянілася, я лічу, што, напрыклад, паэзія наша і да гэтага часу знаходзіцца яшчэ на нейкім этапе, які многія літаратуры свету прайшлі ўжо. "Зямная" аснова нашай паэзіі, пра якую гаварыў некалі Твардоўскі, — яна ў нас і да гэтага часу засталася. І нават той Алесь Разанаў застаецца ў гэтым рэчышчы. Гэта ўсё ідзе, відаць, ад таго, што мы не вычарпалі нешта ў свой час. І я лічу, у нас ёсць яшчэ што чэрпаць. І ёсць каму чэрпаць. Але, канешне ж, трэба выходзіць і на нейкі новы ўзровень — больш інтэлектуальны, больш філасофскі ды і больш мадэрновы. Не трэба баяцца гэтага. У свой час Максім Багдановіч свядома выпрабоўваў розныя еўрапейскія формы верша — каб паказаць, якога высокага ўзроўню беларуская мова, каб даказаць, што і мы, з нашымі мовай, паэзіяй, талентамі, можам цягацца з іншымі... Уся справа, безумоўна, у тым, што стаіць за ўсім новым і, так сказаць, мадэрновым... Калі гэта робіцца так, як робіць Алесь Разанаў, я — за. Калі ж так, як робяць некаторыя іншыя, калі, напрыклад, сёй-той бярэ японскую ці кітайскую форму і пачынае выдаваць гэта за нешта новае, то гэта, даруйце, смешна. Такія таленавітыя паэты, як Рыгор Барадулін, могуць за дзень гэткіх "рэчаў" два тамы пісаць.

**— Генадзь Мікалаевіч, калі ласка, на заканчэнне — ваш прагноз беларускай літаратуры на наступнае стагоддзе:.. Што б вы хацелі ў ёй бачыць, чаго — не?**

— Перш-наперш я прасіў бы, каб нехта забяспечыў маю прысутнасць у дваццаць першым стагоддзі. Ну, а калі сур'ёзна, то я думаю, што літаратура наша будзе больш філасофскай, больш аналітычнай, асабліва проза. Тут можна ўспомніць ужо нават тое, што рабіў Алесь Адамовіч. Здаецца мне, якраз нешта такое, але, вядома ж, у іншых формах і вымярэннях, павінна развівацца.

Што будзе ў паэзіі? Баюся рабіць прагнозы, але факт, што перажывае яна зараз вельмі і вельмі няпросты этап. Самі таго не хочучы прызнаць, мы ў нечым вычарпаліся. Новага ж, такога, што б'ецца крынічкай і вось-вось выльецца, — не бачу. І кажу я не толькі пра нейкія там формы — не, я не пра тое. У талентах справа. У паэзію нашу павінны прыйсці яркія таленты, якія прынясуць з сабой і свае новыя формы, і сваё паэтычнае мысленне, і сваю адметную лексіку... Я вось, напрыклад, вялікія надзеі ўскладаў на Анатоля Сыса, бо мне здавалася, што ён нясе ў сваіх лепшых вершах нешта вельмі глыбокае, глыбіню свайго "я", хай ён у форме і не надта шукаў. На жаль, новых яго вершаў я не бачу...

Карацей, цяжка гаварыць, як там будзе. Я вельмі хачу, каб там было таленавіта і здорава.

**Запісаў Мікола ВІЧ**

# Увага: конкурс!

У адпаведнасці з Праграмай ААН—СНІД у Рэспубліцы Беларусь Міністэрствам культуры, Міністэрствам аховы здароўя, Беларускім Саюзам мастакоў праводзіцца Рэспубліканскі конкурс на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам "Небяспека — СНІД".

Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІДа — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.

Конкурс з 5 лістапада па 22 снежня 1997 года.

Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы па адрасе: г. Мінск, вул. Казлова, 3, Палац мастацтваў.

За лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:

адна першая — 10 млн. рублёў
адна другая — 7 млн. рублёў
адна трэцяя — 4 млн. рублёў.

**Кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы ўдзельнікі конкурсу могуць атрымаць у Беларускім цэнтры прафілактыкі СНІДа (220030, г. Мінск, вул. Ульянаўская, 3. Тэл. 227-42-16).**

Згодна з рэкамендацыяй Сусветнай Арганізацыі Аховы Здароўя ў плакатах па барацьбе са СНІДам нельга выкарыстоўваць жахлівыя выявы альбо сімволіку, якая псіхічна ўздзейнічае на людзей.

# Час мяняць лёс, а не палітыкаў

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Наўрад ці варта захапляцца сумнеўнымі кампліментамі наконт таго, што рускі чалавек валодае "найвялікшай здольнасцю прыстасоўвацца да любых умоў". Трэба нарэшце раз і назаўжды вырашыць, што мірыцца з ганебнымі для чалавека ўмовамі існавання брыдка. Чакаць, што нехта нас навучыць жыць па дабратворных замежных рэцэптах і мерках, неразумна. Не мець уласнай нацыянальнай канцэпцыі, ці, як цяпер з лёгкай рукі прэзідэнта сталі гаварыць, "нацыянальнай ідэі", ганебна. Тым больш, што яна ёсць. Толькі не там яе шукаюць. Гэта ідэя... класічнага рускага анархізму.

Не таго, вядома, што быў апошлены і акарыкатураны чорнымі пірацкімі сцягамі, бацькам Махно, літаратурнымі і драматургічнымі вобразамі "важакоў", "важачкоў", "сіпатых" і "лёвак задавых". Але асвечанага і існуючага ў канстытуцыйных рамках. Гэта ідэя, карэнне якой у самой душы рускага народа, гэта ідэя свабоднага, гордага, незалежнага, але адказнага чалавека. Выказаная славутымі словамі А. Пушкіна: "На свете счастья нет, но есть покой и воля".

Суверэнітэт дзяржавы пачынаецца з суверэнітэту асобы і ім жа сканчаецца. Нас доўга пераконвалі, што нацыянальная прырода рускага чалавека вымагае саборнасці, калектывізму. Няпраўда. Такая трактоўка выгадная і зручная ўладам. Яна дапамагае зганяць людзей у статак. На самай жа справе рускі чалавек па натуры індывідуалістычны, ён самадастатковы. Ім, безумоўна, кіруюць пачуцці дружбы, ахвярнасці, гатоўнасці аддаць уласнае жыццё за жыццё і свабоду іншага чалавека. Але толькі тады, калі ён свабодны асабіста. Усведамленне таго, што любая ўлада — насілле, і ўлада грошай таксама, у рускіх людзей у крыві.

Іншая рэч, што суверэннае існаванне асобы вымагае высокай сталасці грамадскіх адносін. Да рэалізацыі на практыцы ідэй свабоды ў іх сапраўдным, нацыянальнарускім значэнні трэба дарасці не гэтак чалавеку, як грамадству. Ленін — дарэчы, не самы дурны палітык у нашай гісторыі — гэта разумеў. Ён гаварыў пра аднаго з пачынальнікаў падобнае ідэалогіі — князя Крапоткіна, чалавека найвялікшага высакародства, мудрасці і мужнасці: ідэі крапоткінскага "анархізму", асвечанага і канстытуцыйнага, не таму непрымальныя, што шкодныя, а таму шкодныя, што несвоечасовыя...

Пастскрыптум. Праз некалькі дзён пасля таго, як матэрыял пра "лёсаносныя" нягоды нашага жыцця і заганнасці расійскай улады быў напісаны, я перачытаў яго пабочным, не аўтарскім, а рэдактарскім вокам. Павінен сказаць, што ўсё напісанае мне вельмі не спадабалася. Дакладней, засмуціла. Захацелася самога сябе абвергнуць. Ды важкіх аргументаў, якія можна было б выставіць насуперак сказанаму, я не знайшоў. Можа быць, гэта ўдасца зрабіць каму-небудзь з маіх калег ці чытачоў? Буду вельмі ўдзячны...

*("Литературная газета", 5.XI.97, N 45 (5677)*

